НАДБЯРЭЗІНСКАЯ ШЛЯХТА

УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 1(30) — 2021

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ФРАГМЕНТЫ ЛІТОЎСКАЙ АТЛАНТЫДЫ

БЕРЛІН

«НІЧОГА НЕ БОЙСЯ, Я ЗАГІНУ ДЗЕЛЯ ПЕРАМОГІ»

## ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ

МЕЛЕЖ, ЯКІ ЎСІХ ЗДЗІВІЎ

16+

Выйшлі з друку два абсалютна новыя для Беларусі часопісы. Адзін называецца «Дуду», а другі — «Асцярожна: дзеці!». Купіце сваім малым два: яны самі разбяруцца, каторы ім цікавейшы. Часопісы прадаюцца ва ўсіх шапіках, кнігарнях, а таксама гіпермаркетах.

«Асцярожна: дзеці!». Тут галоўныя героі — Цім, Мара, сабака Газ, кот Тормаз і Занадта Разумны Смартфон — разблытваюць розныя дэтэктыўныя гісторыі. І заадно разам з чытачамі спазнаюць свет. У часопісе — і карысная інфармацыя, і захапляльныя прыгоды, і заданні, якія трэба выканаць, і конкурсы, у якіх можна перамагчы, і QR-коды, па якіх можна будзе выйсці на старонкі ў інтэрнэце з цікавай інфармацыяй. У кожным выпуску Цім, Мара, Газ і Тормаз будуць шукаць скарбы, апынуцца ў надзвычайных сітуацыях і пры гэтым будуць карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс**
**«Асцярожна: дзеці!» — 75080**
(ведамасны 750802)




# Найлепшы падарунак дзецям «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!»




Часопіс «Дуду» разлічаны на дзяцей да сямі гадоў, але чытаць яго могуць дзеці ад 1 да 101 года. Казкі, вершы і нават музыка ды песні (іх можна прайграць па QR-кодах), інтэрактыўныя гульні, коміксы, конкурсы, дзівосы, сюрпрызы — усё гэта будзе ў кожным нумары часопіса. А таксама заданні на развіццё логікі, увагі і памяці, дробнай маторыкі, для папаўнення слоўнікавага запасу і падрыхтоўкі да школы. Яшчэ мы будзем дапамагаць дзецям вучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Нумары часопіса будуць тэматычнымі. Тэмы нумароў: каты і іх жыццё, метро і іншы транспарт, булачкі і цукеркі, зоркі і касмічныя караблі, сонца і хмары, любімыя святы, небяспечныя драпежнікі і пеўчыя птушкі і іншае… Героі часопіса — хлопчык Зор, дзяўчынка Лёля і падушка Дуду — стануць надзейнымі сябрамі чытачоў. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс «Дуду» — 75081** (ведамасны 750812)

Наша Гісторыя
1/2021
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснік галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — падлеткі ў святочных строях, 1973 год. Вёска Букча, Лельчыцкі раён. Фота Міхася Раманюка. Калекцыю захоўвае яго сын Дзяніс Раманюк.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 02.02.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0036/21.
Наклад 5027.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

На старонках «Нашай гісторыі» мы ўвесь час друкуем матэрыялы, прысвечаныя эпізодам не толькі «вялікай» гісторыі, але і «малой», сямейнай. І самі людзей заахвочваем чымсьці такім дзяліцца, і яны нам з уласнай ініцыятывы пішуць. Распавядаюць пра тое, што перажылі самі ці што ім расказвалі іхнія бацькі і дзяды. А да ўсяго таго звычайна прыкладаюць нейкія артэфакты з сямейных архіваў: старыя фотакарткі, сканы розных дакументаў, здымкі нейкіх рарытэтных рэчаў і г. д.

Глядзіш, бывала, і дзіву даешся. Як магла якая малазначная ў практычным сэнсе цыдулка так доўга перахавацца недзе па куфрах і скрынях, шафах і шуфлядах, шкатулках і мяшэчках? Чаму людзі яе не выкідалі, а дзесяцігоддзямі працягвалі захоўваць?

Дзіўнага, аднак, нічога няма. Беларусаў цягам гісторыі часта падманвалі. У адным толькі XX стагоддзі яны змянілі некалькі грамадзянстваў, знаходзіліся пад некалькімі акупацыямі. Змены былі часта гвалтоўныя, пры якіх новыя ўлады адмаўляліся выконваць абавязкі старых. І тады ўсё жыццё даводзілася пачынаць наноў, амаль з чыстай старонкі. На руках жа ў людзей заставаліся грошы, на якія ў новых умовах ужо нічога нельга было купіць, дакументы на зямлю і маёмасць, якая ім ужо не належала, розныя распіскі, па якіх немагчыма было ўжо нічога спагнаць.

Але ў глыбіні душы людзі ўсё ж заўсёды спадзяваліся, што справядлівасць, можа, некалі будзе адноўленая. А па-другое, хто ведае, што будзе далей? Раптам тое, што цяпер пустая паперка, калісьці, пры нейкім чарговым зігзагу гісторыі, неспадзявана стане карысным і дазволіць давесці нейкія свае правы, якія цяпер нікога не абыходзяць?

Часам спадзевы былі не беспадстаўныя. Напрыклад, мая баба ў апошнюю вайну разам з іншымі аднавяскоўцамі была ўгнаная ў Германію. Цяжка там працавала, шмат перанесла розных нягодаў, але выжыла. А пасля вяртання на радзіму прайшла фільтрацыю ў райаддзеле НКГБ і атрымала адпаведную даведку. Гэтая невялічкая, зжаўцелая ад часу паперка ляжала ў каробцы з іншымі дакументамі амаль паўстагоддзя, да пачатку 1990-х. Калі ж у новых умовах загаварылі пра тое, што немцы гатовыя выплаціць былым остарбайтарам кампенсацыю, яна прыдалася, каб запусціць працэс яе афармлення.

Таму — збірайце артэфакты, дакументы, не выкідайце нічога, што можа мець гістарычную значнасць. Гісторыя — працэс няспынны, яе павароты ды зігзагі нярэдка нечаканыя. Але пра гістарычную памяць варта дбаць заўсёды. Каб пасля не шкадаваць.

**Аляксандр Пашкевіч**














**тэма**

**4 Мележ, які ўсіх здзівіў**

пошта і водгукі

**17 Першы сцяг БССР...** Настальжы...

адкуль наш род

**18 Што нам дала гістарычная Літва?** Рэфлексуе кандыдат гістарычных навук **Алег Дзярновіч**

**нацыянальная геаграфія**

**24 Надбярэзінская шляхта**

конкурс

**32 «Нічога не бойся, я загіну дзеля перамогі»**

**нашы далёкія**

**38 Анёл і змей, чарапы і сэрцы.** Знакі памерлых на хрысціянскіх могілках

разбор карціны

**46 Жніво.** Самая беларуская карціна міжваеннай Польшчы. Пра беларускі шэдэўр 1930-х піша мастацтвазнаўца **Надзея Вусава**

**пра-свет**

**52 Блакада Берліна.** Як Захад паказаў сваю рашучасць у крытычны момант

**турыстычныя кірункі**

**58 Берлін.** Сучасная архітэктура, стрыт-арт і каляфутбол, расказвае **Ягор Хаванскі**





























спадчына

**70 Табакеркі супраць цара і чорта.** Піша доктар гісторыі **Алесь Белы**

наша страва

**75 Калдуны.** Татарскія, беларуска-ліцвінскія і габрэйскія






рэч паспалітая

**80 Фрагменты «літоўскай Атлантыды».** Замалёўкі, зробленыя рукой гетмана Януша Радзівіла, змяняюць нашы ўяўленні пра гэтую асобу, пішуць кандыдат гістарычных навук **Мікола Волкаў** і **Кірыл Карлюк**









полацкае княства

**86 Усяслаў Чарадзей, які выстаяў.** Пра Усяслава Брачыславіча піша кандыдат гістарычных навук **Генадзь Семянчук**

малая радзіма

**92 З-пад Шчорсаў — у Сібір.** Як беларусы з Наваградчыны будавалі сваё жыццё за тысячы кіламетраў ад родных мясцін, піша супрацоўніца Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея **Галіна Кавальчук**

што пішуць

**96 Фота Мікалая Стасюка...** Дакладная запіска аб чэргах у горадзе Мінску ў 1939 годзе... Тураў у Юравічах...



З АРХІВА СЯМ'І МЕЛЕЖАЎ

# Мележ, які ўсіх здзівіў

**Пра андэрдога беларускай літаратуры, нацыянальнага класіка, які стаў ім нечакана для ўсіх, піша Андрэй Скурко.**

Каралішчавічы пад Мінскам. Лета. На Свіслач за Домам творчасці пісьменнікаў прыязджаюць купацца жывыя класікі. Драматург Андрэй Макаёнак ставіць сваю шыкоўную «Пабеду» пасярод пляжа, адчыняе ўсе дзверцы і шумна ідзе ў ваду, а пасля, наплёхаўшыся, бярэцца мыць машыну. Другая такая ж «Пабеда» спыняецца на ўскрайку, каля кустоўя. З яе ціха выходзіць чалавек з востра ўзнятым угару правым плячом і нешырокай усмешкай. Ніхто з назіральнікаў не запомніў, каб ён хоць раз распрануўся на пляжы. Гэта Іван Мележ, аўтар аднаго з найлепшых беларускіх раманаў XX стагоддзя.

### «Трагічная фігура»

«Калі не лічыць тых, на каго абрушыўся тапор рэпрэсій, Іван Паўлавіч трагічная фігура ў нашай літаратуры», — пісаў Іван Шамякін.

«Высокі ладны прыгожы чалавек, элегантна апрануты — у драпаваным паліце або ў светлым габардзінавым макінтошы, у светла-рудой шапцы-вушанцы або ў чорным берэце, гэтакі ветлівы і далікатны — было дзівам, як ён стараецца не трапляць людзям на вочы з-за свайго глухога кашлю, з-за патрэбы настаўляць вышэй каўнер і цёплым шалікам тоўста ўкручваць шыю, рукой затульваць дыханне», — успамінаў яго сусед Ян Скрыган.

Вайна зрабіла з Мележа руіну ў дваццаць з нечым гадоў. Зрок і слых былі пашкоджаныя кантузіяй, холад і нішчымніца справакавалі хваробы нырак

і лёгкіх, плечавы сустаў быў ампутаваны — правая рука трымалася на мышцах і сухажыллях. Ён не мог гаварыць на вуліцы ў сырую пагоду і ўсё жыццё трымаўся жорсткай дыеты.

Ён пісаў, пераадольваючы фізічную немач. Але, каб не вайна, невядома, ці стаў бы Мележ пісьменнікам. Прынамсі, пісьменнікам беларускім.

## Хойніцкі год

Ён, вучань беларускіх школ у родных Глінішчах, а пасля Алексічах і Хойніках, захапляўся літаратурай, пачаўшы ад прыгодніцкіх аповесцяў Янкі Маўра. Яго падлеткавае апавяданне пра смелага пагранічніка надрукаваў дзіцячы часопіс «Іскры Ільіча» (будучая «Бярозка»). Яго юнацкі верш «На сенажаці» дружна абсмяялі калегі на канферэнцыі маладых пісьменнікаў у Мінску ў 1938-м.

Пасля школы ён падае дакументы ў Маскоўскі інстытут філасофіі, літаратуры і гісторыі, дзе вучыліся Аляксандр Твардоўскі, Аляксандр Салжаніцын, Канстанцін Сіманаў. Хоць выдатнікаў мусілі прымаць без экзаменаў, Мележу нават не адказалі. Папрацаваўшы год кіраўніком аддзела піянераў у Хойніцкім райкаме камсамола, ён ізноў падае дакументы ў Маскву — і дабіваецца залічэння.


З АРХІВА СЯМ'І МЕЛЕЖАЎ

**Іван Мележ** у 1943 годзе.

Вучоба была кароткай, неўзабаве Івана прызываюць у войска. Дзмітрый Бугаёў, аўтар першага вялікага даследавання творчасці Мележа, лічыў, што той хойніцкі год, які малады камсамольскі сакратар выездзіў на «персанальным веласіпедзе» па навакольных вёсках, даў яму болей пісьменніцкага багажу, чым літаратурны інстытут.

## «Мяне ратуе нікчэмны выпадак»

Сярод класікаў беларускай літаратуры XX стагоддзя, якія прайшлі войны, было многа артылерыстаў. У рускай літаратуры «артылерысцкая» традыцыя ідзе ад Льва Талстога з яго «Севастопальскімі расказамі» ды ад лермантаўскага «Барадзіна». У беларускай яе запачаткаваў Максім Гарэцкі з яго Лявонам Задумай на імперыялістычнай вайне. Ужо на Другой сусветнай камандаваў узводам «саракапятак» Васіль Быкаў, зенітчыкам быў Іван Шамякін. Двойчы прайшоў з цяжкімі гаўбіцамі праз усю Украіну і Іван Мележ.

Пасля вучэбкі пад Данецкам іх паслалі займаць Паўночную Букавіну і Бесарабію. Сённяшняя расійская прапаганда любіць папракаць Польшчу міжваеннымі грахамі — захопам горада Цешын у Чэхаславакіі — забываючыся, як у 1939-м і 1940-м СССР выставіў тэрытарыяльныя прэтэнзіі Фінляндыі і Румыніі. У адрозненне ад фінаў (пра савецка-фінскую вайну гл. артыкул Андрэя Акушкі ў № 11/2019 «Нашай гісторыі»), румыны ваяваць з саветамі не наважыліся, пасланыя Масквой войскі занялі Паўночную Букавіну (цяперашняя Чарнавіцкая вобласць Украіны) і Бесарабію (цяперашняя Малдова без Прыднястроўя) без бою. Адтуль, ад малдаўскай мяжы, Мележ у 1941-м будзе адступаць з разбітымі савецкімі часцямі аж да Растова-на-Доне.

Першыя тыдні і месяцы вайны выклікалі ў маладога салдата шок: «Хто б мог падумаць, што ўсё так павернецца?» Пасля першых сутыкненняў ад батарэі Мележа засталося каля дваццаці чалавек. «Самае страшнае: жыццё на вайне залежыць ад выпадковасці, ад капрызу лёсу. Ад нейкай драбніцы. Якую ні прадбачыць, ▶

### Сямейныя хронікі

У Мележаў было сямейнае паданне пра паходжанне іх прозвішча ад чэха Ігнацыя Мележка. Той нібыта ўцёк у Расію, трапіў там у войска, дзе пазнаёміўся з чалавекам з Глінішча. Прыехаўшы ў госці да сябра, закахаўся ў мясцовую дзяўчыну Кацярыну і ажаніўся. Мележ да легенды ставіўся скептычна, хоць прозвішча і насамрэч можа паходзіць ад імені Мялецій — як Мялет, Мялешка або персанаж любімай кнігі Мележа — Мелехаў з «Ціхага Дона» Міхаіла Шолахава.

Бацькі пісьменніка былі малазямельныя сяляне вёскі Глінішча цяперашняга Хойніцкага раёна. Павел Фёдаравіч быў вясковым цесляром і бондарам, маці Марыя Дзянісаўна — гаспадыняй і знаўцай народных песень. У іх было шасцёра дзяцей: сыны Іван, Расціслаў, Генадзь і дочкі Юлія, Любоў і Тамара. Яшчэ два першыя сыны памерлі малыя. Мележы выжылі ў вайну, хоць фашысты, адступаючы, спалілі вёску.

▶ ні ўгадаць... Ужо некалькі разоў мяне ратуе нікчэмны выпадак. Але так не можа быць доўга. Недзе я падстаўлю сябе...» — пісаў ён у дзённіках 1941-га.

Адзін раз па сланечнікавым полі за некалькі крокаў ад яго праехаў нямецкі танк, не заўважыўшы. Іншым разам асколак забіў салдата, што заняў яго звычайнае месца каля гарматы. А неяк у данецкім стэпе іх батарэю на маршы, палічыўшы за немцаў, абстраляла свая ж авіяцыя.

«Дзе нашы? Дзе наша браня?» — увесь час перапытвае ён сам у сябе. Прайшоўшы палову Украіны ад Стрыя пад Львовам да Умані, Мележ не сустрэў ніводнага савецкага танка ці самалёта. «Раз-пораз у высокім небе пралятаюць нямецкія самалёты. І ні аднаго нашага. Дзе яны падзеліся?» — такія небяспечныя для палітработніка пытанні з'яўляюцца калі-нікалі ў дзённіках. Як і захапленне трафейным нямецкім аўтаматам: «Нам бы такія!»

**Пасля ранення плечавы сустаў быў ампутаваны — правая рука вісела на мышцах і сухажыллях**

## Асколак

Разуменне, што і яго ўрэшце зачэпіць, спраўдзілася 20 чэрвеня 1942 года падчас бамбёжкі Растова: Мележа цяжка параніла асколкам авіябомбы ў плячо. Пачыналася гангрэна, і, калі б не хірург Антонаў, Мележу ампутавалі б усю руку. Але той хірург, насуперак меркаванню калег, вырашыў рызыкнуць: выдаліў толькі плечавы сустаў.

Усё далейшае жыццё рука Мележа вісела на мышцах і сухажыллях, ад таго правае плячо выглядала карацейшым, а пастава здавалася трохі нахіленай управа.

Рука спачатку не дзейнічала наогул, але з часам Мележ распрацаваў яе да таго, што змог пісаць і кіраваць аўто.

Пасля рэабілітацыі ў шпіталях Тбілісі і Есентукоў яму далі шэсць месяцаў адпачынку і даведку на атрыманне часовай пенсіі «па месцы жыхарства». Гэта выглядала іроніяй: Беларусь тады была пад немцамі.

Не меўшы куды падацца, Мележ паехаў «паглядзець Расію» — радзіму класікаў рускай літаратуры. У заплечніку ляжалі тры тамы «Ціхага Дона» Шолахава — кнігі, якой ён захапіўся ў шпіталі і якую перачытваў да канца жыцця.



З АРХІВА СЯМ'І МЕЛЕЖАЎ

**Іван Мележ у войску.**



З АРХІВА СЯМ'І МЕЛЕЖАЎ

**Іван Мележ (сядзіць у цэнтры)** з саслужыўцамі.

Другім любімым пісьменнікам быў Леў Талстой. У Мележа заўважаецца такое: калі ўжо пісаць, то «Вайну і мір». Колькі разоў, скончыўшы чарговы раман, Мележ заракаўся, што нарэшце адпачне, зоймецца апавяданнямі, п'есамі, але імкненне да вялікіх формаў і вялікіх тэм перамагала.

## Бугуруслан і Пятровы

У дарозе з Баку на Куйбышаў Мележ вырашыў заехаць у горад Бугуруслан на мяжы сённяшніх Арэнбургскай і Самарскай (тады — Чкалаўскай і Куйбышаўскай) абласцей Расіі. У Бугуруслане было даведачнае бюро для эвакуіраваных — шанец даведацца штосьці пра родных. Мележ затрымаўся, не ў апошнюю чаргу таму, што ў бюро працавала картатэччыцай 22-гадовая Лідзія Пятрова.

У Пятровых Мележ і закватараваў. Увесь Бугуруслан быў тады перавалачным пунктам для тых, хто ехаў на фронт, з фронту, у эвакуацыю. «Адны выязджаюць, другія селяцца», — успамінала Лідзія. У іх доме пастаянна жылі 9 чалавек бежанцаў. Іван Мележ сярод гэтых часта досыць прыземленых асобаў «здаваўся чалавекам з іншага свету». Яго вылучалі адухоўленасць і вобраз рамантычнага героя: бледнасць, худзізна, перавязаная рука.

Віліся даўнавата не стрыжаныя валасы. За спінай быў рэчмяшок з «Ціхім Донам».

У Бугуруслане Мележ, які атрымаў другую групу інваліднасці і мог не вяртацца на вайну, паступіў у Малдаўскі педінстытут, таксама сюды эвакуіраваны, і адначасова працаваў ваенруком. А ў вольны час катаўся на лыжах з высокіх узгоркаў, трымаючы правую руку на перавязі.

Нягледзячы на калецтва, ён быў заўважным. Дзяўчаты бегалі за ім, прыходзілі ў госці, навязваючыся ў «сяброўкі» Лідзіі, пісалі запіскі непрыхаванага зместу. Але Мележ быў з Лідай. Хоць часам іх сяброўства «перарывалася без асаблівых прычын, без спрэчак і скандалаў, проста ў сілу разыходжання поглядаў».

Мележ добра маляваў і вечарамі прымушаў Ліду пазіраваць. Зморaная на працы, яна, бывала, засынала — і тады атрымлівала «сонны партрэт». Ён не расказваў Лідзе пра вайну, болей пра сваю радзіму.

### «Лепей бы ажаніўся з беларускай»

Яны пажаніліся ў 1943-м, нікому не сказаўшы, без вясельнай урачыстасці. Ліда не ўзяла Іванавага прозвішча, засталася Пятровай. І праз трынаццаць год Мележ гэта ёй прыпомніў, падпісваючы кнігу. Трынаццаць год гэта яго мучыла, перш чым сказаў — такі меў характар.

Ён змалку быў вельмі datклівы. У пяць год, укрыўдаваўшы на маці за нейкі пляскач, ён сышоў з дому і праз балота знайшоў дарогу да дзеда Дзяніса ў суседнюю Каранёўку. Прыйшоў туды пад вечар. Дзед падхапіў малога і кулём павёз назад да напалоханай мацеры.

Ва ўспамінах жонка прызнаецца, што бывалі перыяды, калі ёй здавалася, што лепш бы Іван ажаніўся з беларускай, а яна ўладкавала сваё жыццё іначай. Яна так і не палюбіла Глінішча, радню мужа. Сакрэтам жыцця з ім было, па яе словах, «умець не ўмешвацца, не перашкаджаць». Але Мележ шанаваў яе за рэзкасць і праўдзівасць да яго творчасці — яна не была ўдзячным чытачом, хутчэй прыдзірлівым і злосным.

## Трынаццаць год гэта яго мучыла, перш чым сказаў — такі меў характар

Пятровы мелі свае «літаратурныя традыцыі». Іх сямейная легенда сведчыла, што нейкая з прабабуль служыла ахмістрыняй у маёнтку пісьменніка Сяргея Аксакава. А саму Ліду выключылі з камсамола за чытанне выдадзеных да рэвалюцыі кніг са скрынкі на гарышчы. А ў лік забароненых у СССР 1930-х траплялі і Фёдар Дастаеўскі, і Тэадор Драйзер.

Калі Мележ прызнаўся, што хоча быць пісьменнікам, Ліда засмяялася: досыць у нашай сям'і і аднаго. Яна мела на ўвазе сваю маці Клаўдзію Іванаўну, што ўсё парывалася апісаць у кнізе свае прыгоды з мужам на франтах Грамадзянскай вайны.

Той смех Лідзіі Іван запомніў на ўсё жыццё.

Студэнцка-выкладчыцкі побыт тых часоў быў галаднаваты. Сустракаючыся, супрацоўнікі інстытута замест «Як справы?» віталіся словамі «Як агарод?». Ўратаваннем ад голаду ў тылавым гарадку з дарагім кірмашом былі агароды, лес з грыбамі і ягадамі, рака Кінель з рыбай. Дровы самі рэзалі сабе ў лесе. ▸



ФОТА АЛЯКСАНДР АБОІМАЎ

**Для гарадскіх жыхароў балоты — гэта рамантыка.** Аднак патрэба ў сельскагаспадарчых землях прывяла да масавага асушэння балотаў ва ўсёй Еўропе. У Беларусі гэта здарылася найпазней, у XX стагоддзі.

## ▶ Сходня-Узыходня

Калі ў пасёлку Сходня пад Масквой аднавіў працу Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мележ вырашыў перавесціся туды вучыцца. Жонка прасіла не кідаць яе адну, хворую і цяжарную. Але Мележ быў цвёрды ў рашэннях. Аказалася, ён ужо цішком здаў экзамены за два першыя курсы і быў прыняты ў БДУ на трэці. Скончыўшы збор ураджаю на іх гародзе, ён выправіўся ў Сходню.

Да сям'і Мележ вярнуўся на зімовыя канікулы, у лютым, калі дачцэ Людзе быў месяц, і пастанавіў, што трэба ім разам перабірацца ў Сходню. Гэта было, як пісала пасля Лідзія, *«несколько безрассудно»*: дома было цёпла, жонцы маглі дапамагчы з малой. Не было ні грошай на дарогу, ні жытла ў Сходні. Але Мележ настаяў. Яны з боем убіліся ў тамбур маскоўскага цягніка. Пачуўшы плач дзіцяці, пасажыры пусцілі Лідзію з малой у вагон. Мележ ехаў у тамбуры да самай Масквы.

Цікава, што свайму аднакурсніку Міколу Лобану ён напярэдадні апісваў, як жонка з дачкой прагне пераехаць з Бугуруслана да яго.

У Сходні давялося жыць у прахадным пакоі, адгароджаным прасцінай ад побыту іншых студэнтаў-беларусаў. Есці варылі ў пагнутым салдацкім кацялку: багаж з усімі іх рэчамі і дарагім хатнім архівам — лістамі, фота з першых гадоў іх адносін — згубіўся па дарозе ў Маскву. Не было манкі, малака. Замест цукру ўжывалі здабыты дзесьці хімічны сіроп на сахарыне, прызначаны для газаванай вады. Але Іван Мележ тут быў сярод сваіх. У Сходні ён пачынае весці па-беларуску запісныя кніжкі, у яго заўважна лепшае настрой.


Іван Мележ, ягоная жонка Ліда і дачка Люда.

З АРХІВА СЯМ'І МЕЛЕЖАЎ

У Маскве Мележ пазнаёміўся з Кузьмой Чорным, які жыў у эвакуацыі ў гасцініцы «Якар». Дакладней, адзін з найлепшых беларускіх празаікаў дажываў, страціўшы здароўе ў катоўнях НКВД, дзе аб яго геніяльную галаву білі бутэлькі. «Трэба, хлопцы, пісаць. Наша літаратура панесла вялікія страты», — казаў ён пачаткоўцам. Бедаваў, што няма прозы: аўтары ненапісаных раманаў склалі галовы ў Курапатах. Мележ паказаў Чорнаму свае апавяданні і атрымаў бласлаўленне: «У Вас ёсць талент, і Вы дбайце аб ім». Чорны мякка пакрытыкаваў хібы: параіў сачыць за псіхалагічным абгрунтаваннем учынкаў герояў і за чысцінёй мовы. Ліст Чорнага Мележ захоўваў усё жыццё ў шкатулцы сярод самых каштоўных дакументаў.

А з мовай Мележу і сапраўды давялося папрацаваць. Вось прыклад яго дзённікавага запісу з 1940-х: «Засценчывыя людзі, звычайна, маюць багатае ваабражэнне».

Калі б не рашэнне вырвацца з гасціннага, але чужога Бугуруслана, вярнуцца ў беларускую стыхію, магчыма, Мележ і не стаў бы пісьменнікам. Жыў бы сабе ў перадгор'ях Паўднёвага Урала заслужаны работнік адукацыі і інвалід вайны, пастаянны аўтар «Бугурусланскай праўды».

Сходню Мележ пазней называў «Узыходняй».

Той перыяд, пакеплівала Лідзія, быў адзіным, калі яна «бачыла часам Івана Паўлавіча, занятага хатняй працай». Так то ён увесь час аддаваў літаратуры. Муж, успамінала яна, умеў гатаваць дзве стравы: кашу і бульбу ў лупінах. Аднойчы, застаўшыся з малой, напаіў яе сырой вадой з-пад крана, калі малака не хапіла. Абышлося.

З часам, калі Мележ атрымаў у БДУ пасаду ваенрука, сям'я пераехала ў палову дачнага дамка, арандаванага для супрацоўнікаў. Умовы там былі не такія спартанскія, як у інтэрнаце, але дачцэ ўсё адно даводзілася спаць на чамадане. У дворыку перад хатай Мележ пасадзіў бульбу.

Гэта быў іх апошні маскоўскі адрас. Адразу пасля вызвалення Мінска Мележ вярнуўся туды з універсітэтам.

### Не той напрамак

Была кніга, якую Мележ пісаў усё жыццё. Раман «Мінскі напрамак» ён пачаў у 1947-м, у 26 год.

Гэта быў час, успамінаў ён, калі пра вайну гаварылася, што «не трэба вярэдзіць раны», калі мала што пра яе было напісана. У першыя пасляваенныя гады перамога ўспрымалася без пазнейшай бравурнасці, 9 Мая шырока не адзначалася. Сталін адчуваў глухое незадавальненне франтавікоў, якія пабачылі, што перасталі быць для ўлады «братамі і сёстрамі», ледзь толькі адгрымелі залпы салютаў.

## Пісьменнік працаваў пяць гадоў — твор выйшаў правальны

Мележ у рамане апісвае аперацыю «Баграціён», вызваленне Беларусі, і таго, хто гэта рэалізаваў, — палкаводца Івана Чарняхоўскага.

Пісьменнік працаваў пяць гадоў, перагартаў архівы, сустракаўся са сведкамі падзей. Але ўсё ж сам ён ніколі не бываў ні ў штабе фронту, ні ў партызанскім атрадзе. А можа, паранены ў часе адступлення, яшчэ да бітвы пад Масквой і пералому ў вайне, не лавіў настрою 1944 года. Да таго ж напісаць і праўдзівы, і адначасова ідэалагічна выверана твор пра вайну было проста немагчыма. Гэта добра ілюструюць ганенні на Быкава.

Але і не выпісаць ваенны досвед Мележ не мог. І тут не толькі асабістае: ён лічыў, што **беларусы як ніколі адчулі сябе народам у змаганні з фашызмам**. 26-гадовы пачатковец замахваўся напісаць «Вайну і мір» — кнігу, у якой была б не толькі «лакальная акопная праўда», а «ўся праўда вайны».

Раман крытыкавалі з розных бакоў. Рэцэнзент Іван Кудраўцаў разнёс у ЛіМе першую частку кнігі. «Сапраўдных партызан, якія стваралі партызанскія зоны, няма ў творы Мележа», — закідаў крытык. (А тыя «сапраўдныя партызаны» пасля вайны парабіліся ў БССР вялікім начальствам.) Мележ да канца сваіх дзён не дараваў Кудраўцаву. З яго пасмейваўся Шамякін, які ўмеў жыць дружна са сваімі крытыкамі.

Але і Алесь Адамовіч, адзін з найлепшых літаратуразнаўцаў эпохі, адчуваў, што з раманам штосьці не тое: «Не тая мера эстэтычнай першаснасці матэрыялу, псіхалогіі, быту; нестае ва ўсім таго праклятага “ледзь-ледзь”, ад якога ў мастацтве ўсё залежыць», — пісаў ён.

Ледзь скончыўшы раман, Мележ пачаў яго перапісваць. Вяртаўся ён да «Мінскага напрамку» і выдаўшы «Людзей на балоце», і ў апошнія гады жыцця. Дадаваў у яго па цэлай кнізе, перарабляў: «Хачу, каб раман быў на маім узроўні».




**Іван Мележ, Янка Брыль і Усевалад Краўчанка —** тры пісьменнікі, якіх першым заўважыў Кузьма Чорны.

### Перфекцыянізм

Часам Мележ сам не даваў рады свайму перфекцыянізму. Раз ён, успамінаў пісьменнік і зямляк Мележа Барыс Сачанка, прынёс у рэдакцыю «Полымя» раман «Подых навальніцы» з недапрацаваным апошнім раздзелам. Бо рукапіс, які ляжаў на стале, увесь час вабіў чытаць і правіць нанова з самага пачатку. Ён правіў свае творы нават у гранках, выклікаючы незадавальненне ў выдавецтве, плаціў грошы за перавышэнне ліміту па колькасці правак.

«Я ўсё жыццё сумняваюся ў сваіх здольнасцях», — прызнаваўся ён. Мо ад гэтай незадаволенасці, няўпэўненасці ішло тое, што прымалі за славалюбства. Мележ любіў слухаць добрыя словы пра свае творы. Патрабаваў такой падтрымкі ад сяброў, калег, партыйнага кіраўніцтва, нават ад малазнаёмых людзей. «Яму патрэбна была ацэнка работы для таго, каб працаваць далей», — лічыў Барыс Сачанка. Нават стаўшы класікам пры жыцці, Мележ заставаўся вельмі дакладлівым да крытыкі. У «Работніцу і сялянку» — часопіс з вялізным накладам — Мележ не прынёс ніводнага твора пасля таго, як рэдактар ледзь не зарэзаў апавяданне «Сустрэча за горадам» з-за «амаральнай» тэмы — кахання дзяўчыны і жанатага мужчыны.

Чаму не ўдаваўся «Мінскі напрамак»? Па той самай прычыне, лічыць гісторык Анатоль Сідарэвіч, па якой не вытрымалі выпрабавання часам «Векапомныя дні» Міхася Лынькова ці шамякінскі «Петраград – Брэст», — праўда жыцця канфліктавала з патрабаваннямі літаратуры «крытычнага рэалізму». Пісьменнік мусіў выбіраць: або апяваць партыю і падкрэсліваць ролю яе мудрага ▸

## Ганна, якая выбірае паміж аднаасобнікам Васілём, кулаком Яўхімам, актывістам Міканорам і сталіністам Башлыковым, на якую заглядаюцца ліберал-ленінец Апейка і пачвара Дубадзел, — нібы сама Беларусь 1920-х на раздарожжы

▶ кіраўніцтва ва ўсіх справах — і гэта непазбежна ператварала твор у адарванае ад рэальнасці нудоцце, — або пісаць праўдзіва і стаць «клеветником», пазбыцца ўсіх дабротаў ды прывілегій і да канца жыцця (ці да «пакаяння») пісаць у стол, спадзеючыся, што некалі прыйдзе час для публікацыі.

### Андэрдог

«Людзі на балоце» нарадзіліся з задумы напісаць аповесць пра меліяратараў Палесся. А ў самым пачатку, расказваў Мележ артыстам, якія гралі ў фільме паводле рамана, было апавяданне пра тое, як дзяўчына кахалася з хлопцам, а выйшла за багатага і ўсё жыццё мучылася. А потым матэрыял выйшаў з-пад кантролю.

Ад 40-гадовага Мележа вялікіх здзяйсненняў не чакалі. Ну, напісаў чалавек прахадны раман пра вайну (дырэктар выдавецтва не хацеў нават плаціць за «Мінскі напрамак» па вышэйшай стаўцы, бо «прыносіць суцэльныя страты»), напісаў аповесць «Гарачы жнівень», канфлікт у якой — спрэчка дзвюх брыгадзірак за жнярку... Калі Мележ аддаў у «Полымя» новы ёмісты рукапіс, Ян Скрыган і Янка Брыль адразу пачалі казаць: «Іван, глядзі, можа, скарачай...», а Анатоль Вялюгін засмяяўся: мо лепей было б, каб раман згарэў падчас нядаўняга пажару ў кватэры Мележа.

Але, расчытаўшыся, той самы Скрыган наадрэз адмовіўся штосьці скарачаць. «Людзі на балоце» нечакана паставілі сярэдняй рукі празаіка Івана Мележа ў адзін шэраг з Якубам Коласам і Кузьмой Чорным.


З АРХІВА СЯМ'І МЕЛЕЖАЎ

Іван Мележ на радзіме **ў Глінішчы.**

### Пра што «Палеская хроніка»

Падзеі адбываюцца на Палессі, у ваколіцах Хойнікаў у 1920–1930-я. На прыкладзе лёсу жыхароў вёскі Курані паказана, як ішла ў краіне калектывізацыя. Асаблівасць раманаў у тым, што ў іх няма строгага падзелу на галоўных і другасных персанажаў — усе яны яскравыя і добра выпісаныя, чытач можа пабачыць «праўду» кожнага з іх. Пачынаецца трылогія з гісторыі Ганны Чарнушкі, якая кахае бедняка Васіля Дзятліка, але замуж выходзіць за багацея Яўхіма Глушака. Пасля фокус змяшчаецца на ўпаўнаважанага Апейку, якому выпала пачынаць стварэнне калгасаў, пасля — на сакратара райкама Башлыкова. І ў кожнай наступнай кнізе па-новаму раскрываюцца асобы Ганны, Васіля. Мележ планаваў напісаць пяць раманаў, давёўшы дзею да свайго пакалення, але паспеў толькі тры — «Людзі на балоце», «Подых навальніцы» і «Завеі, снежань» (няскончаны). Ён апісаў у «Палескай хроніцы» родныя мясціны. Правобраз Куранёў — вёска Каранёўка Хойніцкага раёна, адкуль родам была маці Мележа. Да меліярацыі Каранёўка і сапраўды ляжала на востраве між балот.




**Вяселле Яўхіма і Ганны.** Кадр з фільма «Людзі на балоце».

Мележ стварыў настолькі моцныя і рэалістычныя, глыбока нацыянальныя характары, што ў Глінішча пасля прыходзілі лісты Васілю і Ганне ад чытачоў.

«Людзі на балоце» не толькі і не столькі пра палескую вёску Курані. Мележ апісаў цывілізацыйны злом, які перажыла Беларусь у 1920–1930-я, наступствы якога мы адчуваем дагэтуль.

### «Людзі на балоце» маглі згарэць

Пажар у кватэры Мележаў на Карла Маркса здарыўся ад таго, што дачка-падлетак, выбягаючы кудысьці, не выключыла прас. Стол, на якім ён стаяў, прапаліла наскрозь, гарэў паркет. Мележ вяртаўся з Саюза пісьменнікаў, калі агонь ужо патушылі. Першым яго словам было — «кабінет...». Дазнаўшыся, што кабінет цэлы, з радаснай палёгкай уздыхнуў. Там ляжаў рукапіс скончанага рамана.

Ганна, якая выбірае паміж аднаасобнікам Васілём, кулаком Яўхімам, актывістам Міканорам і сталіністам Башлыковым, на якую заглядаюцца ліберал-ленінец Апейка і пачвара Дубадзел, — нібы сама Беларусь 1920-х на раскрэсах дарог.

Мележ праўдзіва апісваў калектывізацыю і ўпіраўся ўжо ў тэму сталінскіх рэпрэсій.

Ён намякнуў на іх, апісваючы лёс маладога паэта Алеся Маёвага ў «Подыху навальніцы». (Каб выпісаць той сюжэт, ён раз злавіў на алеі ў парку Горкага пісьменніка Сяргея Грахоўскага, які прайшоў ГУЛАГ, і некалькі гадзін распытваў, як выглядалі Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі, іншыя знішчаныя пісьменнікі 1920-х, як і дзе яны жылі.)

Нараджаўся канфлікт паміж праўдай жыцця і партыйнай цэнзурай. У зацемках наступных раманаў Мележ планаваў паказаць «псіхоз» масавых рэпрэсій.

### «Туманы над багнай»

Пад такой назвай раман планавалі друкаваць у «Полымі». Назву «Людзі на балоце» Мележ абраў у апошні момант з пятнаццаці варыянтаў.

На першыя ролі меўся выйсці старшыня сельсавета Дубадзел, насупраць прозвішча якога Мележ пазначыў: «Паказаць, як разгортваецца погань у такія моманты». І Апейка, і яго праціўнік Башлыкоў былі б рэпрэсаваныя — і ў пакутах праявіўся б характар кожнага. Дубадзел раскулачыў бы Ганну, помсцячы за тое, што не адказала яму ўзаемнасцю.

## Мележ сказаў, што палешукі яму нагадваюць фінаў

Цяжка было б чакаць іншага ад цыкла раманаў пра пакуты сялянства. Але як Мележ надрукаваў бы гэта ў сярэдзіне 1970-х? Ці пайшоў бы ►




**Сцэна з «Людзей на балоце»** ў пастаноўцы Тэатра імя Янкі Купалы.

на рызыку стаць дысідэнтам? Магчыма, нявырашанасць гэтага пытання і зацягвала працу з «Палескай хронікай».

Фінал «Хронікі» меўся быць біблейскі: у Курані ці то з высылкі, ці то з вайны вяртаецца Васіль і, гледзячы на палоску калгаснай зямлі, за якую некалі біўся і з-за якой ахвяраваў каханнем, разумее марноту пражытага.

«Вайна і вёска» — так папікалі пісьменнікі пакалення 1980–1990-х за тэматычную аднастайнасць старэйшых калег. «Ганна завіхалася ля печы», — паддражніваў Уладзімір Караткевіч. Але гэта былі прэтэнзіі да эпігонаў. «Людзі на балоце» — раман еўрапейскага ўзроўню, які роўна чытаўся і ў Беларусі, і ў Польшчы, і ў Фінляндыі. Мележ і сказаў неяк, што палешукі яму нагадваюць фінаў.

### Бясшумна гатавала яму чай

Жыццёвым прыярытэтам Мележа была творчасць. І побыт сям'і ён арганізоўваў у адпаведнасці з гэтым. Вясной



З АРХІВА СЯМ'І МЕЛЕЖАЎ

і восенню, у сырую пару, калі хворыя лёгкія не дазвалялі Мележу працаваць у Мінску, ён ехаў у Ялту. Не шкадаваў грошай на пералёты самалётам, бо гэта дазваляла ашчадзіць час.

Побытавыя пытанні дапамагала вырашаць Клаўдзія Іванаўна — маці Лідзіі і «хатні бог» сям'і Мележаў, як трапна назвала яе паэтэса Эдзі Агняцвет.

Клаўдзія Іванаўна была выпускніцай царскай гімназіі. Яе муж, чырвоны камандзір, памёр праз год пасля нараджэння Ліды, сям'ю яна цягнула сама. Пасля перанесла сваю энергію на сям'ю дачкі. У тым, што Мележ пражыў хоць 55 гадоў, была вялікая заслуга яго цешчы.

«25 гадоў строгага рэжыму і строгай дыеты — гэта патрабавала надзвычайнай сілы волі ад хворага. І гэта подзвіг для таго, хто забяспечваў такі рэжым, гатаваў дыету, адварваў лекавыя травы», — захапляўся Шамякін.

Мележ прачынаўся а 4–5 раніцы, тут жа падхоплівалася Клаўдзія Іванаўна, бясшумна гатавала яму чай.

І ў 80 гадоў з хворымі нагамі, у летнюю спёку яна ездзіла на рынак купіць дыетычных прадуктаў, калі дачцэ нездаровілася, і зяць пісаў.

«Калі мяне лечыць Клаўдзія Іванаўна, я адчуваю сябе лепш», —

### «Ето», «нібыто» і «унё»

Новым для беларускай літаратуры было і выкарыстанне ў «Палескай хроніцы» элементаў мясцовых гаворак. Якуб Колас, які пісаў «На ростанях» у часы, калі літаратурная мова яшчэ кадыфікавалася, не наважыўся на гэта. «Яны — частка агульнага каларыту беларускага нашага краю... наш брат-празаік не можа быць зусім абыякавым да таго, як гаварылі вякамі і гавораць людзі вялікай часткі нашай зямлі», — бараніў сваё рашэнне Мележ. Ён спачатку пісаў дыялогі герояў літаратурнай мовай — без «ето» і «нібыто» — але яны зайгралі толькі тады, калі загучалі на роднай гаворцы.




**У гэтым доме жыў Іван Мележ,** у тую пару на месцы *Grand Cafe* быў рэстаран «Патсдам».

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

З АРХІВА СЯМ'І МЕЛЕЖАЎ



**З Іванам Шамякіным** на дачы ў Ждановічах.

казаў Мележ, чарговы раз трапіўшы ў бальніцу.

### Мінскія адрасы Мележа

У Мінску адразу пасля вайны Мележы спачатку жылі ў аднапакаёўцы на вуліцы Клары Цэткін, у цагляным доме выкладчыкаў універсітэта. Пасля пераехалі ў пісьменніцкі дом на Ульянаўскай, 29, дзе жылі Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Піліп Пестрак — тут Мележы дзялілі камуналку з удавой Кузьмы Чорнага. Калі быў здадзены «пісьменніцкі дом» на Карла Маркса, 36, Мележу далі там трохпакаёўку. Тут ён, успамінаў Ян Скрыган, «парушыў стандарты размяшчэння кабінета». Звычайна пісьменнікі ставілі стол перад акном і сядалі спінай да пакоя, маючы перад вачамі сцяну дома на процілеглым баку вуліцы. Мележ сцяну ад вуліцы зацягнуў мяккай цёмна-зялёнай драпіроўкай і сеў тварам да кабінета. Пісьмовы стол яго быў «не тутэйшы, лакаваны цёмна-рудым колерам, з авальнымі краямі, з угнутым паглыбленнем для рабочага месца, з палічкамі ў тарцовых сценках пад кнігі, што скрозь трэба мець напагатове... Увесь тлум вонкавага свету аставаўся за драпіроўкай, а тут — свой свет, свая святая святасць». З дапамогай драпіроўкі нават удзень у кабінеце можна было зрабіць прыцемак ці ноч.

**Мележ ненавідзеў шум і пакутаваў ад бяссонніцы не менш, чым ад нырак**

У 1964-м Мележ перабраўся ў большую кватэру на Інтэрнацыянальнай, 26, у дом над тагачасным рэстаранам «Патсдам». Але, прыглядаючы яе, не ўлічылі блізкасці трамвайнага кола. І кожны раз, «калі трамвай на выездзе з плошчы Свабоды ►

### Камуніст супраць нацыянальнага нігілізму

Мележ быў камуністам і нават нейкі час інструктарам ЦК КПБ. У жніўні 1968-га СССР увёў войскі ў Чэхаславакію, каб не даць краіне дэмакратызавацца і не выпусціць з арбіты свайго ўплыву. З партыйных структур на ўсе прадпрыемствы пайшлі дырэктывы арганізаваць сходы і выступіць у падтрымку акцыі «братняй дапамогі». Прыйшоў загад і ў Саюз пісьменнікаў. Дзяжурным сакратаром на той момант быў Іван Мележ. Як дысцыплінаваны член партыі, ён мусіў арганізаваць сход і па-камісарску на ім выступіць, закляйміўшы «контррэвалюцыю».

Стаіць подпіс Івана Мележа і пад лістом групы пісьменнікаў «супраць антысавецкіх выступленняў Салжаніцына і Сахарава» 1973 года. Невядома, ці падпісаў яго Іван Паўлавіч з добрай волі, ці яго подпіс паставілі без дазволу, як было ў выпадку Васіля Быкава — другога беларускага «падпісанта».

Але ад спусканага з самых высокіх партыйных вярхоў «інтэрнацыяналізму», за якім маскіравалася русіфікацыя, Мележ быў далёкі. Ён называў нацыянальны нігілізм «пачварнай формай нацыяналізму, якая таксама зыходзіць з няроўнасці народаў і нічога не мае агульнага з інтэрнацыяналізмам, камунізмам. Калі мы дадаём да слова “нацыяналізм” — “буржуазны”, то да слова “нігілізм” справядліва дадаць яшчэ і — “лакейскі”. Гэта гнюснае пачуцце, асабліва гнюснае таму, што яно зыходзіць у рэшце рэшт з эгаістычнай выгады, таму што яно поўна пагарды да свайго народа, да ўсяго, што здабыта вякамі яго працы».

**Там, дзе яшчэ 100 гадоў таму людзі жылі на балоце, цяпер праблема — пясчаныя буры.** Яны маюць прычынай меліярацыю і змены клімату. Фота Сяргея Плыткевіча, 2020 год.

▸ доўга і тонка звінеў, — па Мележавым твары праходзіў боль». Апроч таго, за сценкай трэніраваўся пачатковец-піяніст. Урэшце Мележ, які ненавідзеў шум і пакутаваў ад бяссонніцы, пераехаў у дом на Купалы, 7, у кватэру з кабінетам, «напоўненым высокім святлом».

І дачу пад Мінскам, у Ждановічах, Мележ нагледзеў, спадзеючыся на творчую цішыню і адсутнасць гарадскога тлуму.

Праўда, і тут бывалі неспадзяванкі. Па суседстве на лецішчы жыў цесць аднаго музычнага дзеяча, які трымаў вялікага сабаку. Сабака брахаў удзень і выў уначы, прымушаючы Мележа пакутаваць ад бяссонніцы. Спробы дамовіцца плёну не далі — гаспадар сабакі пасля стаў адным з правобразаў старога Глушака ў «Людзях на балоце».

Дачы ў Ждановічах пісьменнікам удалося атрымаць выпадкова. Міністэрства будаўніцтва ставіла дачны пасёлак для «сваіх», гэта стала вядома, і адказныя чыноўнікі паабяцалі выдзеліць частку дамкоў пісьменнікам і вучоным. Мележ і Шамякін узялі ўчасткі па суседстве.

## Іван Паўлавіч і Іван Пятровіч

З усіх калегаў па прафесіі Мележ найлепей сябраваў з Шамякіным. Яны былі аднагодкі, выхаванцы камсамола і партыі, якія мыслілі падобна і не ўяўлялі жыцця па-за савецкай сістэмай. Хоць мала б знайшлося такіх непадобных характарам людзей: жывы таварыскі Іван Пятровіч, аматар выпіць у вясёлай кампаніі і паспаць дапазна, і аскетычны, змрачнаваты Іван Паўлавіч, «рабочы кашаль» якога Шамякін чуў за сцяной а 5-й гадзіне раніцы, калі Мележ сядаў за стол у кабінеце.

Балкончыкі іх дачных дамкоў глядзелі адзін на аднаго, і ўранку пісьменнікі выходзілі на іх вітацца. Пры гэтым Шамякін «эгаістычна спадзяваўся», што Мележ не пачне гаворку пра свае хваробы ці сваю творчасць — інакш гэта пагражала стратай некалькіх гадзін.

Іван Паўлавіч любіў паразважаць «пра сваё»: што пішацца, што не, як пісаць, як не пісаць.

Яны пачалі са шчырага сяброўства, але з гадамі адносіны пахаладнелі. Прычынай, пісаў Шамякін, былі пісьменніцкія інтрыгі: маладзейшыя, змагаючыся за ўладу ў СП, спрабавалі, следам за Броўкам, сапхнуць з пасады Шамякіна, заручыўшыся дзеля гэтага падтрымкай Мележа.

Адкрыта яны не сварыліся, але з'явіўся недавер: кожны думаў, перш чым шчыра выказацца пра кагосьці з калегаў-літаратараў у прысутнасці другога.

Мележ быў чалавекам настрою, не пазбаўленым, як пісаў Шамякін, «некаторай падазронасці... напэўна, вынік яго цяжкай хваробы — нефрыту нырак».

За год да смерці пісьменніка міністр аховы здароўя БССР, акадэмік, уролаг Мікалай Саўчанка па сакрэце сказаў Шамякіну, што ныркі Мележа вычарпалі рэсурс і яго трымаюць толькі на моцных леках. Ад перасадкі ж Мележ адмовіўся. Шамякін тады мо ўпершыню жахнуўся: перад ім быў чалавек, які не меў заўтрашняга дня. Бо Мележавы скаргі на здароўе чулі ўсе і ўспрымалі як перабольшанне і нават хітрасць, якая дазваляла не браць грамадскай нагрузкі.

## Апошні палёт

«Мне сніцца, што я лятаю. Дарэчы, мне і цяпер — праз сорак гадоў — сніцца гэта. Проста няёмка!» — натаваў Мележ.

У апошнія гады, прадчуваючы канец, ён многа пісаў: перарабіў зноў «Мінскі напрамак» (лепей бы «Палескую хроніку» скончыў, бурчаў Брыль), напісаў «Завеі, снежань», падрыхтаваў кнігу публіцыстыкі і крытыкі.

На 55-годдзе, адзначанае ў Купалаўскім тэатры, Мележ уразіў прысутных сваёй прамовай. Замест традыцыйнай у такіх выпадках падзякі роднай партыі і ўраду ён пачаў з цёплых слоў народнаму хору яго вёскі Глінішча, што за трыста кіламетраў на калгасным пазіку ▸

прыехаў паспяваць земляку яго любімую «Шумяць вербы каля грэблі».

«Я адчуваю, што тымі сваімі кнігамі, якія вы ведаеце, я расказаў, можа, толькі адну тысячную таго, што я перажыў, што я бачыў у жыцці і што адчувае маё сэрца...» — казаў ён. У апошніх запісах Мележ параўноўваў сябе з надламанай галінай, поўнай зялёных яблыкаў, задумаў новых твораў, якія згінуць разам з ім.




Злева направа: **Іван Шамякін, Іван Мележ і Пятро Машэраў.**

## Развітанне з Глінішчам яму падараваў Пятро Машэраў

1 жніўня 1976-га Шамякін пабачыў з дачнага акна, як сусед, выганяючы машыну з гаража, ледзь не ўехаў у слуп. Вылез, вяла махнуў рукой. Мележ пачуваўся блага, але саромеўся выклікаць хуткую. За руль села жонка, яны паехалі ў мінскую кватэру, адкуль яго і забралі ў бальніцу. Мележ яшчэ мацаваўся, жартаваў да дачкі, што прыйшла адведаць: «Мне не адзінока, са мною мая Соня». Так ён называў партатыўны прыёмнік *Sony*, куплены падчас замежнай паездкі.

9 жніўня жонка Шамякіна пачула, як у гародзе плакала цешча Мележа: «Памрэ Іван Паўлавіч!» У той самы дзень яго не стала.

За месяц да смерці, насуперак меркаванню дактароў, Мележ паехаў у Ялту — быццам развітацца. Вялікая частка яго твораў была напісаная тут, у Місхоры, у санаторыі «Беларусь». Таксама ў Ялце пахаваны Максім Багдановіч, якім Мележ захапляўся і з лёсам якога адчуваў сугучнасць.

Развітанне з Глінішчам яму трохі раней падараваў кіраўнік Беларусі Пятро Машэраў, загадаўшы верталётчыкам падчас палёту з пісьменнікамі на Палессе прызямліцца на Мележавай радзіме.

Вядома, сюрпрыз усхваляваў і парадаваў Мележа, які ў верталёце ўжо сядзеў разам з доктарам. І адначасова пісьменнік мог зблізку пабачыць рэальныя вынікі меліярацыі Палесся, якую называў «вялікай нацыянальнай тэмай»: «За некалькі дзясяткаў гадоў зямля згалела, нібы пасля ледавіка. На багата кіламетраў ва ўсе бакі праглядваецца плоская раўніна, на якой няма за што зачапіцца воку».

Злепак рэчаіснасці, якой ужо ніхто не пабачыць, застаўся ў «Палескай хроніцы». ◆

## Першы сцяг БССР

Паважаная рэдакцыя!

Прапаную вашаму часопісу апублікаваць рэдкую выяву першага сцяга БССР. Гэтая выява змешчаная ў нямецкамоўным каляровым альбоме Юргена Буранта *«Flaggen Europas»*, выдадзеным у «вольным горадзе» Данцыгу (цяпер польскі Гданьск) у 1920-я гады. Дакладны год стварэння альбома не пазначаны, аднак ускосна пра гэта можна меркаваць па змешчаных у ім сцягах дзяржаў і подпісах да іх. Паколькі ў альбоме ўжо фігуруе СССР, то можна меркаваць, што выдадзены ён не раней за 1923 год. Тым не менш усе сцягі, датычныя СССР, падпісаныя тут як *Rußland*. З савецкіх рэспублік, акрамя ўласна Расіі, у альбоме ёсць сцягі Закаўказскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі, Украінскай ССР і Беларускай ССР.

Сцяг з надпісам С.С.Р.Б. малавядомы альбо зусім невядомы шырокаму чытачу. Яго выявы, напрыклад, няма ў 12-томнай Беларускай савецкай энцыклапедыі (БелСЭ), а ў больш сучасных выданнях пра дзяржаўную сімволіку Беларусі прысутнічае толькі «рэканструкцыя па апісанні» (кнігі *Басаў А. Н., Куркоў І. М. Флагі Беларусі. Учора і сёння. Мінск, 1994*; *Рассадин С. Е. Государственные символы Беларуси: исторические истоки и судьбы герба и флага. Минск: Беларусь, 2009* і іншыя падобныя выданні). Гэтую ж рэканструкцыю можна пабачыць і ў інтэрнэце.

Згодна з БелСЭ, сцяг БССР першапачаткова быў прыняты 3 лютага 1919 года, а затым удакладняўся ў 1922, 1927 і 1935 гадах. Басаў і Куркоў паведамляюць, што пошук першага сцяга БССР ні ў сховішчах Беларусі, ні ў архівах Масквы не даў вынікаў, нягледзячы на прыхільнае садзейнічанне адпаведных устаноў. Зразумела, што ў вайну шмат дакументаў было страчана, таму і з'явілася ў публікацыях гэтая самая рэканструкцыя. Яна абапіраецца на пачатковы запіс: «Гандлёвы і вайсковы сцяг С.С.Р.Б. складаецца з палотнішча чырвонага (пунсовага) колеру, у левым куце якога, ля дрэўка наверсе, змешчаныя залатыя літары С.С.Р.Б. ці надпіс: Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі». Магчыма, на самым першым этапе дакладнага эталона сцяга ўвогуле не існавала, таму стваральнікі і абмежаваліся апісаннем словамі.




Што ж, знойдзеная выява гэтаму тэксту адпавядае, але яна паказвае сцяг больш дэталёва — а ў падобным выпадку маюць значэнне і памеры літар, і шрыфт, і прапорцыі. Найбольш жа заўважнае адрозненне ад рэканструкцыі — наяўнасць белай лініі, якая адасабляе верхнюю чвэрць палотнішча. Дарэчы, падобная лінія ёсць і на сцягу РСФСР, толькі там яна залатая, а не белая.

У кожным разе, прыведзеная выява — гэта частка гісторыі Беларусі. Такі сцяг і яго ўдакладненыя варыянты былі ў нас дзейнымі на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, а гэтая версія, хутчэй за ўсё, з'яўляецца якраз першапачатковай. Па прапрацоўцы дэталяў бачна, што эталон у гэты час ужо існаваў.

Такім чынам, знайшлося дакументальнае сведчанне амаль стагадовай даўніны, і яно выглядае вартым публікацыі ды ўвагі, а пасля, магчыма, і змяшчэння ў адпаведныя даведнікі замест ці прынамсі ў дадатак да рэканструкцыі па апісанні.

**Алег Бабак, Мінск**

## Настальжы

Памятаю тыя пакосы, пераварочванне, а сена ліпне, казыча. Самае крутое было потым начаваць на сенавале. У «Нашай гісторыі» (№ 12/2020) выйшаў выдатны тэкст пра сена. Чытаць самім і абавязкова бацькам.

**Андрэй Дзмітранок, Мінск**

## Пра Высоцкага, Ткачова і Маркава

Пра знаёмства Міхася Ткачова з Уладзімірам Высоцкім на Замкавай гары каля Наваградка («Наша гісторыя», № 12/2020, апошняя старонка) усё так. Пра гэта распавёў сам Ткачоў у кнізе «В венок Владимиру Высоцкому. К 50-летию со дня рождения», выдадзенай Гродзенскім універсітэтам у 1988 годзе. Той тэкст амаль цалкам працытаваны ў нядаўна выдадзеным у выдавецтве Змітра Коласа 400-старонкавым даследаванні Аляксандра Лінкевіча і Валерыя Шакалы «Владимир Высоцкий. Беларусь. Любовь с первого взгляда».

Крыху яшчэ пра Высоцкага. Прыблізна дзясятак год таму ў Маскве выдадзена кніга пра яго як пра агента КГБ. Пра нейкае «сяброўства» артыста і грознага камітэта можна было западозрыць, бо ўсё ж яму дазвалялася ў замежных паездках значна больш, чым звычайнаму савецкаму чалавеку (праблемы стварала міліцыя, якая глядзела на яго іншымі вачыма). Але аўтары кнігі (адзін — гісторык, другі — юрыст), імкнучыся зрабіць кнігу бестсэлерам, напіхалі на яе старонкі столькі прыдумак, чутак і намёкаў, што Мікіта Высоцкі (сын Уладзіміра, зараз — дырэктар музея Высоцкага) дамогся праз суд, каб кніга была прызнаная паклёпніцкай і забароненая да продажу.

**Міхась Булавацкі, Магілёў**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.


Краявід пад Наваградкам.

# Што нам дала гістарычная Літва?

**Пра духоўную спадчыну, якой мы сёння карыстаемся, самі таго не заўсёды заўважаючы і ўсведамляючы, піша кандыдат гістарычных навук Алег Дзярновіч.**




Ідэя гэтага тэксту зарадзілася пасля адной з нядаўніх лекцый для выкладчыкаў беларускіх універсітэтаў. Тэма сустрэчы тычылася гістарычна-геаграфічнага размежавання Вялікага Княства Літоўскага, з вылучэннем у яго складзе Літвы і Русі як рэгіёнаў і вызначэннем суадносін паміж гэтымі паняццямі. Часткай гэтага мерапрыемства была таксама дыскусія, на якую нечакана і без папярэджання запрасілі Ігара Марзалюка. Гэты гісторык вядомы адназначнай пазіцыяй, што продкамі сучасных беларусаў у Вялікім Княстве былі выключна русіны, за ліцвінамі ж ён гэтага не прызнае. І пасля майго падсумавання агульных рысаў гэтых канцэптаў, «Русі» і «Літвы», Марзалюк наўпрост задаў мне пытанне: «Алег, ну чаму ты так трымаешся за гэтую Літву? Што яна нам дала?»

Пытанне прагучала для мяне цалкам нечакана і сапраўды прымусіла задумацца. Але ўжо праз хвіліну я здолеў пералічыць па пунктах тое, «што нам дала гістарычная Літва»:

– тэрыторыю;
– мову;
– канфесіі;
– вобразы і знакі;
– традыцыі.

Тады я змог пазначыць сваё бачанне гэтага пытання толькі пункцірна. А ў гэтым тэксце паспрабую шырэй раскрыць і аргументаваць пералічаныя пункты.

## Тэрыторыя

Тэрмін «Літва» мае некалькі значэнняў. У часы роскvіту Вялікага Княства Літоўскага Літвой называлі і ўсю тэрыторыю гэтай дзяржавы. Але ў той жа час унутры яе існавала некалькі гістарычна-культурных рэгіёнаў, сярод якіх Літва ў вузкім сэнсе была адным з галоўных. Яе тэрыторыя ахоплівала ў асноўным заходнюю і паўночна-заходнюю частку краіны, але ментальныя межы гэтага рэгіёна былі рухомыя, з тэндэнцыяй пашырэння на ўсход (гл. на гэтую тэму больш падрабязна ў артыкуле Вячаслава Насевіча «З русінаў у ліцвіны» ў № 8/2020 «Нашай гісторыі»). Так, напрыклад, Менск у XV стагоддзі мог згадвацца як горад, які ляжаў на Русі. Але ў наступным, XVI, стагоддзі ён ужо стала замацаваўся на Літве.

Велізарныя абшары сённяшняй тэрыторыі Беларусі цягам стагоддзяў сталі пад рэгіянальнай назвай «Літва» не толькі інтэгральнай часткай краіны, але і адным з двух яе базавых тэрытарыяльных элементаў. Значную частку гэтай гістарычнай Літвы складалі землі «ўласна Літвы», альбо «Літвы да Міндоўга», якая ахоплівала тэрыторыю Віленшчыны і адкуль у XIII стагоддзі сыходзілі імпульсы новага дзяржавастварэння (гл. пра гэта артыкул «Жыццё да Міндоўга: як выглядала ранняя Літва» ў № 4/2020 «Нашай гісторыі»).

Да рэгіёна Літва (у вузкім сэнсе) у XVI стагоддзі адносіліся паветы: Браслаўскі, Ваўкавыскі, Віленскі, Вількамірскі, Гарадзенскі, Лідскі, Троцкі, Упіцкі, практычна цалкам Ашмянскі і Слонімскі, большая частка Навагрудскага ды заходняя палова Менскага. Мяжа паміж тагачаснымі «Літвою» і «Руссю» не супадала ні з этнічнымі (у сучасным разуменні), ні да канца з адміністрацыйнымі (ваяводстваў і паветаў) межамі.

Такім чынам, каля траціны тэрыторыі сучаснай Беларусі — гэта землі «гістарычнай Літвы».

## Мова

Гэты пункт можа падацца нечаканым, але моўны чыннік таксама звязаны з рэгіянальным фактарам Літвы.

Беларуская літаратурная мова новай эпохі гістарычна базуецца на сярэднебеларускіх гаворках. Гэта пераходны тып гаворак паміж паўночна-ўсходняй і паўднёва-заходняй дыялектнымі зонамі, сфера іх пашырэння цягнецца ад Вільні праз Мінск да Гомеля. На карце Яўхіма Карскага 1903 года гэтая тэрыторыя была пазначана як рэгіён «цвёрдага *р* ►

▶ і моцнага акання». У працэсе ж стварэння літаратурнай мовы ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў былі задзейнічаныя найперш гаворкі паміж Вільняй і Мінскам.

Для гэтага былі гістарычныя і сацыякультурныя падставы. Апублікаванае ў 2011 годзе даследаванне палітолагаў Андрэя Казакевіча і Андрэя Асадчага, прысвечанае рэгіянальнаму і сацыяльнаму складу ўдзельнікаў беларускага адраджэння на мяжы XIX і XX стагоддзяў, дазваляе акрэсліць рэгіён, адкуль у асноўным ішлі імпульсы для новага культурнага і моўнага працэсу — фарміравання праекта беларускай нацыі і літаратурнай беларускай мовы.



Калі ўзяць за крытэрый месца нараджэння тагачасных беларускіх актывістаў, то цэнтрам культурнага руху выступаюць чатыры тагачасныя паветы: Вілейскі, Мінскі, Слуцкі і Віленскі. На гэтай тэрыторыі нарадзілася амаль палова (каля 45 %) ад агульнай колькасці дзеячаў беларускага культурнага руху пазначанага перыяду. Да гэтага ядра можна далучыць і некаторыя іншыя паветы таксама з высокай колькасцю культурных дзеячаў. У Віленскай губерні вылучаюцца Дзісенскі і Ашмянскі паветы, у Гродзенскай — Сакольскі і Слонімскі. Дапаўняе арэал Наваградскі павет Мінскай губерні.

З усіх пяці тагачасных беларускіх губерняў абсалютным лідарам выступае Віленская, у якой нарадзілася 36,5 % актывістаў беларускага культурнага руху. Не нашмат ад яе адстае Мінская губерня. Такім чынам, ініцыятарамі і прапагандыстамі беларускага руху канца XIX — пачатку XX стагоддзя сталі пераважна выхадцы з тэрыторыі колішняй гістарычнай Літвы. Акрамя ўсяго іншага, яны былі аднымі з першых аўтараў і сталых карэспандэнтаў легальнай беларускай прэсы, а таму моўныя асаблівасці іх мясцовасцяў непасрэдна ўплывалі на працэс фарміравання беларускай моўнай нормы.

Сярод найбольш выразных такіх асаблівасцяў — моцнае аканне/яканне. Многія лінгвісты лічаць, што ў беларускай мове гэта з’ява субстратнага балцкага паходжання. Характэрна, што ў нашым рэгіёне толькі ў беларусаў і літоўцаў яканне замацавана графічна ў літаратурнай норме. Тое, што ў сучасных літоўцаў у незапазычаных словах пішацца як ***e***, чытаецца як гук, вельмі блізкі да нашага ***я***. Для перадачы ж уласна гука, падобнага да нашага ***е*** (ці ***э***), у літоўскай мове існуе асобная літара — ***ė***.

Мовазнаўцы сыходзяцца, прынамсі, у адным — беларуская дыялектная сістэма з яе падзелам на паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты канчаткова склалася ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага. Пра гэта сведчаць факты старабеларускага пісьменства.

## Канфесіі

З агульнарэгіянальным паняццем Літва звязана таксама тэма пашырэння і ў пэўным сэнсе нават узнікнення нашых асноўных рэлігійных канфесій. Першае стагоддзе існавання ВКЛ адзначана дынамічнай раўнавагай паміж паганствам балтаў, усходнім хрысціянствам (праваслаўем) русі (народа, а не тэрыторыі) і новым заходнехрысціянскім (каталіцкім) выбарам. Многія князі з дынастыі Гедымінавічаў на рускіх княжаннях прымалі хрысціянства розных абрадаў, але прэтэндэнт на велікакняскую ўладу мусіў цягам некалькіх пакаленняў прынамсі дэкларатыўна заставацца язычнікам.

Рэалізацыя Крэўскай уніі 1385 года прывяла да каталіцкага хросту язычніцкага насельніцтва, якое да таго часу заставалася ў Літве. Пасля таго ў ВКЛ усталяваліся дзве хрысціянскія канфесіі: рыма-каталіцкая і ўсходнехрысціянская славянскага абраду, якую мы сёння разумеем як праваслаўную. Але каб увайсці ў найвышэйшую палітычную эліту краіны, трэба было прыняць каталіцтва: гэтая канфесія была прывілеяваная.

Выбух еўрапейскай Рэфармацыі нечакана даволі моцна адгукнуўся на прасторах ВКЛ сярод арыстакратыі, шляхты і часткова мяшчанства, найперш у форме кальвінізму. Але пачатак Контррэфармацыі прыпыніў працэс пашырэння пратэстантызму і спарадзіў новую рэлігійна-царкоўную з’яву — грэка-каталіцтва (уніяцтва).

Берасцейская царкоўная унія 1569 года была мадэрнізацыйным адказам на выклікі эпохі Рэфармацыі і крызісу Царквы. Цяпер ставіцца пытанне: была ўзніклая ў яе выніку Уніяцкая царква асобнай канфесіяй ці толькі адметнай часткай Каталіцкай царквы? Калі зыходзіць са статутных дакументаў, то трэба прызнаць, што ўніяты былі каталікамі візантыйскай літургічнай традыцыі. Таму на працягу XVII—XVIII стагоддзяў ВКЛ фактычна было каталіцкай дзяржавай з двума асноўнымі абрадамі. На тэрыторыі ж сучаснай Беларусі грэка-каталікі складалі яўную дэмаграфічную большасць. І гэта асаблівасць

вельмі выразна адрознівала рэлігійны ландшафт ВКЛ як ад Расіі, так і ад Польшчы.

А вось прыхільнікі ўласна праваслаўя заставаліся ў ВКЛ на працягу сярэдзіны XVII—XVIII стагоддзяў у яўнай меншасці, хоць былі заўважна прысутныя пераважна ў двух рэгіёнах: Магілёўшчыне — Аршаншчыне і Случчыне. У Слуцку праваслаўныя ўтрымаліся ў XVII стагоддзі дзякуючы пратэкцыі кальвінісцкай біржанскай лініі Радзівілаў. А з сярэдзіны XVIII стагоддзя Праваслаўная царква ў ВКЛ у прыватнасці і ўсёй Рэчы Паспалітай ў цэлым утрымлівалася праз падтрымку з боку Расійскай імперыі.

Канфесійная мазаіка, што склалася ў часы ВКЛ, вызначыла вельмі разнастайны культурны ландшафт краю, які захоўваўся і ў наступныя стагоддзі.

## Вобразы і знакі

Апроч з'яваў, вельмі адчувальных эмпірычна, літоўскі перыяд нашай гісторыі пакінуў нам цэлы шэраг візуальных і мастацкіх вобразаў, а таксама адпаведныя сімвалы і знакі. Цэлыя мастацкія стылі і культурныя эпохі прыйшлі да нас акурат у часы ВКЛ.

З другой паловы XV стагоддзя ў распаўсюджаную раней у ВКЛ архітэктуру візантыйскага стылю сталі пранікаць гатычныя ўплывы. А пасля адбывалася паслядоўнае чаргаванне розных культурных і светапоглядных эпох, еўрапейскіх мастацкіх стыляў і напрамкаў: Рэнесансу, маньерызму, барока, ранняга класіцызму, Асветніцтва. І калі рэнесансныя помнікі яшчэ адзначаліся сваёй стрыманасцю, то барока сапраўды стала «нацыянальным стылем», сфармаваўшы ў нас своеасаблівы і вельмі пазнавальны тып двухвежавых храмаў, распаўсюджаны ад Любавічаў да Коўна. Позні барочны этап на нашых землях атрымаў назву «віленскага барока» і праявіўся ці не найбольш у архітэктуры грэка-каталіцкіх храмаў.

Пашырэнне згаданых мастацкіх стыляў і геаграфічна-храналагічных абсягаў культурных эпох спрычынілася да дыскусіі пра сімвалічныя межы Еўропы. Еўрапейскімі для XVI стагоддзя можна лічыць краіны, дзе сфарміраваліся ўласныя рэгіянальныя версіі Рэнесансу, а не толькі прысутнічаюць імпартаваныя артэфакты эпохі. У ВКЛ уласныя рэнесансныя тэндэнцыі найбольш выявіліся ў літаратуры, прававой думцы, кнігадрукаванні, а таксама ў выяўленчым мастацтве. Архітэктурныя ж помнікі барока маркіруюць усходнюю мяжу Еўропы для XVII стагоддзя.

Разам з тым захаваліся і матэрыяльныя знакі той эпохі, якія мы гатовыя напаўняць новымі сэнсамі: ратушы як напамін пра гарадское самакіраванне і прыватныя замкі як увасабленне аўтаноміі магнатаў ад дзяржаўнай улады.

Цэлы шэраг выяўленчых апазнавальных знакаў эпохі ВКЛ захавалі ці адрадзілі сваю функцыю ў сучасных умовах пасля доўгага часавага разрыву. Гаворка тут ідзе перадусім пра гербы, найперш пра «Пагоню», якая атаясамліваецца з Беларуссю ці ў дзяржаўным, ці ў палітычным кантэксце. Таксама і многія беларускія гарады з магдэбургскай гісторыяй сёння вярнулі сабе даўнія гербы, якія сталі зноў афіцыйна ўжывацца. І гэты працэс дэманструе не толькі сімвалізм, але і функцыянальнасць спадчыны.

## Традыцыі

Гэты пункт у пераліку спадчыны Літвы аналізаваць найскладаней. І справа не толькі ў часавай аддаленасці ад перыяду існавання Вялікага Княства Літоўскага, але і ва ўплыве пазнейшых працэсаў, якія наклаліся на гістарычна-культурны комплекс, што застаўся ад літоўскага перыяду. Расійская бюракратыя і царскае самаўладдзе, савецкі таталітарызм, дзве разбуральныя сусветныя вайны — усё спрыяла грунтоўным культурным, сацыяльным і ментальным зменам. І ўсё ж такі нават сёння, выкарыстоўваючы сродкі сацыялогіі і культурнай антрапалогіі, мы можам знайсці некаторыя выразныя адрозненні беларусаў ад сваіх суседзяў, якія маюць карані ў гісторыі.

Параўнаўчыя эмпірычныя і сацыялагічныя назіранні дазваляюць выказаць меркаванне, што сучасныя беларусы ў масе сваёй схільныя прытрымлівацца вызначаных праваых нормаў. Знакамітая гатоўнасць беларусаў пераходзіць вуліцу толькі на зялёны сігнал святлафора была зафіксаваная зусім не ў XXI стагоддзі, а стала прадметам добразычлівых савецкіх анекдотаў яшчэ ў другой палове XX стагоддзя, фактычна неўзабаве пасля таго, як тыя святлафоры ўвогуле з'явіліся. Апрача таго, практыка валанцёрства і ўзаемадапамогі, а таксама ўзнікненне ў апошні час лакальных супольнасцяў — вынік у тым ліку і існавання ранейшай культурнай традыцыі самаарганізацыі.

Падобныя практыкі немагчыма вывесці толькі з традыцыйнага грамадства, якое было практычна ўшчэнт разбуранае калектывізацыяй і мадэрнізацыяй. Нашыя культурныя стэрэатыпы паводзін заснаваныя на трансляцыі, ▸

у тым ліку ў дыдактычнай і навуковай літаратуры, а таксама ў СМІ, традыцый самакіравання ў магдэбургскіх гарадах і на шляхецкіх сойміках, у рэлігійных брацтвах і рамесных цэхах. А ў сваёй прававой традыцыі мы робім адсылкі да Статутаў ВКЛ і правоў грамадзян, на апеляцыю судовых выракаў у Галоўным трыбунале ВКЛ.

Лёгка канстатаваць яшчэ адну традыцыю, хоць яе ацэнкі могуць адрозніваца, — гэта шматмоўнасць Беларусі. Рэч у тым, што наш край ніколі ў гісторыі не быў аднамоўным, для пасяховага жыцця ў ім заўжды было неабходна ў той ці іншай форме валодаць некалькімі мовамі. Прытым мовы гэтыя былі краёвымі, то-бок не замежнымі. Каб, напрыклад, жыць у Менску XVII стагоддзя, калі яшчэ былі адносна моцнымі пазіцыі старабеларускай мовы, трэба было ведаць і польскую, а для атрымання адукацыі ўмець паслугоўвацца лацінай. У сферы ж гандлю не шкодзілі і базавыя веды ідышу. Канкрэтныя актыўныя мовы з часам маглі мяняцца, але так ці інакш іх заўсёды было некалькі. Палітыка планавай савецкай русіфікацыі 1930–1980-х гадоў выглядае ў нашай гісторыі хутчэй як выключэнне, але гэта з'ява ўжо індустрыяльнай эпохі і таталітарнай сістэмы.

Нават часова заняпалая традыцыя, пакідаючы матэрыяльныя і ментальныя сляды, можа актуалізоўвацца наноў праз інстытуты і практыкі. Гэтае палажэнне вельмі добра стасуецца да спадчыны гістарычнай Літвы ў нашай гісторыі, хоць мы ў поўным аб'ёме можам да канца і не ўсведамляць таго, што яна працягвае і сёння ўплываць на наша культурнае і сацыяльнае жыццё.

Важна, што паўставанне на нашых абшарах новай дзяржавы ў XIII стагоддзі супала з кардынальнымі трансфармацыямі ва ўсёй Еўропе. Фактычна толькі тады Еўропа пачала набываць пазнавальныя для нас рысы. Таму вестэрнізацыя Вялікага Княства на самай справе была ўдзелам у працэсе фарміравання Еўропы на самым яе ўсходзе. У тым ліку і таму Літва сёння застаецца для нас жывой спадчынай. ◆

**Мітрафан Доўнар-Запольскі (1868–1934 гг.): Асоба ў дакументах і ўспамінах** / Укл. В. М. Мятліцкая. — Мінск: Лімарыус, 2020. — 488 с., іл.

Напрыканцы мінулага года выйшаў з друку зборнік дакументаў, прысвечаны жыццю і навуковай, грамадскай ды палітычнай дзейнасці славутага беларускага гісторыка, этнографа і эканаміста Мітрафана Доўнар-Запольскага (1868–1934). Гэта шыкоўны падарунак для ўсіх, каго цікавяць айчынная гісторыя і лёсы беларускай інтэлігенцыі.

Асоба Доўнар-Запольскага ўражвае сваёй універсальнасцю, шматграннасцю і маштабамі дзейнасці. Навуковая спадчына даследчыка і сёння застаецца важнай складовай часткай беларускай гістарыяграфіі, археаграфіі, архівазнаўства, этнаграфіі і фальклрыстыкі. Жыццёвымі здабыткамі М. Доўнар-Запольскага сталі сотні публікацый і выкладчыцка-прафесарская дзейнасць ва ўніверсітэтах Кіева, Масквы, Харкава, Баку, Мінска.

Аднак значэнне яго дзейнасці не абмяжоўваецца выключна навуковымі даследаваннямі і педагагічнай працай. Доўнар-Запольскі рэалізаваў сябе як таленавіты эканаміст-практык, паспяховы прадпрымальнік, заснавальнік і кіраўнік Паўднёва-Заходняга аддзялення Расійскай экспартнай палаты, Беларускай гандлёвай палаты ў Кіеве (1918 год). У савецкі час ён стаў адным з тэарэтыкаў і практыкаў «новай эканамічнай палітыкі», працуючы ў дзяржаўна-планавых установах розных гарадоў і рэспублік.

Вялікую ролю гэты чалавек адыграў таксама ў гуртаванні даследчыцкіх сіл для вывучэння Беларусі і развіцця беларусазнаўства ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя. А ў момант адстойвання дзяржаўных інтарэсаў Беларускай Народнай Рэспублікі Мітрафан Доўнар-Запольскі праявіў сябе здольным палітычным дзеячам і дыпламатам. Ягоныя «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (1919), перакладзеныя на пяць моў, сталі сапраўдным маніфестам беларускай незалежнасці.




Многія творы Доўнар-Запольскага сталі класікай. Яны запатрабаваныя не толькі спецыялістамі, але і шырокімі чытацкімі коламі, пра што сведчыць іх даволі актыўнае перавыданне ў новую эпоху. Так, у 1994 годзе ўпершыню пабачыла свет у перакладзе на беларускую мову «История Белоруссии», якая была адпраўлена ў архіўнае «спецсховішча» яшчэ ў 1926 годзе. А аўтэнтычны рускамоўны варыянт кнігі на працягу 2003–2016 гадоў вытрымаў чатыры выданні.

У гэтай кнізе пад адной вокладкай друкуюцца архіўныя дакументы, перапіска даследчыка, успаміны пра яго. Выданне зборніка стала магчымым дзякуючы вялікай працы гісторыка з Гомеля, якая на працягу доўгіх гадоў даследавала біяграфію Доўнар-Запольскага, Валянціны Мятліцкай (Лебедзевай). Большасць матэрыялаў зборніка друкуецца ўпершыню.

Набыць выданне можна ў мінскай кнігарні «**Акадэмкніга**» (пр. Незалежнасці, 72), а таксама ў інтэрнэт-кнігарні **kniganosha.by**.

























Купіць можна на сайтах **knihi.by** і **tn.by**, кнігарнях **«Акадэмкніга»**, **«Светач»**, **«Цэнтральная»**, і ў рэгіянальных кнігарнях ААТ **«Белкніга»**.

ПУП «КНІГАЗБОР», УНП 190682416



**Храм ў Багушэвічах**, Бярэзінскі раён, на высокім беразе Усы.

WIKIMEDIA COMMONS

# Надбярэзінская шляхта

**Тут адзін да аднаго звярталіся на «вы», а жанчынам цалавалі руку. Пра лёс усходнебеларускай засцянковай шляхты на прыкладзе сваёй сям'і распавядае Юры Тамковіч.**

У ліпені мы з бацькам стаялі на замчышчы Свіслачы. Адтуль адкрываецца такі краявід на сутокі Свіслачы і Бярэзіны — аж дух займае.

Над Бярэзінай — малая радзіма майго бацькі.

Казімірова, Асіповіцкі раён — тут ён бавіў канікулы. Цяпер няма ні бабулі з дзядулем, ні родных — вёска амаль вымерла. Засталося некалькі пенсіянераў ды былыя шляхецкія могілкі.

## Цалавалі руку

Мой прадзед Антось Віткоўскі пераехаў у Казімірова, калі яму было больш за 30 гадоў. А нарадзіўся ён на хутары Парня Ігуменскага павета, цяпер таго хутара ўжо і няма (у Бярэзінскім раёне Мінскай вобласці).

Колішні Ігуменскі павет, гістарычная Ігуменшчына, шырокай паласой ахопліваў землі цяперашніх Асіповіцкага, Бярэзінскага, Чэрвеньскага, Пухавіцкага і нават Уздзенскага раёнаў. Ігумен — гэта старая назва цяперашняга горада Чэрвень, яго перайменавалі пасля рэвалюцыі ў рамках антырэлігійнай кампаніі, бо назва «Ігумен» супадала са словам «ігумен», настаяцелем манастыра.

Мой прадзед паводле сацыяльнага паходжання належаў да засцянковай дробнай шляхты, рассыпанай па тэрыторыі ўсёй былой Рэчы Паспалітай. Ягоны радавод сягаў далёка: я раскапаў па лініі бацькі Казіміра да XVII стагоддзя, а па лініі маці Францішкі Міткевіч-Жоўтак, магчыма, наогул да XVI стагоддзя, калі, як сведчаць некаторыя дакументы, яе продкам каралём Жыгімонтам

Аўгустам былі нададзены землі ў Рэчыцкім павеце.

На працягу XVIII–XIX стагоддзяў Віткоўскія пераязджалі з месца на месца, арандавалі зямлю ў багатых паноў.

Што ўяўляла з сябе засцянковая шляхта? Яна складала большасць ад усёй шляхты на тэрыторыі былога ВКЛ і мела ўсе правы ды абавязкі паноўнага стану: удзельнічала ў кіраванні дзяржавай і абараняла радзіму ад ворагаў. Але гэты пласт быў не вельмі заможным. Засцянкоўцы ў часы прыгону не мелі сваіх сялян, жылі па вёсках ці хутарах і часцяком самастойна апрацоўвалі свой зямельны надзел. А калі свайго надзелу не было, то бралі яго ў арэнду. Да такіх дробных шляхцічаў-арандатараў належалі,

## Засценак

Гэты тып вясковага паселішча з'явіўся ў Беларусі дзякуючы каралеве Боне і яе валочнай рэформе ў XVI стагоддзі. Тады ўводзілася сістэма трохпольнага севазвароту і вялікія надзелы ворнай зямлі дзяліліся на тры часткі, абмежаваныя «сценкамі» (так называлі саму мяжу). Часта ад гэтых палёў заставаліся абрэзкі, і паколькі яны апыналіся за мяжой — за сценкай, — іх адпаведна і празвалі. Такія абрэзкі бралі ў арэнду небагатыя шляхцічы, што сяліліся тут жа. А іх гасподы (звычайна на адзін або некалькі дамоў) таксама пачалі называцца засценкамі.

З часам гэтыя паселішчы крыху памянялі свае аблічча. Некаторыя так і засталіся адасобленымі гаспадаркамі і знешне нагадвалі хутары, а іншыя разрасліся да памераў вёсак, з тым адрозненнем, што ў засценках жыла шляхта, а не сяляне.

Засценкі праіснавалі да 1940-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ім або надалі статус вёсак, або прыраўнялі да такіх.

дарэчы, і бацькі нашага класіка Янкі Купалы. Радавое гняздо паэта знаходзілася ў тым жа Ігуменскім павеце, толькі ў іншай, заходняй, яго частцы (цяперашні Уздзенскі раён).

Дробныя шляхцічы ладам свайго жыцця не надта моцна адрозніваліся ад навакольных сялян, гэтак жа сама працавалі на зямлі.

Але абазнанае вока магло адрозніць беднага шляхціча ад селяніна і па вопратцы, і па манерах. Нават мой бацька ўзгадваў, што ў Казіміровe дарослыя між сабой звярталіся на «вы», у гаворцы — увогуле, на Ігуменшчыне была выключна блізкая да літаратурнай мовы беларуская гаворка — сустракаліся паланізмы, а жанчынам цалавалі руку. Да таго ж шляхта, нават дробная, цаніла адукацыю. Перапіс сялянскіх гаспадарак 1925 года, напрыклад, сведчыць, што ўсе 10 чалавек з сям'і Віткоўскіх былі пісьменнымі.

З невялікіх, але прынцыповых адрозненняў вынікала некаторая напружанасць адносін паміж засцянковай шляхтай і сялянствам. Шляхта адмяжоўвалася ад «некультурных» сялян сваім вышэйшым станавым статусам, а сяляне глядзелі на шляхту як на ганарлівых выскачак.



З сямейнага архіва аўтара

**Антон Казіміравіч Віткоўскі,** прадзед аўтара.

## Людзі каранямі з Ігуменшчыны

**Станіслаў Манюшка**, кампазітар
**Валенты Ванькові́ч**, мастак-рамантык
**Ігар Лучанок**, кампазітар
**Міхал Станюта**, мастак, бацька народнай артысткі Стэфаніі Станюты
**Хаім Суцін**, мастак-экспрэсіяніст
**Файбіш-Шрага Царфін**, мастак
**Мікалай Бліадухо**, геолаг
**Ганна Барысевіч**, самая сталая доўгажыхарка ў гісторыі Беларусі, пражыла 118 гадоў
**Алег Навіцкі**, касманаўт
**Марыя Мякота**, маці нацыянальнага класіка Максіма Багдановіча, на чэрвеньскіх могілках пахаваны ягоны дзед

### У баях з бальшавікамі

У часы Расійскай імперыі становішча засцянковай шляхты моцна пагоршала. Яе пачалі масава пераводзіць у больш нізкія станы. Тых, хто ўдзельнічаў у паўстаннях, чакалі рэпрэсіі. Не найлепшыя часы прыйшлі і для Касцёла. Па сутнасці, дробная шляхта стала адной з найбольш дыскрымінаваных груп насельніцтва.

У 1914 годзе пачалася сусветная вайна, і многіх прадстаўнікоў шляхты забралі ў войска, у тым ліку і майго прадзеда. З пачаткам рэвалюцыі шмат якія шляхецкія засценкі былі разрабаваныя сялянамі, а іх гаспадары забітыя. Шляхта не магла даць моцны адпор, бо хутары былі раскіданыя, а самі шляхцічы-каталікі складалі ў павеце меншасць. ▶




**Касцёл Унебаўзяцця Святой Марыі Панны ў Бярэзані (Беразіно).** У гэтым касцёле, заснаваным адным з Сапегаў у 1641 годзе, у XIX стагоддзі хрысціліся Віткоўскія.

У «Нашай гісторыі» № 10 за 2019 год друкаваўся артыкул-успамін пра надбярэзінскую шляхту пісьменніцы Тацяны Барысік. Яна вырасла сярод апошняга пакалення дробнай шляхты, што дажывала свой век ужо напрыканцы XX стагоддзя: у вёсцы Кругланіва і суседніх Фартунаў Бабруйскага раёна. Яны ўмелі распавядаць, а аўтарцы хацелася слухаць і назіраць.

▸ У 1918–1920 гадах да Ігуменшчыны дабраліся немцы, а пасля — палякі. Многія каталікі з надбярэзінскіх земляў уступілі ў польскія вайсковыя фармаванні, якія ўдзельнічалі ў баях з бальшавікамі.

## Арышты пачаліся ў 1930-м

У раннім БССР да палякаў (былая каталіцкая шляхта працягвала сама сябе лічыць палякамі, гэтак жа да іх ставіліся і іншыя) стаўленне было дваістае: з аднаго боку, многія ўспрымалі іх як акупантаў і прыгнятальнікаў, але з іншага — кожнай нацыі давалася права на культурнае развіццё. Таму палякі, як і іншыя нацыянальнасці, стваралі свае сельсаветы, друкарні і школы. Польская мова пэўны час была адной з дзяржаўных моў у краіне. Праўда, падчас складання спісу сялянскіх гаспадарак у 1925 годзе ў вёсцы Новае Курганне, дзе жылі на той час Віткоўскія, палякамі запісаліся толькі яны, а праз год, падчас усеагульнага перапісу, і яны ўжо значыліся беларусамі.

У 1930–1931 гадах прадзед і ягоныя тры браты былі арыштаваныя. Як узгадваюць, браты падпрацоўвалі музыкамі на розных святах і нехта напісаў на іх данос. У выніку іх абвінавацілі ва ўдзеле ў контррэвалюцыйнай кулацкай арганізацыі і антысавецкай агітацыі. Прадзед адсядзеў тры месяцы ў магілёўскай турме, а ягоным братам пашанцавала менш: двух выслалі ў Сібір, а трэцяга пасадзілі на 10 год. ▸

## Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны



У 1927 годзе настаўнік Навасёлкаўскай школы Пухавіцкага раёна Мікола Шатэрнік сабраў «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны», які налічваў аж 9 тысяч слоў! Вось некаторыя словы з гэтай працы, іх ужывалі і мае прадзеды:

**габлёнка** — стружка
**гамзáць** — говорить в нос, гундосить
**запанéць** — загордиться
**звяга** — брань
**напéрціся** — нажраться
**прагóцаць** — прогулять (свои деньги)
**удрызíну** — вдребезги
**шпыля́ць** — хлестать




**Прадзедаў брат Юзаф Віткоўскі з сям'ёй.**

## «Надбярэзінцы»

«…павітаўся, здымаючы шапку: "Хай будзе пахвалёны Езус Хрыстус!" Ён схіліўся да рукі старога і гучна прыцмокнуў, цалуючы. "На векі вякоў!" — азваўся стары і пацалаваў лесніка ў патыліцу.

Ляснік, у сваю чаргу, падаў руку для пацалунку хлопчыку. Развіталіся, як заўсёды: малодшыя пацалавалі рукі старэйшым і разышліся».

Звычкі і пакручастае жыццё надбярэзінскай шляхты, якая жыла на землях уздоўж ракі Бярэзіна, прыкладна ад Бабруйска да Бярэзані, у першай палове XX стагоддзя трапна апісаў польскамоўны пісьменнік Фларыян Чарнышэвіч (1900–1964) у рамане «Надбярэзінцы».

Чарнышэвіч сам быў шляхціцам з-пад Бабруйска і пісаў пра тое, што бачыў на ўласныя вочы. У кнізе можна прачытаць пра барацьбу мясцовай шляхты за польскі касцёл і школу, пра падзеі Першай сусветнай вайны, рэвалюцыі і савецка-польскай вайны, пра адносіны паміж шляхтай і сялянамі, пра штодзённае жыццё надбярэзінцаў. Асноўныя падзеі кнігі адбываліся за некалькі дзясяткаў кіламетраў ад тых мясцінаў, дзе жылі Віткоўскія.

Фларыян Чарнышэвіч пасля ўдзелу ў савецка-польскай вайне працаваў у Польшчы паліцыянтам, а ў 1924 годзе пераехаў у Аргенціну, дзе фізічна працаваў на бойні і быў актыўным членам польскай дыяспары. Тут падчас Другой сусветнай вайны і была ім напісана кніга, якая атрымала захопленыя водгукі з боку некаторых вядомых польскіх інтэлектуалаў. Нобелеўскі лаўрэат Чэслаў Мілаш ставіў «Надбярэзінцаў» у адзін шэраг з «Панам Тадэвушам» Адама Міцкевіча і «Патопам» Генрыка Сянкевіча, а літаратар родам з Мінска Міхал Крыспін Паўлікоўскі называў твор Чарнышэвіча «эпасам засцянковай шляхты», наўпрост параўноўваючы яго па сіле гучання з «Ціхім Донам» Міхаіла Шолахава.




**Старая хаціна ў Ядліне (Бярэзінскі раён) сінім зімовым вечарам.** Раней не ставілі агароджаў, гэта стварала зусім іншае адчуванне прасторы. У гэтай маляўнічай вёсцы, што стаіць на заходнім схіле даліны Бярэзіны, між рэчкай і борам на правай броўцы, амаль усе сядзібы цяпер перабудоўваюцца. Нерухомасць тут яўна карыстаецца попытам. Новы падмурак заліты і каля гэтай хацінкі.

Але, выдадзены ў далёкай Аргенціне і не перавыдадзены ў камуністычнай Польшчы, твор гэты на шырокую аўдыторыю так тады і не выйшаў. Масаваму польскаму чытачу раман стаў даступны толькі пасля падзення камунізму. А на беларускую мову ён увогуле быў перакладзены толькі тры гады таму, у 2017 годзе.

Адной з асаблівасцяў творчасці Чарнышэвіча — а ў яго, акрамя «Надбярэзінцаў», ёсць яшчэ тры раманы — з'яўляецца ягоная спецыфічная мова. Пальшчызна гэтага аўтара вельмі насычаная беларусізмамі, а некаторыя рэплікі і нават цэлыя дыялогі ўвогуле прыводзяцца цалкам па-беларуску. Многія словы і выразы з чарнышэвіцкіх раманаў цяперашнія польскія выдаўцы і рэдактары мусяць адмыслова тлумачыць, бо сучаснаму польскаму чытачу, які не ведае ўсходнеславянскіх моў, яны проста незразумелыя. Затое без ніякага тлумачэння і перакладу яны зразумелыя беларусам.

Таму тым, хто ведае польскую мову, гэтага аўтара найлепш чытаць у арыгінале. Тым больш што з чатырох раманаў перакладзеныя пакуль што толькі «Надбярэзінцы», а іншыя тры — «Віцік Жывіца», «Хлопцы з Навашышак» і «Лёсы пасынкаў» — пакуль даступныя толькі па-польску. Хоць усе яны так ці інакш заснаваныя на беларускім матэрыяле, а «Віцік Жывіца» — непасрэдны працяг «Надбярэзінцаў». У гэтым рамане працягваюць дзейнічаць некаторыя з ранейшых герояў, а падзеі адбываюцца на той жа надбярэзінскай зямлі.

**Набыць раман Фларыяна Чарнышэвіча «Надбярэзінцы»** можна праз сайт выдавецтва «Янушкевіч».



Акрамя маіх родзічаў, як сведчаць дакументы, пад каток рэпрэсій трапілі дзясяткі людзей з прозвішчам Віткоўскі, якія пражывалі на тэрыторыі былога Ігуменскага павета. А калі казаць менавіта пра засценак Казімірова, то вядома пра арышт трох братоў Шпілеўскіх, адзін з якіх быў калгаснікам, другі служыў кавалерыстам ва ўкраінскім Бярдзічаве, а трэці працаваў на мінскім заводзе. Акрамя іх, арыштавалі чатырох Сухоцкіх: трое з іх працавалі на зямлі, а чацверты быў электракранаўшчыкам на Уралвагонзаводзе. Сістэма працавала добра — родзічы былі раскіданыя па ўсёй краіне, але тым не менш іх знаходзілі і рэпрэсавалі.

Калі прадзед вызваліўся, ён пераехаў з Новага Кургання Клічаўскага раёна ў Казімірова, за Бярэзіну. Гэты населены пункт да рэвалюцыі быў засценкам з 62 жыхарамі. Чаму Антон Казіміравіч пераехаў менавіта сюды, дакладна не вядома, але вялікая частка мясцовых жыхароў была паводле паходжання таксама з дробнай каталіцкай шляхты. Цяпер у былым засценку амаль не засталося жыхароў, а пра былую «шляхецкую» гісторыю нагадваюць толькі стары касцёл і могілкі, дзе шмат надмагілляў з надпісамі на польскай мове.

## Прывёз з фронту такарны станок

Падчас Другой сусветнай вайны вакол Бярэзіны дзейнічалі моцныя партызанскія атрады, а немцы праводзілі ў адказ карныя аперацыі. Падчас адной з іх яны спалілі прадзедаву хату, але нікога з сям'і не забілі. Калі ж прыйшла Чырвоная армія, прадзед пайшоў на фронт. Дайшоў да Эльбы і бачыў амерыканцаў.



ФОТА ЮРЫЯ ТАМКОВІЧА

**Канапа, зробленая рукамі прадзеда.**

З Нямеччыны ён прывёз такарны станок, з дапамогай якога забяспечваў вырабамі з дрэва ўсю ваколіцу. Дзед Антось меў залатыя рукі, да гэтага часу захавалася зробленая ім драўляная канапа. А вось працы ў калгасе ён не любіў, людзі там атрымлівалі капейкі.

У пасляваенныя гады Антон Казіміравіч час ад часу ездзіў за Бярэзіну ў Новае Кургание да сваіх родзічаў, на розныя святы — «фэсты», як ён казаў. Аднак з 1980-х гадоў, калі ён памёр, ніхто з нашай сям'і тое паселішча не бачыў.

І вось нядаўна мы вырашылі наведаць вёску, дзе калісьці было адно з нашых радавых гнёздаў.

Мясціны тут спусцелыя, людзей не бачна, і толькі трактары ў полі выдаюць, што нейкае жыццё ўсё ж існуе. Само Новае Курганне нагадала чарнобыльскую вёску — гаспадары ўсе памерлі ці выехалі. Затое на могілках мы знайшлі магілу невядомага нам раней прадзедавага брата, Юзафа. Тут жа ляжаў наш прапрадзед Казімір. Магілы іх дагледжаныя, а гэта значыць, што дзесьці жывуць нашыя родзічы, якіх мы пакуль не ведаем. ◆



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Memento муры.** Алея, якая вядзе ад цэнтральнай плошчы Смілавіч да палаца Манюшкаў. І агароджа, якая нічога ні ад чаго не аддзяляе, проста стаіць бетонным напамінам пра бар'еры.

**Хата ў Ваўкавыску — але не горадзе**, а вёсцы між Смілавічамі і Чэрвенем. Яе гаспадары з рэдкім густам захавалі ўсё ў традыцыйным духу.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

# Што наведаць на Ігуменшчыне?

Найперш палац у Смілавічах, пабудаваны ў XVIII–XIX стагоддзях, які належаў прадстаўнікам вядомых шляхецкіх родаў — Агінскім і Манюшкам. Сюды неаднойчы прыязджаў да свайго дзеда знакаміты кампазітар Станіслаў Манюшка.

Недалёк ад Смілавіч знаходзіцца вёсачка Малыя Ляды. (Можа, вы не ведалі: «ля́да» па-беларуску — гэта месца, дзе высечаны лес, раскарчаванае поле.) Тут існуе праваслаўны манастыр, з якога выйшаў цяперашні кіраўнік Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы — мітрапаліт Веніямін. Першы драўляны ўніяцкі храм тут з'явіўся ў 1732 годзе па фундацыі мечніка ВКЛ Ігната Завішы, тагачаснага ўладальніка вёскі, і яго жонкі Тарэсы. З часам з'явіўся і манастыр, які ў 1839 годзе быў перададзены праваслаўным.

Яшчэ адна славутасць — гэта Раванічы. Тут у 1799 годзе мясцовы шляхціч Антоній Слатвінскі пачынае будаўніцтва сядзібнага комплексу. Ягоны сын Людвік ужо ў наступным стагоддзі ►

**Апошнія фрагменты сцяны парку Манюшкаў у Смілавічах** маглі б стаць месцам вясельных фотасесій. На жаль, на сёння турыстычны патэнцыял мястэчка Суціна і Царфіна не раскрыты і мясцовыя ўлады не разумеюць, якое багацце валяецца ў іх пад нагамі.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

Смілавічы ўяўляюць сабой мястэчка, знявечанае выродлівымі (на кожны густ) агароджамі і поўнае слядоў наіўнага мастацтва. **На фота: вулка насупраць палаца Манюшкаў.**

Проста ашаламляльна, **наколькі эстэтыка вялікіх ураджэнцаў Смілавіч уплывае на творчасць навучэнцаў мясцовай мастацкай школы.** Заслуга выдатных мясцовых педагогаў.

пабудаваў вялікі палац у стылі класіцызму. Клапаціўся Антоній і пра жыццё духоўнае — па яго загадзе быў узведзены касцёл Святога Антонія, які стаў сямейным склепам роду. У міжваенны час камуністы зачынілі касцёл, а ў 1980-я гады яго падпалілі, і з той пары ён у руінах.

Таксама трэба сказаць пра Багушэвічы. Ад шляхецкага роду Святарэцкіх (Свентажэцкіх) захаваўся неагатычны касцёл

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО



**Хасяневіч Юлія. Муза Максіма Багдановіча.**



**Лысенка Кіра. Максім Багдановіч.**



**Шчарбак Злата. Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог.**



**Пятровіч Дарына. Бура.**

Божага Цела. Калісьці ён быў фамільнай пахавальняй роду. Святарэцкія былі актыўнымі ўдзельнікамі паўстання 1863 года, іх землі былі канфіскаваныя, а касцёл стаў праваслаўнай царквой, якую асвяцілі ў памяць мясцовага святара айца Данііла, які быў забіты паўстанцамі. Цяпер тут ізноў дзейнічае касцёл.

У Дукоры ад былой велічы (палац у вайну ўзарвалі партызаны) засталася густая алея на ўездзе, трохпавярховая брама, парк і некаторыя гаспадарчыя пабудовы. А з 2015 года на месцы сядзібы пачала працу аграсядзіба «Дукорскі маёнтак». Менавіта тут з'явіўся першы ў Беларусі перакулены дом.

За 4 кіламетры ад Мар'інай Горкі ёсць вёска Блонь. Калісьці тут стаяў касцёл, у якім хрысцілі маіх далёкіх продкаў — шляхцічаў Віткоўскіх. Пасля паўстання 1863 года мястэчка перайшло да Бонч-Асмалоўскіх. Яны пабудавалі (або перабудавалі) у Блоні аднапавярховую драўляную сядзібу. Сядзіба захавалася да нашых дзён, таму што належала вядомаму рэвалюцыянеру-народніку Анатолю Бонч-Асмалоўскаму, і цяпер у будынку размяшчаецца музей.



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Вульнікі перад будынкам мастацкай школы Смілавіч прымушаюць усміхнуцца.** На жаль, мясцовым уладам не хапіла розуму аддаць пад музей вялікіх ураджэнцаў мястэчка адну са старых камяніц. Раней у Смілавічах разам жылі яўрэі, татары і беларусы, стагоддзе нівеліравання яшчэ не сцерла ўвесь каларыт.

Акрамя сядзібы, можна пабачыць вялікую драўляную Траецкую царкву. У 1935-м яе зачынілі, але мясцовы святар Аляксандр Шылай працягнуў сваю службу. Праз два гады яго расстралялі, а ўжо ў наш час ён быў абвешчаны святым пакутнікам.

У Чэрвені захавалася «местачковая» забудова цэнтральнай плошчы і будынак дарэвалюцыйнай гімназіі. І цяпер у ёй працуе школа.

Падчас Другой сусветнай Чэрвень стаў месцам вялікіх злачынстваў абодвух таталітарных рэжымаў. У канцы чэрвеня 1941 года ва ўрочышчы Цагельня пад Чэрвенем НКВД, каб не вывозіць на ўсход, расстраляла некалькі тысяч палітычных зняволеных. А калі Чэрвень захапілі немцы, усіх габрэяў сагналі ў гета і ў 1942 годзе расстралялі на ўскраіне горада.



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**У «Прасторы Суціна» ў мастацкай школе Смілавіч наведнікаў частуюць кавай.** Тут захоўваюцца некаторыя арыгіналы вялікіх землякоў — але не «Ева». Наведванні па папярэднім запісе. Тэл. +375 29 769 83 85.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА



# «Нічога не бойся, я загіну дзеля перамогі»

**20-гадовая Маргарыта і 13-гадовая Валерыя Храмчанкі, студэнтка-медык і вучаніца 50-й гімназіі, напісалі на конкурс «Нашай гісторыі» артыкул пра сваю бабулю. Пачытайце аповед пра неймаверныя выпрабаванні і натхняльную стойкасць: колькі можна пражыць і не зламацца, і адваяваць у лёсу сваё шчасце (і цудоўных унучак).**

Нагаладаўшыся ў дзяцінстве, бабуля ўзяла за правіла накарміць усіх, хто трапляе ў поле зроку. У яе смачна ўсё. Але для нас каронныя стравы — гэта вясенні боршч з крапівой і слаёны пірог з мясам ці з ягадамі.

І яшчэ бабуля для нас — духоўная аснова, стрыжань сям'і. З дзядулем яны разам ужо 60 год.

Доля нашай бабулі — тыповая для чалавека XX стагоддзя, ад таго і страшэнная.

### Цягнік Пекін – Негарэлае

Наша бабуля, Ліна Канстанцінаўна Малярэвіч (у дзявоцтве Валахановіч), нарадзілася ў снежні 1933 года ў вёсцы Рудня Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Гэта вёска потым далучылася да чыгуначнага пасёлка Негарэлае. Да 1939 года мясцовасць знаходзілася ля польска-савецкай мяжы, сюды нават хадзілі цягнікі Пекін – Негарэлае. Адна частка жыхароў паселішча працавала ў калгасе «Праца» (пасля русіфікацыі — «Труд»), а другая — на чыгунцы.

Бабуля расла з мамай і дзедам. Яе маці Соф'я Іосіфаўна пражыла

### Аўтаркі пра сябе

**Маргарыта** — незвычайны сучасны падлетак: любіць чытаць у строгай цішыні і глядзець фэнтэзі. Яна яшчэ не вызначыла свае жыццёвыя інтарэсы, але з цікавасцю ўдзельнічае ў сямейных *activities*.

**Валерыя**, студэнтка 3-га курсу сталічнага медуніверсітэта, абажае літаратуру і ўсё, што тычыцца мастацтва. Марыць пра мужа-мастацтвазнаўца і сабаку пароды коргі. Усёй душой любіць і цікавіцца гісторыяй, асабліва перыядам вайны. «Лічу, што гэта не толькі заслуга бабулі, якая расказамі з свайго жыцця выклікала ў нас цікаўнасць і павагу да гісторыі, але і заслуга бацькоў, якія сталі сувязнай ніткай паміж пакаленнямі і падтрымлівалі нашае выхаванне ў гэтым кірунку».

зусім кароткае жыццё. Яна скончыла сельскагаспадарчую вучэльню ў Дзяржынску, у 1933–1934 гадах была старшынёй калгаса, а потым вучылася ў Вышэйшай партыйнай школе ў Мінску. Калі працавала ў раённым камітэце партыі, Соф'я Іосіфаўна пазнаёмілася з будучым архітэктарам Уладзімірам Каралём. Ён, яе аднагодак, настаўнічаў у Дзяржынску. Жанчына заўважыла яго талент, параіла паехаць вучыцца ў Ленінградскую мастацкую акадэмію і дала рэкамендацыю райкама, неабходную для паступлення. Пасля вайны Кароль стаў адным з аўтараў манумента Перамогі і праспекта Незалежнасці ў Мінску.

### Прыгонная спявачка

Бацька Соф'і Іосіфаўны, дзядуля нашай бабулі, працаваў на станцыі Негарэлае.

Іосіф Вікенцевіч Валахановіч любіў кніжкі, захапляўся музыкай, добра граў на кларнеце і скрыпцы, выкладаў у аматарскай музычнай школе. Акрамя беларускай, добра ведаў італьянскую, нямецкую, польскую, рускую мовы. Гэтаму навучыла яго маці, чый лёс вельмі цікавы і складаны. Калі наша прапрапрабабуля была малой, на яе цудоўны голас звярнуў увагу падарожнік — італьянец. Ён быў вялікі аматар оперы і таму выкупіў яе ў памешчыка (гэта было ў часы прыгоннага права). Доўгі час дзяўчына жыла і вучылася вакалу ў Італіі, потым спявала ў оперным тэатры. Нейкім чынам яе адшукаў бацька і прымусіў вярнуцца дадому. У той час аўтарытэт бацькоў быў непахісны, таму дзяўчына вярнулася і выйшла замуж.

## Іосіф Вікенцевіч ненавідзеў Сталіна і страшна не любіў свайго зяця-камуніста. Ён зрабіў усё, каб дачка з ім разышлася

Свайму першаму сыну Іосіфу яна аддала ўсё сваё сэрца і веды. Іосіф Вікенцевіч скончыў універсітэт у Пецярбурзе і вярнуўся ў Койданава (гэта гістарычная назва цяперашняга Дзяржынска). Ён меў вялікую сям'ю, аднак работнік чыгункі да рэвалюцыі зарабляў столькі, што мог утрымліваць жонку, шасцярых дзяцей і памочніцу па гаспадарцы. Болей за ўсіх дзетак Іосіф Вікенцевіч любіў Соф'ю, нашу прабабку, і жыў з ёю да канца жыцця. ▶

## Увага! Конкурс!

«Наша гісторыя» працягвае конкурс. Запрашаем да ўдзелу аматараў гісторыі ад 1 да 21 года.

Прымаем работы ў двух фарматах: тэксты і фотаздымкі. Гэта могуць быць работы пра цікавых людзей — і няважна, персанажаў сусветнай гісторыі ці членаў вашай сям'і, аповеды пра гістарычныя падзеі, мясціны, тэксты пра праблемы беларускай і сусветнай гісторыі, якія вас закранаюць і прымушаюць паразважаць...

Тэма і фармат — на ваш выбар. Галоўнае, каб тэкст цікава чытаўся, даваў арыгінальны погляд на гісторыю, а фота і відэа — уражвалі. Да фотаздымкаў дадавайце, калі ласка, разгорнуты подпіс.

Пішыце самі, з сябрамі, бацькамі або настаўнікамі.

Ацэньвацца будзе душэўнасць, інфарматыўнасць, арыгінальны падыход, навізна думкі. Ад аднаго ўдзельніка прымаецца не больш за тры работы.

Найлепшыя тэксты і фота з'явяцца на старонках «Нашай гісторыі» (пры патрэбе рэдакцыя дапаможа іх дапрацаваць), а відэаработы — у сацсетках нашага часопіса.

Пераможцаў чакае прыз — ганарар.

Конкурс працягваецца да канца вясны. Дык не адкладайце, дасылайце вашы матэрыялы на пошту **history@nn.by** ужо цяпер!



WIKIMEDIA COMMONS

Станцыя ў Негарэлым з’явілася ў 1871 годзе, тут прайшла Маскоўска-Брэсцкая чыгунка. У 1921–1939 гадах гэта была апошняя станцыя на савецкім баку для тых, хто выязджаў з СССР, і першая для тых, хто ўязджаў. **Адпаведна, хадзілі цягнікі Пекін – Негарэлае і Негарэлае – Парыж.**

Пасля рэвалюцыі Іосіф Вікенцевіч застаўся на чыгунцы. Ён люта ненавідзеў Сталіна і сталінізм і дужа не ўхваляў вучобу Соф’і ў ВПШ ды працу ў партыйным апараце. У дзіцячых, не вельмі выразных успамінах нашай бабулі засталося, што Іосіф Вікенцевіч не любіў свайго зяця — ярага камуніста — і шмат зрабіў, каб разбурыць сям’ю дачкі. Канстанцін і Соф’я разышліся, свайго бацьку наша бабуля амаль не памятае. Іосіф Вікенцевіч адчуваў віну і таму ўвесь вольны час прысвячаў маленькай Ліне.

## Як ты, так і яны

22 чэрвеня нямецкая авіяцыя бамбіла Негарэлае, сям’я схавалася ў лёху. Рух па чыгунцы быў спаралізаваны. А раней жа па тых самых пуцях ішлі вагоны з таварамі для Нямеччыны...

Паўсюдна была паніка і ахвяры. Калі Соф’я Іосіфаўна 23 чэрвеня патэлефанавала сакратару Мінскага абкама, расказала яму пра страшныя вынікі бамбёжак і спытала пра эвакуацыю, ён адказаў: «Вы што паніку падымаеце?! Якія немцы... Калі раптам пабачыце немцаў, хапайце вілы, колле і біце фашыстаў». Увесь райкам быў у роспачы ад такога адказу. На наступны дзень яна зноў патэлефанавала ў абкам. Тады і высветлілася, што кіраўніцтва Мінскай вобласці ўжо выехала ў Маскву.

Уранку Соф’я Іосіфаўна з 7-гадовай дачкой выправіліся ў бежанцы. Але ж далёка яны не ўцяклі. 28 чэрвеня нацысты ўвайшлі ў Мінск, а 29 чэрвеня бежанцы сустрэліся з войскамі вермахта. Прыйшлося вяртацца, хаця Соф’я Іосіфаўна добра разумела, што яе, камуністку, чакае дома.

Першыя дні яна хавалася, але потым неяк атрымала аўсвайс. Нечакана высветлілася, як людзі паважалі Соф’ю Іосіфаўну: яе камуністычную дзейнасць не выдаў немцам ніводзін чалавек.

## Кошык для паліцая

Вельмі цяжка жылося ў акупацыі: працы не было, зямлі таксама. Жылі тым, што мянялі ў Заходняй Беларусі адзенне на ежу ды Іосіф Вікенцевіч рамантаваў суседзям абутак, посуд і іншыя хатнія прылады. Да вясны 1942 года адзежы на абмен амаль не засталося, і хоць немцы далі невялікі кавалак зямлі, ураджаю з яго хапала да сярэдзіны зімы. Голад быў люты.

Вясной і летам 1942 года хаатычны партызанскі рух стаў больш арганізаваны, уключылася ў яго і Соф’я Іосіфаўна. Яна перадавала партызанам, што адбываецца на вялікай


WIKIMEDIA COMMONS

чыгуначнай станцыі Негарэлае. Людзі прыходзілі да Іосіфа Вікенцевіча са сваімі рэчамі для рамонту і прыносілі розныя чуткі іназіранні, а ён рабіў высновы. Часам Соф'я Іосіфаўна хадзіла да партызан сама, часам яны заходзілі быццам адрамантаваць што-небудзь, а насамрэч прыносілі пашкоджаную зброю.

Іосіф Вікенцевіч, які добра ведаў нямецкую мову, пасябраваў з нямецкім доктарам. Той быў неблагі чалавек. Ён асуджаў зверствы нацыстаў і вельмі сумаваў сярод эсэсаўцаў ды паліцаяў па культурнай гутарцы і музыцы. Іосіф Вікенцевіч асцерагаўся выпытваць у яго карысную для партызан інфармацыю, але ж доктар перадаваў свежыя навіны з фронту, частаваў Ліну шакаладам, прыносіў харч, а часам і лекі, бінты, якія, зразумела, тут жа траплялі да партызан.

Упершыню Соф'ю Іосіфаўну арыштавалі восенню 1942 года. У той раз яна не вельмі зацікавіла немцаў, і бацьку ўдалося яе выратаваць: ён падкупіў ахову каштоўнасцямі, якія хаваў аж з дарэвалюцыйных часоў. Кіраўніцтва партызанскага атрада патрабавала актыўных дзеянняў, а Соф'і цяпер трэба было сцерагчыся. Таму дапамагаць стала 9-гадовая Ліна. Соф'я Іосіфаўна абкручвала дачку бінтамі, прымацоўвала лекі і ў снег ды мароз выпраўляла за 10–15 км у партызанскі атрад. Ліна несла не толькі інфармацыю, але і цяжкі кошык з прадуктамі, якія трэба было аддаць паліцаям, каб адчапіліся. Уявіце: галоднае дзіця, падаючы ад стомы, аддае хлеб паліцаям!

### Укусы турэмных пацукоў

У лютым 1943 года Соф'ю Іосіфаўну арыштавалі зноў. У турме ў Койданаве яе катавалі, але яна нічога не сказала. Чаму яе адпусцілі? Мабыць, думалі прасачыць? Чаму партызаны і падпольшчыкі паверылі, што Соф'я Іосіфаўна не здрадзіла? Гэтыя пытанні так і засталіся без адказаў. Але сама Соф'я Іосіфаўна разумела, што яе жыццё пад пагрозай. Сачылі не толькі за ёй самой, але і за Лінай, і за Іосіфам Вікенцевічам. Вялікіх намаганняў і рызыкі каштавала зараз сувязь з партызанамі! Соф'я Іосіфаўна прасіла кіраўніцтва атрада забраць яе з сям'ёй у лес, але зноў чула: «Не трэба панікі! Вас выпусцілі! Без вашых звестак наша дзейнасць бессэнсоўная!»



**Мемарыял у Малым Трасцянцы** на ўсходзе Мінска. Гэта быў найбуйнейшы лагер смерці на Беларусі. Тут замучылі больш за 200 000 чалавек, у тым ліку і маму, і дзеда нашай бабулі.

**Ліну білі на вачах у матулі, білі да непрытомнасці і яе саму**

У пачатку мая 1944 года да сям'і чарговы раз прыйшлі з вобшукам. І здарылася ж так, што ў хаце якраз была вінтоўка, якую Іосіф Вікенцевіч адрамантаваў, але не паспеў перадаць у лес! Арыштавалі ўсю сям'ю. З годнасцю пратрымацца ў акупацыі тры гады і быць арыштаванымі за два месяцы да вызвалення...

Спачатку сям'ю прывезлі ў койданаўскую турму. Ліну білі на вачах у матулі, білі да непрытомнасці і яе саму. Толькі дзякуючы добрай жанчыне ў камеры яны выжылі.

Не атрымаўшы ніякіх сведчанняў, немцы перавялі сям'ю ў Мінск, у турму на вуліцы Шырокай (цяпер Куйбышава). Старэйшыя, адчуваючы канец, развіталіся ў дарозе. Ліна назаўсёды запомніла матуліны ▸


З сямейнага архіва


З сямейнага архіва

**Ліна Канстанцінаўна з мужам жывуць разам ужо 60 гадоў.** На першым фота — іх вяселле ў 1961-м, на другім — Каляды 2016-га. «Абое пачыналі з нуля, — пішуць пра іх унучкі. — Але ўзаемапавага і падтрымка, дзядулеў розум і бабуліна ўспадкаваная інтэлігентнасць (а таксама ўсё, што памятала з урокаў свайго дзеда, — як з кім гаварыць і што куды надзець) дапамаглі абаім дасягнуць вышынь у працы. Дарэчы, наш дзядуля Міхаіл Мікалаевіч Малярэвіч быў адказны за мантаж і пад'ём штыка-абеліска ў мемарыяльным комплексе "Брэсцкая крэпасць-герой", у той час ён быў намеснікам міністра мантажных і спецыяльных будаўнічых работ БССР».

▶ словы: «Нічога не бойся, я загіну дзеля перамогі, нікога не прадаўшы, таму савецкая ўлада цябе не пакіне, дапаможа і ў жыцці, і ў вучобе». У Мінску Іосіфа Вікенцевіча адразу аддзялілі, а Соф'ю Іосіфаўну праз два дні бесперапынных пабояў таксама забралі. Толькі пасля вайны Ліна даведалася, што мама і дзядуля загінулі ў Малым Трасцянцы. Ліна засталася адна — галодная, знясіленая, збітая, з адкрытымі ранамі ад пабояў і ўкусаў турэмных пацукоў.

## Дадому са статкам кароў

У чэрвені 1944 года 10-гадовую Ліну разам з вялікай групай маладых жанчын і дзяцей пагрузілі ў таварныя вагоны і павезлі ў канцлагер у горадзе Кольберг (цяпер гэта польскі Калобжэг на Балтыйскім узбярэжжы). Пасля была катарга: жанчын і дзяцей адвозілі ў кар'ер і прымушалі грузіць пясок на машыны. Кармілі двойчы на дзень поліўкай і маленькім кавалачкам хлеба. Здаралася, што ў кар'ер не везлі: тады амаль увесь дзень людзі прастойвалі на пляцы і не атрымлівалі ежы. За 10 месяцаў Ліна пабачыла столькі жахаў і смерцяў: ад голаду, кішэчных хвароб, ран людзі падалі і паміралі штогадзіну, іншых збівалі і расстрэльвалі. Акрамя таго, дадаваліся ахвяры бамбёжак саюзнікаў.

У красавіку 1945-га вязняў пераставалі вывозіць на працу, шыхтаваць на пляцы, але і карміць перасталі. Знямоглыя людзі проста ляжалі ў бараках. Калі немцы сышлі, людзі нават не маглі ўцякаць: не было сілаў. У маі прыйшлі амерыканцы. Ліна была настолькі знясіленай, што яе палічылі мёртвай і паклалі разам

з трупамі. Але ўважлівы доктар прыкмеціў адзнакі жыцця і змог уратаваць дзяўчынку.

## Адзіная работа, на якую мог разлічваць былы вязень, — пагрузка вугалю

У пачатку чэрвеня былых вязняў перадалі савецкаму боку. Ліна вярнулася дадому пешкі, з вайсковай часцю, якая гнала з Нямеччыны вялізны статак кароў. Дамоў, у Негарэлае, наша бабуля дабралася толькі ў канцы жніўня.

Сям'і не было, пра родных ніхто нічога не чуў. Дом стаяў пусты і разрабаваны, без дзвярэй і вокнаў. Ліна пасялілася ў дзедавай сястры Ганны Вікенцеўны. Трэба было працаваць. Даведаўшыся, што паперы ў загсе загінулі, Ліна, робячы дакументы, дадала сабе 4 гады, каб ёй афіцыйна дазволілі працаваць. Адзіная работа, на якую мог разлічваць былы вязень фашысцкіх лагераў, — гэта пагрузка вугалю на чыгунцы па 12 гадзін кожны дзень. Гэтая праца для 12-гадовай дзяўчынкі мала чым адрознівалася ад катаргі ў кар'еры ў Кольбергу. Аднак жыццё не без добрых людзей: з дапамогай тых, хто добра памятаў Соф'ю Іосіфаўну, Ліну перавялі на лягчэйшую працу.

### За што загінула матуля?

Пасля вайны Ліну некалькі разоў выклікалі ў НКВД, цікавіліся падрабязнасцямі падпольнай работы яе мамы і арышту сям'і, шукалі паліцаяў. Ніхто не ставіў пад сумнеў удзел Соф'і Іосіфаўны і Ліны ў падполлі, але Лінінаму лёсу гэта не дапамагала. Калі дзяўчына вырашыла працягнуць вучобу ў школе і звярнулася па даведку, начальнік аддзела кадраў аддзялення чыгункі адказаў: «Табе трэба выдаць не даведку для вучобы, а воўчы білет. Ты не маеш права нават жыць на гэтай зямлі. Тваё месца ў Сібіры, на шахтах і рудніках, ты ж у вайну працавала на немцаў... Ты павінна памятаць, што ў цябе будучыні няма, тваё жыццё ў тупіку».

Ліна з горыччу ўспамінала апошнія маміны словы...

Пералом у бабуліным жыцці здарыўся пасля яе пераводу ў Мінск. Тут яна зноў мусіла расказваць аб сваім лёсе ў НКВД, чэкісты перадалі нейкія паперы ва ўпраўленне Беларускай чыгункі і пракурору Траскунову. Сваім стаўленнем да справы ён спадабаўся Ліне, і яна рызыкнула расказаць пра сваё жаданне вучыцца. І пракурор дапамог! Без удзелу гэтага чалавека ў лёсе нашай бабулі, хутчэй за ўсё, нічога добрага не было б.

Бабуля скончыла вячэрнюю школу, потым завочна — інстытут, выйшла замуж, нарадзіла дваіх дзетак, паспяхова працавала і пайшла на пенсію з пасады галоўнай бухгалтаркі Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі, удзельнічала ў працы грамадскага аб'яднання былых вязняў фашызму «Лёс».

Ліна Канстанцінаўна да сённяшняга дня памятае тых, хто, будучы такімі ж ахвярамі, як і яна сама, не даў ёй памерці ад ран і голаду ў турме і канцлагеры, дапамагаў у цяжкія пасляваенныя гады. Мы ганарымся нашай любімай бабуляй, таму што, нягледзячы на выпрабаванні лёсу, нягледзячы на несправядлівасць, яна не зламалася і засталася добрым, шчырым чалавекам. ◆



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА

**Як многія, хто ў дзяцінстве зведаў усе магчымыя жахі вайны, Ліна Канстанцінаўна вырасла вялікай жыццялюбкай.** На фота яна з амаль кілаграмовым памідорам, які вырасціла сама.

**Два анёлы з дзіцём і келіхам,** фрагмент літага крыжа, XIX стагоддзе. Шылавічы (Ваўкавыскі раён), каталіцкія могілкі.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

# Анёл і змей, чарапы і сэрцы

## Знакі памерлых на хрысціянскіх могілках

**Кароткі, але ёмісты «тлумачальны слоўнік» па сімволіцы пахаванняў на беларускіх могілках падрыхтаваў Сяргей Грунтоў.**

Дзеці на помніку — яўны знак, што маладая нябожчыца пакінула па сабе сірот. А вось выява жанчыны ў жалобе зусім не асацыюецца з канкрэтнай сваячкай памерлага.

На любых большых старых могілках мы аказваемся аточанымі напаўзабытай візуальнай мовай. Давайце паспрабуем яе зразумець.

## Чатырохканцовы і шасціканцовы

Самы распаўсюджаны сімвал на любым некропалі — гэта **крыж**. Калі на гістарычных могілках мы бачым надмагілле без выявы крыжа, то, хутчэй за ўсё, ён быў страчаны. Крыж часта аказваўся важнейшым нават за саму эпітафію: на розных могілках мы можам знаходзіць камяні з выявамі крыжоў, але цалкам пазбаўленыя тэксту і імёнаў пахаваных. Чаму крыж быў такі важны? Ён зацвярджаў той факт, што пахаваны быў хрысціянінам, а значыць, смерць яго толькі часовая і разам з іншымі адзінаверцамі ён чакае ўваскрашэння.

У слоўніках сімвалаў можна пабачыць вялікую разнастайнасць крыжоў, але на беларускіх могілках сустракаюцца два асноўныя: каталіцкі чатырохканцовы і праваслаўны шасціканцовы.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Крыж з Божым вокам над пахаваннем святара.** 1863 год. Блудзень (цяпер Першамайскі) Бярозаўскага раёна, царкоўны пагост.

Пры гэтым чатырохканцовы выкарыстоўваўся і праваслаўнымі як універсальны знак крыжа ў тых выпадках, калі могілкі былі толькі праваслаўнымі і канфесійны кантэкст быў адназначны.

Часта на надмагіллях можна пабачыць роўнабаковы крыж святога Георгія. Ён шырока выкарыстоўваўся на простых сялянскіх помніках з неапрацаваных камянёў. А ў выпадку больш дарагіх надмагілляў, якія вырабляліся ў спецыяльных майстэрнях, ён найчасцей гаворыць пра прыналежнасць памерлага да вайсковай справы.

Здзіўленне можа выклікаць выява крыжа ў нахіленым стане. Гэта не дэкаратыўны прыём, а вобраз крыжа, які Хрыстос нёс на Галгофу, — як сімвал зямных пакут. Разам з выявай Хрыста ён сустракаецца значна радзей і звычайна ў поўнафігурных скульптурах.

## Вянец і якар

Неад'емнай часткай многіх крыжоў з'яўляецца выява распятага **Хрыста**. Сімвал зямных пакут і ўваскрашэння, ён, акрамя таго, сустракаецца і як самастойны элемент: часам як паўнароставая выява ў літых крыжах ці ў выглядзе скульптуры,



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Хрыстос нясе крыж на Галгофу (фрагмент на склепе).** 1899 год. Кобрын, праваслаўна-каталіцкія могілкі.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Твар Хрыста на плаце святой Веранікі** і прылады яго катавання на літым крыжы. 1847 год. Шылавічы (Ваўкавыскі раён), каталіцкія могілкі.

часам у выглядзе паплечнай выявы ў медальёнах, з цярновым вянцом на галаве. Да таго ж яго прысутнасць можа быць праяўлена толькі ў выглядзе манаграмы, напрыклад, *IXЦI* ці *IHS*.

Гаворачы пра манаграмы, варта прыгадаць і яшчэ адну, вельмі папулярную асабліва да сярэдзіны XIX стагоддзя, — **D.O.M.** Гэта лацінскі акронім, які азначае *«Deo optimo maximo»* («Богу найлепшаму, найвялікшаму»). Аднак часта гэтае слова чыталася літаральна, як «дом», з-за таго што і ў народнай, і ў шляхецкай культуры магіла часта асацыявалася з новым домам памерлага. Як вынік, у эпітафіях узніклі такія дзіўныя формулы, як польскамоўны *«DOM wieczności»* («дом вечнасці»), дзе акронім страчвае першапачатковы сэнс.

Часам на Хрыста ўказваюць асобныя атрыбуты, напрыклад, **цярновы вянец**, які ўскосна сведчыць пра жыццёвыя пакуты памерлага. У іншых выпадках гэта **сэрца**, звычайна з невялікім полымем уверсе — уласна, Сэрца Хрыстова, якое палае любоўю да чалавецтва.

Калі звяртацца да хрысціянскай Тройцы, то два другія яе персанажы, **Бог-Бацька** і **Святы Дух**, у дэкоры надмагілляў ▶




**Дзева Марыя са змеем** над пахаваннем Генрыка Шырына. 1905 год. Клюшчаны (Астравецкі раён), каталіцкія могілкі.

адлюстроўваюцца заўважна радзей. Першы звыкла адлюстраваны ў выглядзе вока, заключанага ў трохкутнік. Святога Духа прадстаўляў голуб з распраўленымі крыламі — яго можна пабачыць на карункавых літых крыжах XIX стагоддзя і каменных надмагіллях з майстэрні мястэчка Мір.

Другі найважнейшы персанаж хрысціянства — гэта **Дзева Марыя**. Яе выява сустракаецца на могілках заўважна часцей за Хрыстову, што сведчыць пра надзвычайную папулярнасць яе культу як у XIX стагоддзі, так і сёння. Часта гэта паўнаростая скульптура са складзенымі на грудзях рукамі, якая стаіць на паўсферы і нагою прыціскае змяю.

Нярэдка лічаць, што **анёл** з’яўляецца атрыбутам дзіцячых пахаванняў, аднак часцей такія выявы можна ўбачыць над пахаваннямі дарослых людзей. Часам гэтыя біблейскія персанажы стаяць у жалобе, абапіраючыся на крыж, часам трымаюць у руках харугву, а ў іншых выпадках трубу — тады перад намі не хто іншы, як Анёл Суднага Дня, які грае на трубе і будзіць памерлых падымацца з магіл.

Крыху радзей за святых на могілках сустракаюцца выявы **вернікаў**, якія пазнаюцца па тым, што яны стаяць на каленях. Прытым звычайна ўкленчваюць менавіта дзеці, і гэта сведчыць пра тое, што ў такой магіле пахаваная маладая жанчына, якая пакінула па сабе сірот. Таму, напрыклад, на надмагіллі Францішкі Хамінскай у Канстанцінаве Мядзельскага раёна такіх постацяў дзве, а на помніку Аляксандры Лопат у Дараве Ляхавіцкага раёна — адразу тры.

Даволі часта на помніках можна пабачыць скульптурную выяву кнігі. Часам гэта толькі дэкаратыўны элемент, але ў большасці выпадкаў мы можам зразумець, што перад намі




**Анёл над пахаваннямі прафесара Аляксандра Міцкевіча** і яго сваякоў. 1870-я гады. Кобрын, цвінтар.




**Анёл над пахаваннем Апаліны Пратасевіч.** 1905 год. Дварэц (Дзятлаўскі раён), каталіцкія могілкі.


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Малітва дзяцей**, надмагілле Аляксандры Лопат. 1861 год. Дарава (Ляхавіцкі раён).

менавіта **Біблія** (ці Евангелле) дзякуючы цытатам адтуль на раскрытых «старонках». Сама па сабе наяўнасць Бібліі на помніку яшчэ нічога не гаворыць пра асобу памерлага, але калі яна спалучаецца з манстрацыяй, аплаткай і стулай, то перад намі — пахаванне святара.


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Якар на надмагіллі не абазначае, што тут пахаваны марак. Гэта сімвал надзеі.** 1913 год. Гародня, Фарныя могілкі.

З усёй хрысціянскай сімволікі чалавека неабазнанага найбольш можа здзівіць выява **якара**. Яна выклікае асацыяцыі з прафесіяй марака, даволі незвычайнай для Беларусі. Але насамрэч якар — гэта хрысціянскі сімвал надзеі, які часта выяўляецца ў камплекце з сэрцам (любоўю) і крыжам (верай). А вось на пахаваннях маракоў, братоў Яна і Аляксандра Канажэўскіх у Аборку каля Маладзечна, мы выяваў якараў якраз не знаходзім.

## Напамін пра долю людскую

Калі хрысціянская сімволіка на надгробках застаецца пашыранай і ў наш час, то сімвалы, звязаныя з самім фактам смерці, амаль цалкам зніклі з ужытку. Сёння нам складана ўявіць, каб нехта замовіў свайму памерламу сваяку надмагілле з выявай **чэрапа і скрыжаваных костак**, але на гістарычных могілках Беларусі мы можам знайсці сотні помнікаў з такімі знакамі. Такая выява знаходзіцца ў ніжняй частцы помніка і называецца галавой Адама. Над ёю заўжды знак крыжа — як ахвяры, якую прынёс Хрыстос, адкупіўшы ёю першародны грэх чалавека.

Выкарыстанне чэрапа і костак працягвае змрочную эстэтыку барока часоў Рэчы Паспалітай. Бо гэта яшчэ і ясны напамін пра лёс чалавека на зямлі і тое, што ад яго ў выніку застанецца. Мода на чарапы на надмагіллях паступова знікла ў другой палове XIX стагоддзя, але лакальна захоўвалася да пачатку XX-га.

Для вока нашага сучасніка больш змрочнай за чэрап і косці можа падацца хіба толькі выява **труны**. Яна і сустракаецца значна радзей і звычайна ў выглядзе формы самога помніка, які можа нагадваць саркафаг. Найцікавейшы прыклад знаходзім у Ваўкавыску.


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Самастойна, без костак і як аб'ёмны скульптурны элемент, чэрап сустракаецца вельмі рэдка.** Такое выключэнне можна пабачыць на каталіцкіх могілках у Берасці. Там ён ляжыць ля ног статуі анёла, у якога, праўда, не захаваліся ні галава, ні крылы.


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Чэрап і косткі** на надмагільнай пліце, 1876 год. Сваяцічы (Ляхавіцкі раён), каталіцкія могілкі.

На мясцовых каталіцкіх могілках ёсць вялікі помнік, выкананы ў выглядзе гранітнага саркафага, які стаіць на высокім пастаменце на львіных лапах.

Выява **развітання з нябожчыкам** на надмагільным помніку ў Беларусі ёсць толькі адна. Такі ўнікат захаваўся ў Бастыні каля ▸

▶ Лунінца. Там на літай пліце мы можам бачыць жалобную працэсію разам з катафалкам, запрэжаным коньмі пад доўгаю гунькай.

Зрэдку на надмагіллях можна знайсці **выявы нябожчыкаў** — не ў выглядзе прыжыццёвых партрэтаў, а пасля смерці. Унікальны для Беларусі прыклад такой выявы мы знаходзім у касцёле ў Росі на Ваўкавышчыне. Тут знаходзіцца паўнароставая мармуровая скульптура Сафіі Несялоўскай, якая ляжыць на смяротнай пасцелі, трымаючы крыж у руках. Яе вочы заплюшчаныя, рукою да грудзей яна прыціскае крыж. Помнік выкананы ў 1881 годзе ў рымскай майстэрні Джуліа Маскеці.

Натуральным атрыбутам любога пахавання сёння з'яўляюцца жалобныя **вянкі.** Так было і ў XIX стагоддзі. Наш энцыклапедыст Аляксандр Ельскі нават апублікаваў артыкул, дзе горача крытыкаваў любоў сваіх сучаснікаў да забагатых вянкоў. Часам рэшткі гэтых сімвалаў жалобы яшчэ можна пабачыць на айчынных могілках. Вянкі выраблялі з металу, які пасля фарбавалі, таму дзе-нідзе яны пазахоўваліся да нашых дзён, прымацаваныя да крыжоў на помніках.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Жанчына ў жалобе** ля надмагільнай капліцы Калупайлаў. Канец XIX стагоддзя. Гнезна (Ваўкавыскі раён), цвінтар касцёла.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Вянок на крыжы**, канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Ваўкавыск, каталіцкія могілкі.

Верагодна, самы просты спосаб адлюстраваць **жалобу** — паказаць чалавека, які ў ёй знаходзіцца. Звычайна такую ролю выконвала апранутая ў доўгае адзенне жанчына, якая схіляе галаву ля помніка. Гэта ўніверсальны сімвал жалобы, а не выява, напрыклад, канкрэтнай сямейніцы памерлага. У Беларусі збераглося некалькі такіх помнікаў, і адзін з найбольш запамінальных знаходзіцца на цвінтары касцёла ў Гнезне каля Ваўкавыска. Там жанчына стаіць ля ўвахода ў надмагільную капліцу роду Калупайлаў і плача, апусціўшы твар на далонь, у якой трымае край сваёй тунікі. У другой яе руцэ — маленькі вянок.

Часам сярод сімвалаў смерці можна сустрэць такую цалкам побытавую рэч, як **рыдлёўка** — уласна, інструмент для капання магілы. На шэрагу літых помнікаў яе трымае анёл, але сустракаецца яна і самастойным элементам.

Тут жа прыгадаем яшчэ **пясочны гадзіннік** — сімвал хуткаплыннага часу (часта іх можна ўбачыць у нечаканым варыянце з крыламі), **згаслыя паходні**, з якіх яшчэ віецца дым, — сімвал завершанага жыцця, **вазы і урны** на пастаментах і вяршынях калон — антычныя сімвалы жалобы, перанятыя хрысціянскай эпохай,

хоць крэмацыю новая рэлігія не прадугледжвала.

Для таго, каб убачыць большасць пералічаных прадметаў адначасова ў адным месцы, варта падысці да брамы менскай Кальварыі. Два барэльефы, якія яе ўпрыгожваюць, складзеныя з труны, рыдлёвак, чэрапа, урны, паходняў, вянкоў, крыжа і жалобных штандараў. Ідэальная ілюстрацыя да таго, што такое сімволіка смерці і пахавання.

## Лілеі і ружы

У XIX і першай палове XX стагоддзя папулярна было ўпрыгожваць надмагільныя помнікі разнастайнымі дрэвамі і раслінамі — не жывымі, а такімі, што былі часткай самога помніка.

Адной з самых яскравых праяваў такога «батанічнага» трэнду сталі помнікі ў выглядзе камля дрэва з абсечанымі сукамі. Першыя такія надгробкі з'яўляюцца ў 1860–1870-я і працягваюць выконвацца невялікімі майстэрнямі аж да



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Помнік у форме камля дрэва** над пахаваннем Уладзіміра Талаконскага-Пашкевіча. 1890 год. Страча (Астравецкі раён), каталіцкія могілкі.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Ураборас, хімічны кабінет і макі** на надмагіллі Анджэя і Канстанцыі Снядэцкіх. 1839 год. Гароднікі (Ашмянскі раён), каталіцкія могілкі.

1970-х, а сустрэць іх можна як на хрысціянскіх, так і на габрэйскіх могілках. **Дрэвы памерлых**, як часам іх называюць, сімвалізуюць заўчасна завершанае жыццё, часта ў людзей, якія не пакінулі нашчадкаў. Існуе легенда, што колькасць абрэзаных сукоў адпавядае колькасці пражытых дзесяцігоддзяў, але на практыцы яна не пацвярджаецца. Ды і такія помнікі маглі ставіць проста з эстэтычных меркаванняў, не вельмі зважаючы на сімволіку.

Часам у аздобе надмагілля можна ўбачыць **дубовыя лісткі**. Гэта сімвал трываласці і мужнасці. Іншы папулярны дэндральны матыў — скрыжаваныя вянком **аліўкавая і пальмавая галіны**. Першая сімвалізуе мір і спакой, другая — дабро, справядлівасць, блаславенне. А вось такія папулярныя сёння ў аздобе помнікаў бярозы ў XIX стагоддзі зусім не выкарыстоўваліся.

На могілках часта можна ўбачыць **мак**, часам у выглядзе



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Матыль у крыжы,** надмагілле Уладзіслава Пілецкага. 1908 год. Жырмуны (Воранаўскі раён), каталіцкія могілкі.

вянкоў з макавых каробачак без пялёсткаў. Гэта сімвал глыбокага сну, такога, у якім знаходзяцца памерлыя ў чаканні ўваскрашэння, і, адпаведна, яшчэ адзін спосаб адмаўлення татальнасці смерці.

**Лілея** — сімвал добрай весткі зачацця Хрыста і збавення для чалавецтва. Большасць каталіцкіх эпітафій завяршаецца просьбай прачытаць малітву «Вітай, Марыя!», якая ў словах перадае момант атрымання Марыяй добрай весткі ад анёла. Лілея ў гэтым кантэксце — візуальны напамін пра названую малітву, якую трэба прачытаць за душу памерлага. Часам яе можна бачыць у суседстве з анёлам на літых крыжах, часам як самастойны элемент, які з іншымі травамі «вырастае» ля падножжа помніка.

Яшчэ адна кветка, якая традыцыйна звязваецца з Дзевай Марыяй, — гэта **ружа**. Яе часта можна бачыць у літых вянках і ў кветкавых гірляндах на каменных помніках. А вось ▸

▶ **вінаград**, які сімвалізуе Хрыста і кроў Хрыстову, на беларускіх могілках можна ўбачыць значна радзей.

## Змяя і матыль

Жывёльная сімволіка на могілках з'яўляецца даволі рэдкай. Вышэй ужо ўзгадвалася **змяя** пад нагою Дзевы Марыі, але сустракаецца яна і як самастойны элемент, вядомы як «ураборас». Гэта змей, які, скруціўшыся ў кола, кусае ўласны хвост. Ён сімвалізуе перараджэнне, вечнае жыццё, а ў Беларусі яго можна ўбачыць на каталіцкіх могілках у Пінску і на цвінтары ў Гародніках каля Ашмянаў.

Другі прыгожы і старажытны сімвал — **матыль**. Ён сімвалізуе душу, якая выйшла з кукалкі-цела да новага жыцця. Пра адзін з такіх прыкладаў мы ўжо пісалі ў сумесным з Дзмітрыем Віцько артыкуле пра могілкі вёскі Трашчычы Карэліцкага раёна (№3/2020 «Нашай гісторыі»).

А бываюць ужо страчаныя прыклады, вядомыя толькі па архіўных фота. Так, адзіны ў Беларусі вядомы ўзор выкарыстання выявы **сабакі** на магіле знаходзіўся на пінскіх могілках. Гэта была скульптура сабакі каля сваёй гаспадыні, дзяўчыны з партфелем гімназісткі ў руках на склепе Тукальскіх-Нелюбовічаў. Сабака, сімвал вернасці, сёння страчаны, а сам помнік моцна пашкоджаны.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Галава сфінкса** на надмагіллі Чарноцкага. 1905 год. Пружаны, каталіцкія могілкі.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Помнік на склепе Тукальскіх-Нелюбовічаў.** Побач з фігурай дзяўчыны некалі была фігура і сабакі. Пачатак XX стагоддзя. Пінск, каталіцка-праваслаўныя могілкі.

## Егіпецкія матывы

Вельмі часта на могілках можна ўбачыць **калоны і абеліскі** — сімвалы славы, запазычаныя з лексікона антычнай архітэктуры. У некаторых выпадках калоны маюць абламаны верх, і тады гэта сімвал завершанага жыцця.

Найбольш экзатычныя прыклады архітэктурнай сімволікі — гэта **старажытнаегіпецкія матывы** ў форме і дэкоры надмагілляў. Вялікія пахавальні-піраміды можна пабачыць у Маліноўшчыне каля Маладзечна і ва Уздзе, надмагільную капліцу з егіпецкімі калонамі і сімволікай — на каталіцкіх могілках у Магілёве, барэльеф з галавою сфінкса — на каталіцкіх могілках у Пружанах. З аднаго боку, гэта сляды эстэтычных захапленняў сваёй эпохі, з іншага — сімвалы вечнасці, магчымасці створанага чалавекам перажываць тысячагоддзі.

Папулярнасць акроніма *D.O.M.*, пра якую казалася вышэй,




ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Саркафаг на звярыных лапах.** 1883 год. Ваўкавыск, каталіцкія могілкі.

знаходзіла сябе і ў архітэктурных формах. Беларускія сяляне будавалі над магіламі драўляныя зрубныя **дамкі** пад крытымі гонтай дашкамі. Шляхецкія пахаванні мелі свае аналагі ў выглядзе мураваных каплічак-дамкоў. Адна з іх, маляваная некалі Напалеонам Ордам, захавалася над магілай паэта Францішка Карпінскага ў Лыскаве Пружанскага раёна.

Акрамя груп надмагільных сімвалаў, ёсць і індывідуальныя знакі, што расказваюць пра асобу памерлага ці яго род. Самы вядомы прыклад — **геральдычныя выявы**, якія паказвалі на шляхецкае паходжанне памерлага. Падобную функцыю выконвалі і выявы **зброі**. Толькі ў некаторых выпадках яна сведчыць пра вайсковы занятак памерлага. Часта гэта толькі ўказанне на шляхецтва як вайсковае саслоўе, таму меч часам можна сустрэць і на жаночым надмагіллі.

Нярэдка пэўныя выявы на помніку сімвалізуюць прафесійны занятак памерлага. На помніку кампазітара Міхала Грушвіцкага ў Ракаве мы бачым ноты, на помніку скульптара Баляслава Шышкевіча ў Гародні — ягоныя прылады працы, на помніку хіміка Анджэя Снядэцкага ў Гародніках Ашмянскага раёна — хімічную лабараторыю. Гэты трэнд застаецца папулярным і сёння.

Канечне, свет мемарыяльнай сімволікі нашмат больш варыятыўны і неаднназначны, чым агульныя яго тлумачэнні. Магчыма, гэта самае цікавае, што ёсць у вывучэнні «знакаў памерлых»: мы ў любы момант можам апынуцца перад новым адкрыццём і новай загадкай. Дастаткова толькі ўважліва глядзець. ◆




ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Надмагільная капліца Францішка Карпінскага.** 1825 год. Лыскава (Пружанскі раён), цвінтар касцёла.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Прылады скульптара на надмагіллі Баляслава Шышкевіча.** 1893 год. Гародня, Фарныя могілкі.

# Жніво

## Самая беларуская карціна міжваеннай Польшчы

**Пра беларускі шэдэўр 1930-х піша мастацтвазнаўца Надзея Вусава.**

Калі едзеш з Мінска ў Вільню праз Лошу, перад самай ужо мяжою справа ад дарогі паўстае старая бажніца. Памятаеце, такая лагчына, ставок, акуратная каменная агароджа, а далей — сасновы бор, дзіцячы лагер? Райскае месца, дзе час нібы завіс, так і хочацца спыніцца. Вось тут, у Лошы, меў сядзібу мастак Леў Дабжынскі, і сюды да яго прыязджалі сябры-мастакі.

### Лета ў Лошы

Маёнтак у былым Ашмянскім павеце за 42 кіламетры ад Вільні фармальна належаў цётцы мастака Льва Дабжынскага Вользе. Цяпер Лоша — невялікая вёсачка ў Астравецкім раёне, вядомая як аўтамабільны пераход на беларуска-літоўскай мяжы. А ў 1930-я гады гэта была куды больш прыгожая мясціна, чым цяпер, — з алеямі, млынам, а галоўнае — двухпавярховым недабудаваным домам з высокімі столямі, люстрамі і дубовай падлогай, які пачалі ўзводзіць перад самай Першай сусветнай вайной, ды так і не скончылі.

Дабжынскія вярнуліся ў свой маёнтак пасля бежанства ў 1922 годзе. У 1929 годзе Леў паступіў у Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя на факультэт прыгожых мастацтваў. Адным з сяброў, набытых Дабжынскім падчас навучання, стаў Міхась Сеўрук — галоўны герой гэтага артыкула.

Сядзіба ў Лошы была тым месцам, куды ўніверсітэцкія сябры — Леў Дабжынскі, Міхась Сеўрук, Кузьма Чурыла, Жэнька Бранскі — прыязджалі на канікулы і працавалі на натуры, атрымліваючы асалоду ад цудоўных навакольных краявідаў. Сапраўдны «беларускі Барбізон»*, рай для маладых мастакоў.



МУЗЕЙ-КВАТЭРА МІХАСЯ СЕЎРУКА Ў НЯСВІЖЫ

**Міхась Сеўрук (злева) і Пётра Арэнь (брат маці) у Снове.** 1925–1926 гады.

### Нараджэнне ідэі

Прафесар Віленскага ўніверсітэта Фердынанд Рушчыц (гл. пра яго артыкулы Алеся Белага і Надзеі Вусавай у № 11/2020 «Нашай гісторыі») патрабаваў ад сваіх вучняў пісаць летнія эцюды на вясковыя тэмы. Міхась Сеўрук, які нарадзіўся ў Варшаве, дзяцінства якога прайшло ў Брэсце, юнацтва — у Маскве, Нясвіжы і Снове, нарэшце займеў у Лошы магчымасць назіраць за працэсам

* **Барбізон** — вёска пад Парыжам, дзе ў XIX ст. жыла група мастакоў-пейзажыстаў, якая дала назву «Барбізонскай школе».

**Міхась Сеўрук**
(1905–1979) — беларускі мастак-жывапісец і графік. Нарадзіўся ў Варшаве ў сям'і чыгуначніка. З-за прафесіі бацькі сям'я часта мяняла месца жыхарства. Сеўрукі ў розны час жылі ў Брэсце, Маскве, Снове пад Нясвіжам.

Міхась вучыўся ў Нясвіжскай гімназіі, потым у 1927 годзе паступіў у Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя, дзе стаў вучнем Фердынанда Рушчыца. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1932 годзе і да пачатку Другой сусветнай вайны Сеўрук жыў у Вільні.

Віленскі перыяд творчасці мастака лічыцца самым насычаным. Ён на замову выканаў роспіс касцёла пад Познанню, аформіў некалькі прамыслова-рэгіянальных выстаў у Вільні. Яшчэ падчас студэнцтва напрыканцы 1920-х напісаў партрэт віленскага бурмістра Юзафа Фаліеўскага. Тады ж мастак перажыў яскравы, але кароткі раман, па чутках, з дачкой бурмістра, якая раптоўна памерла. Праўда, у бурмістра былі толькі два сыны, але сапраўды, у 1930 годзе згарэла ад хуткацечнай лімфомы іх зводная сястра, 20-гадовая паэтка Зося Аркан. Магчыма, гэта яна на здымку ў майстэрні мастака.

Сеўрук таксама быў актыўным удзельнікам мастацкага жыцця горада. Ён стаў адным з сябраў Віленскага таварыства аматараў мастацтваў. У 1936 годзе стаў сябрам Віленскага мастацкага кааператыву, а ў 1937-м сам заснаваў «Віленскую групу» мастакоў.

У 1939-м, пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, Сеўрук перабраўся да сваякоў у Нясвіж, дзе і пражыў да самай смерці.

Працы Сеўрука захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у кватэры-музеі ў Нясвіжы, а таксама ў фондах Нясвіжскага гісторыка-краязнаўчага музея.



**Міхась Сеўрук у сваёй майстэрні.** 1930 (?) год.

МУЗЕЙ-КВАТЭРА МІХАСЯ СЕЎРУКА У НЯСВІЖЫ

жніва. Тады ўся вёска: і мужчыны, і жанчыны, і малыя, і старыя — выходзіла на працу, не зважаючы на спякоту.

Тут, у Лошы, да Сеўрука і прыйшла ідэя будучай карціны. Захаваліся ягоныя шматлікія рэалістычныя графічныя накіды жней.

У 1977 годзе мастацтвазнаўца Віктар Шматаў збіраў матэрыял для сваёй кнігі пра мастака Міхася Сеўрука — яна выйдзе ў 1980-м, праз год пасля смерці жывапісца — і даслаў яму некалькі пытанняў пра гэту карціну.

«"Жніво" маляваў я ў маёнтку майго сябра, добрага мастака Дабжынскага, — расказваў Сеўрук. — Маляваў тры тыдні, падымаўся з усходам сонца. Пісаў яе без кардону і папярэдніх накідаў і эцюдаў, і, уласна кажучы, я яе так і не закончыў, усё думаў, калі-небудзь паспею».



НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

**Міхась Сеўрук. «Падвячорак».** Туш, пяро. Сярэдзіна 1930-х гадоў.

## Зборная стылістыка

Карціна жніва ў Сеўрука выглядае беларускай ідыліяй, сапраўдным «сялянскім раем». У ёй зафіксаваныя ўсе стадыі: і працэс цяжкай працы, і час кароткага перапынку, і хуткі сняданак з кармленнем дзіцяці. Гэтая карціна захапляе і сваім сімвалізмам, і рэалізмам, у ёй спалучыліся і эстэцтва, і народнасць. Яна была зразумелай кожнаму селяніну.

Настрой «Жніва» — мажорны, цвёрды, бадзёры і вясёлы. Сяляне тут без каўтуна ў валасах: гэта дужыя, здаровыя і фізічна, і духоўна людзі, якіх не страшыць цяжкая праца. Яны босымі нагамі цвёрда стаяць на зямлі як арганічная частка маці-прыроды.

У «Жніве» Сеўрук выпрацаваў асаблівую стылістыку: узяў нешта і ад старых майстроў Рэнесансу XVI стагоддзя, і ад класіцызму XVIII стагоддзя, і ад сезанізму пачатку XX-га. Сіла «Жніва» — у гэтай непаўторнасці. ▸

Арганізаваць шматфігурную кампазіцыю (а на карціне — больш за дзясятак фігур) на плоскасці невялікага палатна — няпростая задача. Дапамог мастаку ў гэтым Нікаля Пусэн — французскі класіцыст, майстра гарманізацыі і ўстойлівасці пейзажу, аўтар класічнага палатна «Лета» (1660–1664), на якім таксама выяўлена сцэна жніва. Мастацкая кампазіцыя «Жніва» Сеўрука шмат у чым паўтарае «Лета» Пусэна: прастора на абедзвюх карцінах выразна падзеленая на Святло і Цень.



**Вада** — другая стыхія жыцця. Без яе не могуць ні зямля, ні расліны, ні чалавек, ні звер. **Рака жыцця,** якая дае энергію, прахалоду і адпачынак у цяні магутных дрэваў, наталяе смагу. Мужчына зачэрпвае ваду ў жбанок проста з ракі, другі прагна п'е яе. Удалечыні ўгадваецца фігура верхавога, які прывёў кабылу з жарабём на вадапой.

На першым плане — сцэна адпачынку касцоў і жняі з дзецьмі ў цяні зялёных дрэў. Фігуры людзей уяўляюць сабой архетыпы, сімвалы адзінства пакаленняў: Дзед, Маці, Касец, Жняя, Хлопчык, Немаўлятка — адна вялікая сям'я. Карціна чытаецца як гімн калектыўнай сялянскай працы, як «формула разумнага жыцця на цудоўнай зямлі», як працяг, а можа, і адказ Сеўрука на карціну Фердынанда Рушчыца «Зямля» з яе трагічным героем-аратым.

Маці, якая корміць дзіця, — **сімвал зямлі-карміцелькі**, якая нарадзіла і аддае людзям жыта. Яна чытаецца як Мадонна жніва і як вясковая Венера, багіня прыгажосці. Побач з ёй — малое дзіця, своеасаблівы **сялянскі «пуці»** — гарэзлівае немаўля-анёлак, якіх Сеўрук шмат бачыў у аздабленні касцёлаў Віленскага краю.

Але гэта і рэальная маладая вясковая кабета, і рэальнае хлапчанё, якога ўзялі ў поле на цэлы працоўны дзень. Малыя дзеці знаходзіліся ў полі зроку маці, але забаўлялі сябе самі. Малы гуляе з сабакам і бегае за матылямі. Паглядзіце на характэрную жыццёвую дэталь: кантраст загарэлых рук маці і далікатнай скуры дзіцяці.



**Чорная хмара** на небе — перасцярога: трэба спяшацца, каб ухапіць надвор'е да летняй навальніцы, якая можа палажыць жыта.

На самым далёкім плане на пагорках — сцірты і жаночыя фігуркі жней, якія выглядаюць амаль супрэматычна.

Ад жніва залежала выжыванне роду, таму яго рытуал фарміраваўся стагоддзямі. Жніво пачыналася з зажынак, калі старэйшая дачка зранку вязала першы сноп, які зваўся **«сноп-гаспадар»**. Першы снапок неслі дадому і, абмалаціўшы асобна, асвячалі ў царкве, дадавалі да насення, а саломай кармілі карову, каб не хварэла. Намёк на яго — у руках дзяўчыны ў чырвонай кашулі, якая адразу прыцягвае ўвагу гледача менавіта да гэтай фігуры.

Галоўнае месца займае **залатая ніва, наша ніва** — да высокага далягляду на пагорках. **Жыта** — багацце зямлі і людзей.

Маці павінна ўзяць у поле ежу: **хлеб, соль, ваду.** Побач з ёй на зямлі нацюрморт з традыцыйнай, з маленства знаёмай ежы: малака, хлеба, гуркоў, бульбы.

Ад майстроў Рэнесансу Сеўрук запазычыў выразную скульптурнасць формаў персанажаў. Воблачнае неба з хмарамі мастак падгледзеў у Цінтарэта, майстра XVI стагоддзя. Жывапіс палатна шчыльны, цяжкі. Гэта — ад Поля Сезана, прадстаўніка постімпрэсіянізму, з ягоным метадам лепкі формы колерам.

Сеўрук два гады займаўся скульптурай у прафесара Баляслава Бальзукевіча, што дапамагло яму адчуць і спазнаць формы прадметаў. Фактура палатна нагадвае рэльеф сваёй пластычнасцю. Зжатае жыта падаецца асаблівай штрыхавой фактурай, уся ніва — маналітам жоўта-залатога колеру, сінія хвалі вады ў ручаі «зацвярдзелі» ў рэльефе. ▸

Карціна вытрымлівае любое павелічэнне. Па рэпрадукцыі і не здагадаешся, што насамрэч «Жніво» — палатно невялікага памеру. Крыху больш за метр у вышыню, але пры гэтым карціну лёгка ўявіць перанесенай як мурал на сцяну пятнаццаціпавярховага дома (няхай бы!).

А справа тут у тым, што ў «Жніве» Сеўрук выкарыстаў прынцыпы манументальнага мастацтва: адсутнасць дэталізацыі, чыстыя колеры і іх рытмічнасць (белы і зялёны колер на кашулях паўтараюцца па ўсёй паверхні карціны), што прывяло да такога эфекту.

### Прызнанне землякамі

Тэма жніва і касьбы была надзвычай папулярная ў першай трэці XX стагоддзя і ў паэзіі, і ў жывапісе. Нават такі авангардны майстар, як Казімір Малевіч, і той стварыў некалькі варыянтаў супрэматычных «Жней». Жніво, праца на полі ўспрымалася беларускімі віленскімі адраджэнцамі як сімвал працы на карысць Радзімы на ніве культуры. Нездарма


МАСКОЎСКІ МУЗЕЙ СУЧАСНАГА МАСТАЦТВА

**«Жніво» Казіміра Малевіча.** 1912 год.



НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСІ

**Малюнак Сеўрука «Жняя»** на вокладцы віленскага часопіса «Калосcе», 1935 год.

і беларуская перыёдыка першай паловы XX стагоддзя мела такія назвы, як «Наша Ніва» ці «Калосcе».

Пётра Сергіевіч (гл. пра яго артыкул у № 12/2019 «Нашай гісторыі») адразу параіў купіць «Жніво» ў фонды Віленскага беларускага музея. У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захаваліся пратаколы пасяджэнняў рады музея за люты 1935 года, на якіх разглядалі «прапазыку гр. Сергіевіча ад імя мастака Сеўрука аб куплі ад апошняга яго карціны. Пастанавілі: абраз купіць, заплаціць па меры магчымасці 100 злотых, зараз заплаціць 35 злотых, а на наступнай субвэнцыі — столькі ж...».

Цікава, што ў тым жа самым 1935 годзе віленскі часопіс «Калосcе» стаў выкарыстоўваць на вокладцы вельмі блізкі па стылістыцы малюнак Сеўрука «Жняя».

### «Мастак-невідзімка»

У 1939 годзе, пасля прыходу ў Заходнюю Беларусь Чырвонай арміі, Сеўрук пакінуў любімую Вільню і з'ехаў да маці і сястры ў Нясвіж. Пасяліўся ў Ратушы, там яму далі майстэрню. Там ён і жыў, бо ў доме маці месца бракавала. А неўзабаве пачалася вайна з немцамі, пра якую Сеўрук пасля ўспамінаць не любіў.

Нямецкія акупанты за вайну некалькі разоў спрабавалі абрабаваць Беларускі музей у Вільні, таму экспанаты перавозілі ў розныя месцы. Частка трапіла, напрыклад, у касцёл Святога Міхала, дзе служыў беларускі ксёндз Адам Станкевіч. Каб уратаваць сваю карціну, Сеўрук папрасіў Сергіевіча аддаць «Жніво» яму. Той так і зрабіў.

Нясвіж вызвалілі ў ліпені 1944 года, але часы заставаліся няпростымі. Пасля арышту дырэктара Віленскага музея Янкі Шутовіча Сеўрук пра сваю

### Беларускі музей імя Івана Луцкевіча

адзін з галоўных беларускіх культурных асяродкаў у Вільні, быў заснаваны ў 1921 годзе і названы ў гонар памерлага ў 1919 годзе беларускага палітыка, археолага, краязнаўца і аднаго з заснавальнікаў «Нашай Нівы» Івана Луцкевіча.

Першыя экспанаты музея паходзілі з асабістай калекцыі Луцкевіча. Сярод іх былі частка чэшскага выдання Бібліі Францыска Скарыны, Статут ВКЛ 1588 года, Навагрудскае Евангелле XIV стагоддзя і іншыя старадрукі.

Музей быў ліквідаваны напрыканцы 1944 года, а ягоная калекцыя падзеленая паміж музеямі Беларускай і Літоўскай ССР.

мінулую творчасць стараўся не згадваць, стаў «мастаком-невідзімкай». Працаваў загадчыкам былых радзівілаўскіх паркаў, выкладаў маляванне ў школе і вёў дзіцячую мастацкую студыю пры Ратушы.

За партрэты франтавікоў і карціну «Нясвіж у гады вайны» Сеўрук у 1946 годзе быў прыняты ў Саюз мастакоў БССР. Але восем гадоў да смерці Сталіна мастак ні разу нідзе не выстаўляўся: баяўся прыцягнуць да сябе ўвагу савецкіх уладаў. І толькі з 1953 года на рэспубліканскіх выставах пачалі з'яўляцца яго творы.

Нешматлікія карціны віленскага перыяду спачатку захоўваліся ў майстэрні Сеўрука на трэцім паверсе ў нясвіжскай Ратушы, потым у дамку на Садовай вуліцы, дзе ён жыў разам з жонкай Раісай Сямёнаўнай — рэпрэсаванай дачкой святара. Яны ажаніліся напрыканцы 1950-х, калі жанчына вярнулася ў Нясвіж з казахстанскай ссылкі. У гэтым іх сямейным дамку захоўвалася і «Жніво», якое чакала свайго часу.



НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

**«Жняя» Міхася Сеўрука.** 1930-я гады. Аловак, акварэль.



ТРАЦЦЯКОЎСКАЯ ГАЛЕРЭЯ

**«Партызанская Мадонна» Міхаіла Савіцкага**, версія 1967 года.

## Прызнанне пасля смерці

Яшчэ да афіцыйнага прызнання карціна, якая дзесяцігоддзямі не з'яўлялася на выставах, хадзіла па руках мінскіх мастакоў у выглядзе фотаздымкаў. Уладзіміру Сцяпану, студэнту мінскай мастацкай вучэльні, у 1976 годзе амаль тайна ў якасці прыкладу паказаў такі фотаздымак педагог Кім Шастоўскі. Нават чорна-белы здымак уразіў маладога мастака сваёй неардынарнай фармальнай кампазіцыяй. Карціна тады падалася яму вельмі вялікай, манументальнай, не жывапісам, а хутчэй іконай, дзе кожная дэталь мае патаемны сэнс.

«Жніво» было прададзена ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР удавой мастака ў 1980 годзе, праз год пасля ягонай смерці. А ў 1993 годзе, ужо пры незалежнай Беларусі, карціна заняла пачэснае месца ў экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея. Усе ж іншыя творы Сеўрука — а іх было больш за 1200 — Раіса Сямёнаўна Сеўрук у сваім завяшчанні адпісала Нясвіжскаму краязнаўчаму музею з умовай стварэння дома-музея мастака. У 1996 годзе такі музей быў створаны. І ў гэтым ёсць нейкая найвышэйшая справядлівасць: адзіны вучань школы Рушчыца, які застаўся працаваць у Беларусі і не быў асабліва прызнаны пры жыцці, атрымаў персанальны музей. Дарэчы, такіх музеяў пакуль няма ні ў самога Рушчыца, ні ў іншых ягоных шматлікіх вучняў. ◆

## Слядамі Сеўрука

«Жніво» Сеўрука адразу ж пачалі цытаваць іншыя мастакі. Першы — Кузьма Чурыла. Ён фактычна ўвёў той жа матыў у сваю дыпломную карціну, праўда, занадта перагрузіўшы яе выявамі жывёл і сялян за працай.

Сапраўдны ж шэдэўр з'явіўся на 30 гадоў пазней. Гэта «Партызанская Мадонна» Міхаіла Савіцкага. Мастак напісаў партызанскую зону, маладую маці, якая корміць дзіця. За яе спінай — жніво. Жніво як працяг жыцця і жніво смерці: у бой ідуць новыя атрады партызан. Гэтая карціна выклікала скандал і фурор на Усесаюзнай выставе 1967 года ў Маскве, бо мастак адкрыта ўвёў рэлігійны падтэкст у карціну падчас ваяўнічай атэістычнай кампаніі. Тым не менш гэтую карціну набыла Траццякоўка. А пазней Савіцкі ўжо для Мінска напісаў яшчэ адзін варыянт «Партызанскай Мадонны», ужо менш падобны да сеўрукоўскага «Жніва».

Што адчуваў Сеўрук, калі глядзеў на шматлікія рэпрадукцыі «Партызанскай Мадонны»? Цяжка сказаць. Яго ўласная «сялянская Мадонна» тады яшчэ была зачынена ў майстэрні. Але сустрэлася з «Мадоннай» Савіцкага ў экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея ўжо ў XXI стагоддзі. Кожная з іх — шэдэўр свайго часу.

# Блакада Берліна

## Як Захад паказаў сваю рашучасць у крытычны момант

**Заходні Берлін: 2 мільёны жыхароў, 323 дні блакады, 200 тысяч самалёта-вылетаў, 2,3 мільёна тон перавезеных грузаў, 25 разбітых самалётаў і 101 загінулы. Пра адну з самых грандыёзных гуманітарных аперацый XX стагоддзя піша Андрэй Акушка.**




**Берлінцы назіраюць, як у аэрапорце Тэмпельгоф сядае самалёт С-54**, 1948 год.

Вясна 1945 года набліжалася да завяршэння. Саюзнікі па Антыгітлераўскай кааліцыі спыніліся на дамоўленых рубяжах. Вораг быў знішчаны, супольная мэта дасягнутая.

У эйфарыі першых дзён перамогі галоўнакамандуючы заходнімі арміямі, амерыканец Дуайт Эйзенхаўэр, яшчэ спадзяваўся, што Берлін стане «эксперыментальнай лабараторыяй для развіцця міжнароднага супрацоўніцтва». Але вельмі хутка тут запрацавала іншая лабараторыя — лабараторыя халоднай вайны. Як трапна адзначыў у сваёй прамове савецкі міністр замежных спраў Вячаслаў Молатаў, «тое, што адбываецца з Берлінам, адбываецца з Германіяй. Тое, што адбываецца з Германіяй, адбываецца з Еўропай».

Барацьба за Еўропу пачалася ў Берліне.

### Чэмпіянат па перацягванні коўдры

У першыя пасляваенныя гады Германія, падзеленая на зоны акупацыі, кіравалася праз Саюзніцкую Кантрольную раду, у якую ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх вялікіх дзяржаў Антыгітлераўскай кааліцыі. Але вельмі хутка гэтая рада ператварылася ў фікцыю. Кожная адміністрацыя ў сваёй зоне рабіла тое, што адпавядала яе інтарэсам, не зважаючы на меркаванні іншых.

Першапачаткова планавалася, што з часам пераможцы перададуць кіраванне новаму нямецкаму ўраду, а Германія будзе адзінай. Сталін быў не супраць такога плана, але заходнія эксперты лічылі, што за гэтай добразычлівасцю ў дачыненні да зрынутага ворага хаваецца спадзеў на авалоданне ўсёй краінай цалкам. Захаду камуністычная Германія была не патрэбная, таму саюзнікі пачалі як мага хутчэй убудоўваць свае зоны акупацыі ў адзіную эканамічную прастору з капіталістычнымі краінамі.

У самым пачатку 1947 года амерыканцы і брытанцы аб’ядналі свае зоны акупацыі ў адну. Гэтае протадзяржаўнае ўтварэнне атрымала назву «Бізонія». ЗША ўключыла «Бізонію» ў план дапамогі Маршала і пачала аднаўленне разбуранай вайной эканомікі.

Французы ў той час асцерагаліся адраджэння «Германскага Рэйха» і моцна супраціўляліся амерыкана-брытанскім планам па пабудове новай нямецкай дзяржавы. Але брытанцы хутка знайшлі нітачкі, за якія трэба было пацягнуць, каб падштурхнуць нядбалага саюзніка да патрэбных дзеянняў. У сярэдзіне 1947 года Брытанія кардынальна паменшыла вываз вугалю з Рурскага басейна ў Францыю, з-за чаго ў краіне пачаўся энергетычны голад. Французы намёк зразумелі і хутка далучылі сваю зону акупацыі да «Бізоніі». Так узнікла «Трызонія». Да стварэння Федэратыўнай Рэспублікі Германія заставаўся адзін крок.

Германская ж сталіца заставалася падзеленай на дзве часткі — Заходні і Усходні Берлін. Пярчынку гэтай геапалітычнай страве дадаваў той факт, што горад знаходзіўся ў глыбіні савецкай зоны. Да мяжы з брытанскай зонай адсюль было больш за сто кіламетраў. Заходні Берлін стаў анклавам саюзнікаў у варожым савецкім атачэнні. І Савецкі Саюз не прамінуў скарыстацца такім становішчам, каб націснуць на заходніх партнёраў.

### Вясновае абвастрэнне

Сітуацыя пачала распальвацца ў 1946 годзе. СССР у аднабаковым парадку прыпыніў пастаўкі прадуктаў са сваёй зоны акупацыі ў заходнія. ЗША ў адказ забаранілі саветам вывозіць з амерыканскай зоны дэмантаванае абсталяванне прамысловых прадпрыемстваў, якое належала Савецкаму Саюзу па законе аб рэпарацыях. СССР тады пачаў абмяжоўваць прысутнасць саюзніцкіх войск у сваёй зоне, савецкія патрулі сталі спыняць і правяраць канвоі, якія ішлі ў Заходні Берлін.

У самім Берліне, які фармальна лічыўся адзіным горадам, у кастрычніку 1946 года прайшлі выбары ў гарадскі парламент, дзе прасавецкая Сацыялістычная адзіная партыя набрала ўсяго 19,8% галасоў. Празаходнія дэпутаты абралі мэрам горада Эрнста Ройтэра, які не задавольваў савецкі бок.

У студзені 1948 года кіроўцам транспартных сродкаў з Заходняга Берліна забаранілі ехаць ва Усходні без спецыяльнага пропуска. Хутка пачалі затрымліваць і цягнікі. Лідар нямецкіх камуністаў Вільгельм Пік прапанаваў пайсці яшчэ далей, каб вымусіць заходнія дзяржавы пакінуць Берлін. З 1 красавіка сувязь паміж заходнімі зонамі горада і ўсходняй амаль спынілася. Савецкая прэса апраўдвала гэта тым, што праз мяжу прабіраюцца «бандыты і тэрарысты».

Камандуючы войскамі ў амерыканскай зоне генерал Люсіус Клей забіў трывогу і пісаў, што «рускія жадаюць выкінуць нас з Берліна». Ён прапанаваў страляць у савецкіх салдат, якія паспрабуюць спыняць канвоі. Яго падтрымалі вайскоўцы, але прэзідэнт Гары Трумэн вагаўся. Ён думаў, што СССР блефуе і не пакіне двухмільённы горад без сродкаў да існавання.

Клей, аднак, не стаў рызыкаваць і ўжо 1 красавіка 1948 года арганізаваў пробную паветраную дастаўку грузаў для гарнізонаў Заходняга Берліна. У першы дзень транспартнікі прывезлі толькі 7,5 тоны, у наступны — 42,5 тоны, а 3 красавіка — ужо 84 тоны. У адказ на затрыманні канвояў амерыканцы заблакавалі адзін з савецкіх адміністрацыйных будынкаў. У газетах пачаліся размовы аб вайне.

### Апошняя кропля

Заходнія саюзнікі поўным ходам ішлі да стварэння асобнай дэмакратычнай Германіі, уключанай у капіталістычны ▸

**Генерал Люсіус Клей** (1898–1978), як і многія амерыканскія вайскоўцы, быў выпускніком знакамітай акадэміі ва Уэст-Пойнце. У 1930–1940-я гады займаўся маштабнымі інжынернымі праектамі. Ён кантраляваў будаўніцтва аэрапортаў, якія сталі падмуркам сістэмы грамадзянскай авіяцыі ЗША, і курыраваў узвядзенне дамбы Дэнісан у Тэхасе — на той момант найвышэйшай плаціны ў свеце.

Клей быў працаголікам. Ён нават забываўся паесці, калі займаўся чарговым праектам. Затое ўмеў навесці парадак там, дзе іншыя пасавалі. У сакавіку 1947-га Клея прызначылі кіраўніком амерыканскай адміністрацыі ў Германіі. Прэзідэнт Трумэн паставіў генералу задачу аднавіць эканоміку краіны. Клей узяўся за справу, але дабіцца хуткіх вынікаў яму перашкодзіла блакада Берліна. Замест эканомікі прыйшлося займацца арганізацыяй «паветранага ліфту». Клей вярнуўся на радзіму толькі тады, калі блакада была скончаная.

Пазней генерал яшчэ не раз супрацьстаяў СССР. Ён быў адным з аўтараў канцэпцыі «культурнай халоднай вайны» і распрацоўваў метады контрпрапаганды. Таксама генерал выконваў даручэнні прэзідэнтаў ЗША і дапамагаў наладзіць жыццё ў Заходнім Берліне ў 1961-м, калі СССР абнёс яго сцяной. Удзячныя жыхары горада і зараз шануюць памяць генерала, якога называюць «абаронцам свабоды».

свет. 18 чэрвеня 1948 года было абвешчана аб увядзенні на тэрыторыі «Трызоніі» новай валюты — нямецкай маркі. Савецкая зона акупацыі ў разлік не бралася, Захад даўно махнуў на яе рукой. Але на тое, каб эканамічна адбіць у саветаў Берлін, спадзеў яшчэ заставаўся. 24 чэрвеня пачаўся абмен старых рэйхсмарак на новыя грошы, і ў Берлін з захаду пайшлі караваны з новай валютай. Для саветаў гэта стала апошняй кропляй.

24 чэрвеня пачалася сапраўдная блакада. Былі забароненыя пастаўкі прадуктаў і тавараў у Заходні Берлін. Савецкая прапаганда заявіла, што хутка спыніцца і водазабеспячэнне. Спалоханыя жыхары кінуліся напаўняць вёдры і ледзь не пакінулі горад без вады.

Берлінцы баяліся, што іх здадуць. Але амерыканцы не здалі. Утрыманне і забеспячэнне Заходняга Берліна ва ўмовах блакады стала справай гонару для аб'яднанага амерыканскага, брытанскага і французскага камандавання. Зноў запрацаваў паветраны мост. Прадбачлівы Клей запусціў яго яшчэ 21 чэрвеня, а 24-га да праграмы далучыліся брытанцы.




**У самалёт загружаюць малако** для Заходняга Берліна.

### Не выходзячы з самалётаў

Па падліках брытанскіх экспертаў, для таго, каб мінімальна забяспечыць патрэбы двухмільённага Заходняга Берліна, трэба было дастаўляць 5000 тон грузаў за суткі. Прычым харчаванне складала толькі трэцюю частку ад гэтай лічбы, а дзве траціны займала паліва для электрастанцый і транспарту. У першыя дні амерыканцам удалося наладзіць перавозку 300 тон грузаў у дзень. Брытанцы перавозілі 400 тон. Да запаветнай лічбы 5 000 было яшчэ далёка.

Газеты і радыё савецкай зоны Берліна кпілі са спроб саюзнікаў забяспечыць горад па паветры.

Аднак насуперак прапагандзе пастаўкі раслі з кожным днём. У Еўропу пераводзіліся транспартныя самалёты з іншых раёнаў свету — нават з Гаваяў! 2 ліпеня колькасць прывезеных грузаў перавысіла 1 000 тон, але гэтага ўсяго яшчэ было недастаткова.

Камандаванне саюзнікаў пачало шукаць шляхі па ўдасканаленні працы паветранага забеспячэння горада. У Германію быў накіраваны спец па «паветраных мастах» — генерал-лейтэнант Уільям Танер. У часы вайны ён паспяхова забяспечваў па паветры ўсім неабходным армію гаміньданаўскага Кітая ў яе барацьбе супраць Японіі на кантыненце. У першы ж яго прылёт у Берлін адбылася катастрофа.

У пятніцу 13 жніўня, калі Танер яшчэ знаходзіўся ў небе, адзін з транспартнікаў разбіўся з-за дрэннай бачнасці. Самалёты тады ішлі суцэльным патокам. Другі самалёт заходзіў на пасадку і быў пашкоджаны. Трэці адвярнуў ад месца катастрофы і загруз на недабудаванай паласе. Астатнім прыйшоў загад заставацца ў паветры як мага далей. Танер зразумеў, што наземныя службы страцілі кантроль над сітуацыяй, і патрабаваў ад усіх павярнуць дадому. Ад усіх, акрамя свайго пілота.

Пасля прызямлення Танер навёў парадак. Ён распрацаваў жорсткія правілы пасадкі, якія дазволілі пазбегнуць новых катастроф. Увёў і іншыя меры,

### Тонкасці міжнароднага права

Адзіным шляхам дастаўкі грузаў у Заходні Берлін быў паветраны, і Савецкі Саюз за ўвесь час блакады амаль ніяк не перашкаджаў насычанаму руху самалётаў над савецкай зонай. Чаму так сталася? Уся справа ў пагадненнях. У першыя месяцы пасля перамогі, калі саюзнікі дзялілі скуру забітага берлінскага мядзведзя, ні амерыканцы, ні брытанцы, ні французы не парупіліся неяк юрыдычна аформіць права на забеспячэнне сваіх гарнізонаў у Берліне па зямлі. Паспадзяваліся на добрую волю Масквы, якая будзе заўжды прапускаць саюзнікаў праз сваю зону акупацыі. Хто ж думаў, што Савецкі Саюз так хутка з сябра ператворыцца ў ворага? Але адзін юрыдычны дакумент саюзнікі паспелі-такі займець, а менавіта пагадненне пра ўтварэнне паветраных калідораў паміж Берлінам і брытанскай ды амерыканскай зонамі акупацыі. Тры калідоры шырынёй па 32 кіламетры былі прапісаныя ў міжнародным пагадненні ад 30 лістапада 1945 года, і Савецкі Саюз не меў права іх закрываць, прынамсі пакуль супрацьстаянне не перайшло б з халоднай фазы ў гарачую. Тады б ужо было не да законаў.

напрыклад, забараніў экіпажам пакідаць самалёты, пакуль ідзе разгрузка. Гэта скараціла час простою. Пры гэтым генерал-лейтэнант добра разумеў патрэбы пілотаў. І аддаў яшчэ адзін загад — стварыць на джыпах мабільныя закусачныя. Афіцыянткамі там працавалі прыгожыя берлінкі, і лётчыкі былі толькі радыя такім зменам.

Аптымізацыя дала плён. Хутка аэрапорты Заходняга Берліна сталі працаваць як добра наладжаная канвеерная стужка: кожныя 3 хвіліны на паласу садзіўся самалёт, на разгрузку трацілася ад 10 да 30 хвілін (рэкорднай стала разгрузка 10-тоннага самалёта з вугалем за 4 хвіліны і 30 секундаў, якую выканала каманда з 12 чалавек), кароткі перакус для экіпажа — і зноўку ў неба.

Да канца жніўня «паветраны мост» пачаў дастаўляць у Заходні Берлін па 4500 тон грузаў у дзень, чаго ўжо было амаль цалкам дастаткова, каб забяспечыць патрэбы горада (для параўнання: у час Сталінградскай бітвы нямецкая авіяцыя ў найлепшыя дні дастаўляла акружанай 100-тысячнай арміі Фрыдрыха Паўлюса ўсяго па 150 тон прыпасаў у дзень). А 18 верасня ў ЗША з нагоды святкавання Дня ваенна-паветраных сіл даставілі ў Берлін рэкордную колькасць грузаў — 7 000 тон. Яшчэ больш за 1 200 тон прывезлі брытанцы. Гэта была перамога — цяпер Берлін мог выжыць дзякуючы авіяцыі. Савецкія СМІ зразу забыліся на свой скептыцызм і пачалі спяваць іншыя песні.

## Блакада блакадай, а карткі карткамі

Савецкі Саюз, прэстыж якога ў выніку блакады моцна пацярпеў, задумаўся пра сваю


WIKIMEDIA COMMONS

**Помнік 70 брытанскім і амерыканскім лётчыкам**, якія аддалі жыццё дзеля забеспячэння жыцця берлінцаў.

рэпутацыю. У жніўні 1948 года жыхарам Заходняга Берліна прапанавалі прыйсці ў савецкую зону акупацыі, зарэгістравацца ў спецыяльных пунктах і атрымаць прадуктовыя карткі, якія можна атаварыць у любой краме Усходняга Берліна.

Хоць грузавы рух паміж Заходнім і Усходнім Берлінам быў спынены, любы жыхар горада мог вольна перамяшчацца па ўсім Берліне пехам ці на грамадскім транспарце. Каля 111 тысяч жыхароў заходняга сектара працавалі ці вучыліся ва ўсходнім, і яшчэ 106 тысяч кожны дзень ездзілі ў адваротным кірунку. Цікавы факт: будынак цывільнай адміністрацыі горада знаходзіўся на савецкай тэрыторыі, мэр і дэпутаты, абраныя ў асноўным з заходніх зон, кожны дзень хадзілі туды на працу з Заходняга Берліна.

Знайшлося нямала заходнеберлінцаў, якія вырашылі скарыстацца з гэтай савецкай прапановы. За першыя чатыры дні жніўня 22 тысячы чалавек атрымалі карткі на ўсходзе. Амерыканцы праявілі тут цвёрдасць і пачалі чыстку ў шэрагах паліцыі сваёй зоны. Усе, хто атрымліваў савецкую дапамогу, былі звольненыя без права далей займаць пасады ў дзяржслужбах. Тым не менш на пачатку 1949 года каля 100 тысяч жыхароў Заходняга Берліна атрымлівалі дапамогу на ўсходзе.

## Вайна нерваў

Знішчальнікі з чырвонымі зоркамі на крылах толькі ў сакавіку 1949-га амаль сто разоў праходзілі побач (бліжэй за 150 метраў) з самалётамі заходніх калег. Усяго гэткіх эпізодаў падчас блакады было больш за 700. Але ў гарачую вайну «вайна нерваў» не перарасла.

Гісторыкі і сёння спрачаюцца: чаму Сталін не рашыўся атакаваць? Асноўнае меркаванне — вінаватая рашучасць Захаду. Калі б Вялікабрытанія і ЗША пачалі вагацца, СССР нарасціў бы ціск.

Яшчэ адным аргументам стала ядзерная зброя. У канцы 1948 года ў ЗША было 50 атамных бомбаў. Праз год іх колькасць вырасла да 170, а СССР правёў першыя выпрабаванні толькі ў жніўні 1949-га. Былі ў Вашынгтона, у адрозненне ад Масквы, і добрыя самалёты, якія маглі даставіць бомбы на савецкую тэрыторыю. Вядома, сухапутная савецкая армія заставалася вялікай сілай, але Сталін быў далёка не ўпэўнены ў сваіх магчымасцях, тым больш што ў заходніх рэспубліках СССР працягвалася антысавецкая партызанская вайна.

## Дажылі да вясны

Савецкі бок спадзяваўся, што з надыходам зімы «паветраны мост» забуксуе. І сапраўды, кароткія дні і дрэннае надвор'е ►

знізілі інтэнсіўнасць палётаў. У сярэдзіне снежня камандуючы брытанскімі сіламі ў Германіі генерал Браян Робертсан казаў, што ў халодныя месяцы нерэальна прывезці ўсё неабходнае. Але берлінцы зацягнулі паясы і дажылі да вясны.

У сакавіку толькі амерыканцы дастаўлялі ўжо 6 300 тон грузаў на дзень, у красавіку — 7 850, а ў маі — 8 000. Такі ж самы быў аб'ём перавозак па чыгунцы ў часы да блакады. У сярэдзіне вясны ЗША правялі яшчэ адну акцыю — «Парад на Вялікдзень». За суткі была прывезеная рэкордная колькасць грузаў — амаль 13 тысяч тон. Тым не менш эканоміка Заходняга Берліна вясной 1949-га адчувала сябе не вельмі добра. З 890 тысяч дарослых без даходаў засталіся 156 тысяч, яшчэ некалькі соцень тысяч працавалі няпоўны дзень. 6 тысяч фірмаў зачыніліся, 12 тысяч апынуліся на мяжы банкруцтва.

У студзені 1949 года Сталін зразумеў, што скарыць берлінцаў не ўдасца. Яго палітыка толькі мабілізоўвала немцаў і зблізіла іх з амерыканцамі. У выніку СССР пагадзіўся на перамовы і 11 мая блакада спынілася. Увечары электрычнасць са станцый ва ўсходняй зоне ўпершыню амаль за год пайшла ў заходнюю. Аднавіўся шлях цягнікоў і аўтатранспарту. Дзесяць з паловай месяцаў выпрабаванняў скончыліся, наперадзе былі 40 доўгіх гадоў.

### Berliner Mauer

Падзел Германіі быў фактычна ўхвалены ўсімі бакамі. 23 мая 1949 года ў заходніх зонах з'явілася Федэратыўная Рэспубліка Германія, а 7 кастрычніка ў савецкай — Германская Дэмакратычная Рэспубліка. Усходні Берлін стаў сталіцай ГДР, а дзяржаўныя органы ФРГ размясціліся ў іншым месцы — невялікім горадзе Бон на захадзе краіны.

Заходні Берлін займеў спецыяльны статус, але СССР не спыніў спробаў яго падпарадкаваць. На мяжы 1950–1960-х гадоў пачалася чарговая канфрантацыя. З савецкай зоны ў ФРГ людзі беглі сотнямі тысяч. Скончылася тым, што ў 1961-м тэрыторыю Заходняга Берліна акружылі сцяной. Але і праз «маўэр» з сацыялістычнага раю спрабавалі ўцячы тысячы людзей. Выжылі не ўсе, многіх застрэлілі памежнікі. Жыццё трохі палепшала толькі тады, калі ў 1971 годзе было заключанае чатырохбаковае пагадненне па Заходнім Берліне. Горад больш не абмяжоўвалі ў пастаўках тавараў, а ГДР нават пагадзілася пастаўляць яму сваю электраэнергію. Тым не менш зусім нармальным жыццё берлінцаў стала толькі пасля аб'яднання Германіі ў 1990 годзе.


**За магчымасць свабодна перамяшчацца праз Брандэнбургскую браму** берлінцы доўга змагаліся.




#сучасная_беларуская

**Сяргей Балахонаў.
Бог кахання Марс**

Недалёкая будучыня. Знайшоўшы на археалагічных раскопках у легендарных Юравічах ідал боства кахання, гомельскі даследчык старажытнасцей Ягор Руткоўскі неўзабаве зведвае і цяжка перажывае невытлумачальны разрыў з каханай. Неўтаймоўная вера ў наканаванасць быць разам з ёю штурхае навукоўца на розныя дзівацтвы — ад літаратурных і музычна-спеўных практыкаванняў да палёту на Марс. Кожнае дзівацтва даецца ў знакі здарэннямі, скандаламі і таямнічымі праявамі ледзь не да скруту галавы. За хісткае марсіянскае шчасце даводзіцца штодзень змагацца, адольваючы шматлікія выпрабаванні без пэўнасці вяртання на Зямлю, дзе лютуе эпідэмія сіндрому татальнай адзіноты.




#актуальная_замежная

**Салі Руні.
Нармальныя людзі**

Гэтая кніга стала сусветнай сенсацыяй і за два гады заваявала цэлую армію прыхільнікаў. Ірландка Салі Руні — узыходзячая зорка новай літаратуры.

Галоўныя героі кнігі, Конэл Уолдран і Мэрыян Шэрыдан жывуць у невялікім ірландскім гарадку, вучацца ў адным класе, але належаць да абсалютна розных сусветаў: яна — самотніца з багатай сям'і, ён — папулярны ў школе хлопец, чыя маці прыбірае ў доме Шэрыданаў. Спакойнае жыццё герояў пераварочваецца, калі паміж імі ўзнікае незразумелае для абаіх пачуццё. Пераехаўшы пасля заканчэння школы ў Дублін, Конэл і Мэрыян спрабуюць знайсці сябе і ўрэшце разабрацца, што іх яднае.

На беларускую раман пераклала Ганна Янкута.




#кнігі_для_дзяцей

**Мая Лундэ.
Снежная сястра**

Прыгожая і кранальная калядная гісторыя, якая ўмомант стала сусветным бестселерам. Нарвежская пісьменніца Мая Лундэ разам з мастачкай Лісай Айсата стварылі чароўны свет, у якім знайшлося месца і цёплым пачуццям, і горкім сямейным перажываванням, і чаканню каляднага цуду, што заўсёды спраўджваецца. Любоў і сяброўства перамогуць боль ад страты — так вучыць нас гэтая гісторыя.

Выдатны падарунак для ўсіх, хто цэніць сучасныя арыгінальныя сюжэты ў дзіцячай літаратуры, пазбягае стэрэатыпаў і гатовы прымаць жыццё з усімі радасцямі і бедамі.

На беларускую мову кнігу пераклала Юля Цімафеева.

**ЯНУШКЕВІЧ**
выдавецтва

ІП ЯНУШКЕВІЧ А. М., УНП 192208693




# Берлін

Графіці Блю на Cuvrystraße, 50 у берлінскім раёне Кройцберг.

**Горад, у якім пераконваешся, што ніякія муры не вечныя, піша Ягор Хаванскі.**

Папярэдні мэр Берліна сказаў пра гэты горад: «Бедны, але сэксуальны» (*«Arm, aber sexy»*).

Чаму бедны?

Пасля Брэксіту Берлін набыў статус найбольшага горада Еўрасаюза, але ён застаецца бяднейшым за Мюнхен, Франкфурт ці Дзюсельдорф: перажытак адсталасці ГДР ад ФРГ.

А чаму сэксуальны?

Берлін – адзін з самых мультыкультурных гарадоў у свеце, з найбольш свабоднымі норавамі.

Хоць Берлін не мае музеяў маштабу Луўра, ён усё адно трэці па папулярнасці сярод турыстаў, пасля Лондана і Парыжа, горад у Еўропе. Берлін вельмі розны: тут і спадчына Прускага каралеўства ды Германскай імперыі, і сляды камуністычнага эксперыменту, і ашаламляльная сучасная архітэктура, і агромністыя зоны творчасці моладзі, неверагодны стрыт-арт.

### Чаму Берлін такі папулярны ў турыстаў?

Гісторыя стварыла тут мікс архітэктуры і культуры: палацы ў стылі ампір спалучаюцца з панэльнымі шматпавярховікамі. Амаль кожны раён некалі быў асобным горадам, і дагэтуль захаваліся іх гістарычныя цэнтры ды свае непаўторныя рысы.

Тут можна паслухаць найлепшы філарманічны аркестр і наведаць адзін з найвядомейшых оперных тэатраў, а пасля трапіць на 72-гадзінную тусоўку ў будынку былой таварнай станцыі. Сотні забаў на любы густ і, што важна, на любы кашалёк: Берлін — недарагое места, дзе шмат чаго можна пабачыць, не заплаціўшы ні еўра.

Сёлетнія Каляды Германія сустрэла пад жорсткім лакдаўнам і без святочных кірмашоў: не працуе нічога, акрамя

### Блізкі свет

Прывабным турыстычным кірункам для беларусаў Берлін робіць геаграфічная блізкасць і падобны клімат. Лета ў Берліне — як у Мінску, а зіма і вясна на градусы 4–5 цяплейшыя.

Да пандэміі ў прамых, але нятанных пералётаў з Мінска была вялікая канкурэнцыя з лаўкостамі, якія лёталі амаль з усіх суседніх сталіц (з Вільні ці Кіева можна было даляцець за 10 еўра). А для тых, хто не любіць самалёты, існуюць варыянты з аўтобусамі і цягнікамі.

прадуктовых і некаторых гаспадарчых крамаў ды аптэк, у гатэлях занятыя адзінкавыя нумары.

## Эфектыўны клубок

У схему грамадскага транспарту Берліна сплеценыя 16 ліній гарадской электрычкі (*S-Bahn*), 9 ліній падземкі (*U-Bahn*), трамвай, аўтобус, а таксама рэгіянальная чыгунка, паромы, тралейбусы і нават канатная дарога.

Увесь гэты рознакаляровы клубок пабудаваны так, каб з любога пункта горада можна было дабрацца ў цэнтр за гадзіну, а 80% жыхароў Берліна ў радыусе 400 метраў (500 метраў уначы) быў даступны грамадскі транспарт.

Горад падзелены на тры тарыфныя зоны: A (абмежавана кальцавой лініяй *S-Bahn*), B (астатняя частка) і C (прыгарад і аэрапорт), разабрацца ў якіх не складана.

Доступ на станцыі і ў цягнікі электрычкі ды метро абсалютна вольны. На станцыях стаяць аўтаматы па продажы квіткоў (можна набыць і анлайн) і валідатары. Ёсць розныя варыянты праязных: на кароткую паездку, на 2 гадзіны, на цэлы дзень, на некалькі паездак і для кампаніі, а таксама доўгатэрміновыя праязныя. Іх цана залежыць ад набору патрэбных зон.

Шмат берлінцаў прынцыпова не купляюць квіткі. Існуе міф, што траціну арыштантаў у мясцовых турмах складаюць безбілетнікі. Невядома, ці праўда гэта, але лепш за праезд плаціць, бо штраф складае 60 еўра, а кантралёраў немагчыма адразу вылучыць сярод пасажыраў.







**Два фільмы былі знятыя па культавым рамане Альфрэда Дзёбліна «Берлін. Аляксандэрплац».** Адзін — Райнерам Вернерам Фасбіндэрам у 1980 годзе. Другі — Бурханам Курбані ў 2020-м. Абодва вартыя. І абодва даюць магчымасць злавіць «дух Берліна».

## Асноўныя даты з гісторыі Берліна

**1237 год** — год, калі на Русі лютавалі орды Батыя, сустракаецца першая дакументальная згадка Берліна.

**1415 год** — Берлін становіцца рэзідэнцыяй брандэнбургскіх маркграфаў і курфюрстаў.

**1701 год** — курфюрст Брандэнбурга Фрыдрых III аб'яўляе сябе каралём Прусіі і пераносіць сталіцу ў Берлін.

**1871 год** — утвараецца Германская імперыя. Інфраструктура імперскай сталіцы не вытрымлівае росту насельніцтва, таму канец стагоддзя адзначаецца будаўніцтвам шматкватэрных дамоў, пракладкай каналізацыі, а таксама з'яўленнем метрапалітэна.

**1920 год** — законам утвараецца «Вялікі Берлін», межы якога дагэтуль не мяняліся: часткамі нямецкай сталіцы становяцца 7 суседніх гарадоў, 59 сельскіх грамад і 27 маёнткаў. Адным рашэннем тэрыторыя горада павялічваецца ў 13 разоў (да 878 км$^2$), а насельніцтва — у 2 разы (амаль да чатырох мільёнаў чалавек).

**1990 год** — аб'яднанне Германіі. Берлін становіцца сталіцай Федэратыўнай Рэспублікі Германія.




Аляксандэрплац.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY STOCKARCH

## На што паглядзець?

У Берліне сотні славутасцяў. Ёсць мноства падрабязных гайдаў, дзе можна знайсці забавы на любы густ: музеі, палацы, клубы ▶



**Сонца адлюстроўваецца ў металічным шары тэлевежы ў выглядзе крыжа.** Такі эфект празвалі «помстай папы» за дыскрымінацыю царквы ў ГДР. Жартуюць, што функцыянеры лічылі, нібыта гэта не крыж, а плюсік сацыялізму.

▶ і кафэ. Якія месцы карыстаюцца найбольшай папулярнасцю?

**Аляксандэрплац** (ням. *Alexanderplatz*) — цэнтральная плошча Усходняга Берліна з 368-метровай тэлевежай, пабудаванай у 1969 годзе. Яна была палітычнай іконай ГДР, а пасля стала сімвалам аб'яднанага Берліна.

На самой плошчы ёсць некалькі гандлёвых цэнтраў, вялізны гатэль з аглядной пляцоўкай, вакзал, а таксама «Гадзіннік свету», які паказвае час у 146 месцах Зямлі.

**Берлінскі сабор** (ням. *Berliner Dom*) — найвялікшая пратэстанцкая царква Германіі і адна з візітовак горада. У свой час сабор з'яўляўся пахавальняй каралеўскай дынастыі Гагенцолернаў і прыдворнай царквой кайзераў.

**Музейны востраў** (ням. *Museumsinsel*) — частка вострава Шпрэінзель на рацэ Шпрэе, на якой размешчана пяць вядомых на ўвесь свет музеяў.


WIKIMEDIA COMMONS

У **Старым музеі** побач з саборам размешчана калекцыя прадметаў мастацтва антычнасці. У **Новым музеі** можна паглядзець на Егіпецкую калекцыю і прадметы дагістарычнага перыяду са знаёмым з падручнікаў бюстам Неферціці.

**Музей Бодэ** славіцца калекцыяй візантыйскага мастацтва, а таксама сярэднявечнымі статуямі і манетамі.

У **Старой нацыянальнай галерэі** выстаўляюцца творы мастацтва XIX стагоддзя з Фонду прускай культурнай спадчыны.

А ў трох карпусах **Пергамскага музея** месціцца ўнікальная


ФОТА ЯГОРА ХАВАНСКАГА

**Вароты Іштар**
у Пергамскім музеі.

калекцыя антычнага і ісламскага мастацтва, а таксама музей азіяцкай культуры. Тут можна паглядзець на Пергамскі алтар, Вавілонскія вароты Іштар, вароты Мілецкага рынку і на іншыя ўнікальныя экспанаты.

Бульвар **Унтэр-дэн-Ліндэн** (ням. *Unter den Linden*) — адна з найбольш знакамітых вуліц у



свеце. Яе назва перакладаецца як «Пад ліпамі», бо вялікі курфюрст Фрыдрых Вільгельм некалі загадаў высадзіць уздоўж дарогі, па якой ён ездзіў на паляванне, ліпавыя дрэвы. Міла, калі галоўная вуліца твайго горада называецца не Леніна ці Савецкая, а «Пад ліпамі», праўда?


ФОТА ЯГОРА ХАВАНСКАГА

**Старая нацыянальная галерэя.**



**Бульвар Унтэр-дэн-Ліндэн** (ням. *Unter den Linden*) — адна з найбольш знакамітых вуліц у свеце.

WIKIMEDIA COMMONS

На Унтэр-дэн-Ліндэн знаходзяцца Берлінская дзяржаўная опера, гістарычны музей, Бебельплац — месца памяці, на ім нацысты палілі кнігі, — музей мадам Цюсо, а таксама некалькі старажытных палацаў. Бульвар канчаецца Парыжскай плошчай, на якой знаходзяцца Брандэнбургскія вароты.

**Брандэнбургскія вароты** — галоўны сімвал сталіцы Германіі, пабудаваны з каменю-пясчаніку ў XVIII стагоддзі. На вяршыні класічнага збудавання знаходзіцца шасціметровая квадрыга, якую ў 1806 годзе Напалеон забраў у Парыж. Пасля бітвы пад Ватэрлоа багіня Вікторыя вярнулася дадому, а ў яе руках з'явіўся жалезны крыж.



BUNDESARCHIV

**Брандэнбургскія вароты і Берлінская сцяна.** Чэрвень 1988 года.

Берлінская сцяна праходзіла проста за варотамі (яны знаходзіліся ва Усходнім Берліне), у тым месцы яна была ніжэйшай і таўсцейшай, каб танкі не маглі прарвацца.

**Рэйхстаг** (ням. *Reichstag*) — будынак, дзе засядае нямецкі парламент, які цяпер завецца Бундэстагам. Туды можа патрапіць любы чалавек абсалютна бясплатна, трэба толькі зарэгістравацца на сайце.

Пасля развалу сцяны архітэктар Норман Фостэр рэканструяваў будынак XIX стагоддзя, зрабіўшы ў ім унікальны шкляны купал з люстранымі панэлямі, якія рэгулююць асвятленне залы пасяджэнняў. Абавязкова наведайце: асалода архітэктуры.

**Бульвар Курфюрстэндам** — яго правобразам былі парыжскія Елісейскія палі. Улюбёнае месца для шпацыраў мясцовых жыхароў і шопінгу ў брэндавых крамах. На бульвары знаходзіцца мемарыяльная царква кайзера Вільгельма, якую пасля бамбёжкі ў 1943 годзе вырашылі не аднаўляць. Недалёка месціцца шыкоўны заапарк.

ФОТА ЯГОРА ХАВАНСКАГА

**Царкву берлінцы называюць «Дзіравы зуб».** Яе не аднаўлялі пасля бамбёжкі 1943 года.



WIKIMEDIA COMMONS

Сцены старыя, а ўнутры — усё абсалютна сучасна. **Будынак Рэйхстага, у якім цяпер працуе Бундэстаг.**

**Архітэктура Патсдамерплац** — буйства колераў, шмат святла.

DEPOSITPHOTOS.COM. BY SEPAVONE

▶ **Патсдамская плошча** (ням. *Potsdamer Platz*) — пасля Другой сусветнай менавіта тут праходзіла мяжа трох акупацыйных сектараў. Узвядзенне сцяны пакінула ад некалі важнага транспартнага вузла пустэчу.

Пасля аб'яднання Германіі сусветныя карпарацыі забудавалі квартал звышсучаснымі хмарачосамі і гандлёвымі цэнтрамі, а пра трагічную мінуўшчыну нагадваюць толькі рэшткі сцяны. На адным з кавалкаў яе цяпер з'явіліся графіці салідарнасці з беларусамі.

***East Side Gallery*** — найвялікшы з захаваных фрагментаў Берлінскай сцяны ў раёне Фрыдрыхсхайн-Кройцберг, ператвораны ў самую вядомую галерэю пад адкрытым небам. Увесну 1990 года на кавалку даўжынёй у 1316 метраў з'явіліся 106 стрыт-артаў, на якіх былі адлюстраваныя важныя палітычныя падзеі Германіі.



ФОТА ЯГОРА ХАВАНСКАГА

## Гербавая жывёла

у Берліна з'явілася дзякуючы брандэнбургскаму маркграфу Альбрэхту I па мянушцы Мядзведзь, які жыў у XII стагоддзі. Вось ужо амаль 750 гадоў мішка ў розных варыяцыях застаецца на гербе Берліна.

Бывае, што нават паходжанне назвы горада звязваюць з нямецкім словам *Bär* — мядзведзь. Нібыта першы склад — *Ber* — пайшоў ад гэтага слова.

«Залаты мядзведзь» з'яўляецца ўзнагародай Берлінскага кінафестывалю, а па ўсіх раёнах раскіданыя размаляваныя статуі берлінскага мішкі. Такія ж з 2004 года вандруюць па ўсім свеце ў рамках міжнароднай выставы *United Buddy Bears*.




**Бергхайн** (ням. *Berghain*) — адзін з найбольш знакамітых начных клубаў у свеце, які месціцца ў будынку былой электрастанцыі. Славіцца мноствам міфаў, жорсткімі патрабаваннямі да дрэс-коду і вечарынкамі, што доўжацца па некалькі сутак. Праз каранавірус часова пераўтварыўся ў арт-прастору.

Круты помнік мастацтва канца XX стагоддзя.

## Сцяна паміж усходам і захадам

Пасля перамогі над нацызмам Берлін, як і ўся тэрыторыя Германіі, быў падзелены саюзнікамі на чатыры часткі. СССР забраў сабе ўсход, а ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі дасталіся заходнія раёны.

У 1949 годзе на тэрыторыі падзеленай краіны з'явіліся дзве германскія рэспублікі, зрабіўшы Заходні Берлін горадам-дзяржавай, цалкам акружаным сацыялістычнай ГДР. Нягледзячы на адасобленасць ад астатняй краіны, горад меў высокі ўзровень жыцця і шмат дэмакратычных свабод.

З 1949 па 1961 год праз Заходні Берлін на захад збеглі 2,5 мільёна жыхароў ГДР (кожны шосты!). Таму ноччу 13 жніўня 1961 года, на чарговым вітку эскалацыі халоднай вайны, пачалося ўзвядзенне Берлінскай сцяны. Бетонная агароджа з калючым дротам, землянымі равамі, супрацьтанкавай абаронай і 302 вартавымі вышкамі кальцом ахапіла Заходні Берлін на 28 гадоў.

Сотні дамоў, што прылягалі да сцяны, былі расселеныя і зруйнаваныя, у іншых будынках заклалі вокны, якія выходзілі на заходнюю частку. Аказаліся абарванымі тэлефонныя лініі і лініі грамадскага транспарту, паламаныя лёсы тысяч сем'яў.

## Мемарыял «Берлінскі мур»

У 1961 годзе царква Прымірэння ў раёне Мітэ апынулася проста на раздзяляльнай паласе. Да 1985-га яна стаяла зачыненая, а са званіцы аўтаматчыкі пільнавалі перабежчыкаў. Потым будынак узарвалі. Сёння на месцы царквы знаходзіцца капліца Прымірэння, а побач — мемарыяльны комплекс «Берлінскі мур».

Цэнтральнай часткай мемарыяла з'яўляецца 70-метровы некрануты ўчастак сцяны з «мёртвай зонай». Таксама на ўсходняй частцы вуліцы знаходзяцца выстава пад адкрытым небам з помнікам падзелу, вышэйзгаданая капліца, а таксама «Акно памяці» з фатаграфіямі забітых пры спробе ўцячы. Па іншы бок размешчаны цэнтр для наведвальнікаў і інфацэнтр з назіральнай вышкай.




**У часы халоднай вайны з радарнай станцыі Тойфельберг амерыканцы праслухоўвалі ГДР.** Цяпер будынкі аддалі пад культурны хаб. Тут можна пабачыць незлічоныя графіці.

Людзі капалі тунэлі, пералятталі сцяну на дэльтапланах і паветраных шарах, таранілі яе бульдозерам, каб вырвацца ў вольны свет. Усяго за 28 гадоў збегчы ўдалося 5 тысячам чалавек.




**Эмблема Штазі**

Пры гэтым 140 чалавек загінула пры спробах уцёкаў, сярод іх 8 пагранічнікаў ГДР. Больш за 200 чалавек былі параненыя падчас спробы ўцёкаў, звыш 3 тысяч — арыштаваныя. У турмах яны траплялі ў рукі Штазі (міністэрства дзяржбяспекі), якія катавалі вязняў фізічна і псіхалагічна. Гэта значыць, калі ты хацеў уцячы, шанцы ў цябе былі фіфці-фіфці. Кожны другі пападаў у рукі органаў. ▶

▶ Яшчэ адзін музей Берлінскай сцяны знаходзіцца побач з вядомым чэкпойнтам «Чарлі» (англ. *Checkpoint Charlie*) на былой мяжы савецкага і амерыканскага сектараў. Там сабраныя рэчы, якія выкарыстоўваліся для ўцёкаў.

Цікава, што ГДР актыўна таргавалася з ФРГ адносна палітвязняў і іншых сваіх грамадзян, за дазвол на выезд якіх дабівалася розных саступак. Заходнія немцы нейкі час не скупіліся, плацілі, фактычна выкуплялі палітвязняў. Гэта дазволіла з'ехаць з адной Германіі ў іншую яшчэ некалькім тысячам немцаў.

*«Ich bin ein Berliner»* («Я берлінец») — прамаўляў у 1963 годзе Джон Кенэдзі, а ў 1987-м іншы амерыканскі прэзідэнт, Рональд Рэйган, заклікаў Міхаіла Гарбачова разбурыць гэту сцяну.

Але доўгачаканае падзенне адбылося даволі празаічна.

Грамадзянам ГДР было забаронена ездзіць у капіталістычныя краіны, але яны маглі вандраваць у краіны сацлагера. Пад уплывам савецкай перабудовы кіраўніцтва Венгрыі ў маі 1989 года адкрыла мяжу з Аўстрыяй. Туды рынуліся тысячы ўсходніх немцаў, каб пасля прарвацца ў ФРГ. Восенню працэс стаў некантраляваным: на захад уцякалі адусюль. Сцяна страціла практычны сэнс.

А пасля ў ГДР пачаліся масавыя мірныя акцыі пратэсту, вынікам чаго стала адхіленне ад улады Эрыха Хонэкера, які кіраваў Усходняй Германіяй 18 гадоў. Новае кіраўніцтва спрабавала лібералізаваць перамяшчэнні грамадзян. Планавалася захаваць бюракратычную цяганіну, каб узяць працэс пад кантроль, і 9 лістапада па тэлебачанні было аб'яўлена, што ва ўсходніх немцаў цяпер ёсць магчымасць неадкладна выязджаць за мяжу. Мільёны чалавек пачалі сцякацца да межаў ГДР і сцяны ў Берліне. Пагранічнікі не сталі чыніць перашкод. Муры рухнулі.




**КПП «Чарлі» захавалі такім, якім ён быў падчас падзелу Берліна на Заходні і Усходні**: з мяхамі з пяском. Але вакол пануе атмасфера турыстычнага трэшу.




1987 год. **Рональд Рэйган выступае ў Заходнім Берліне.**




**Дэмантаж сцяны ля Брандэнбургскіх варот** 21 снежня 1989 года.


DEPOSITPHOTOS.COM BY CELIAFOTO

**Следчы ізалятар Штазі** стаў часткай музея дыктатуры.

З кастрычніка 1990 года ГДР і ФРГ афіцыйна аб'ядналіся, а ад Берлінскай сцяны захаваліся толькі невялікія фрагменты на памяць нашчадкам.

## Горад-касмапаліт

У сярэдзіне 1950-х эканомікі ФРГ, якая імкліва аднаўлялася пасля вайны, бракавала працоўных рук. Таму ў краіну пачалі запрашаць рабочых з Турцыі, Грэцыі, Марока і іншых краін для працы на мясцовых прадпрыемствах.

З-за крызісу ў 1973-м гэты працэс спыніўся, але на той момант у ФРГ ужо пераехала больш за 2,5 мільёна гастарбайтараў. Большасць з іх засталася ў Германіі.

У былой штаб-кватэры дзяржбяспекі сёння знаходзіцца музей Штазі. У 1990 годзе, калі людзям стала вядома, што ў будынку пачалі знішчаць архівы, яны ўзялі яго штурмам. Ахоўнікі не стралялі: баяліся забіць «сваіх» у натоўпе, дый настрой падчас мірнай рэвалюцыі не той, каб страляць.

Мігранты з поўдня актыўна ехалі і ў Заходні Берлін. Тут яны сяліліся ў непрэстыжных раёнах каля Сцяны, дзе жытло каштавала найменш: Кройцберг, Нойкёльн, Вэдзінг і іншых.

Паралельна ў ГДР запрашаліся рабочыя з сацыялістычных краін Азіі і Афрыкі: В'етнама, Мазамбіка, Анголы. Але яны пасля сканчэння часовых кантрактаў збольшага адпраўляліся дадому. ▶

**Стрыт-арт** — жывое мастацтва, новыя мастакі яго відазмяняюць, старыя пасля рэстаўруюць. У Берліне ніхто не асуджае за графіці, малюнкі не трэба ні з кім узгадняць.



WIKIMEDIA COMMONS


WIKIMEDIA COMMONS



ALSURDEUNHORIZONTE.COM

**«Божа, дапамажы мне выжыць сярод гэтай смяротнай любові».**
Фота пацалунка Леаніда Брэжнева і Эрыха Хонэкера ў 1979 годзе было сімвалам «непарушнай дружбы братніх народаў, аплоту міру».
У 1990-м расійскі мастак Дзмітрый Урубель зрабіў на абломку Берлінскага мура графіці, прызнанае шэдэўрам вулічнага мастацтва. Фатаграфія, перамаляваная на сцяну, дэсакралізуе ўладароў. Урачыстае робіцца смешным. Удумайцеся: годам раней за такі малюнак у тым жа Берліне мастаку маглі ўпаяць пяцёрачку за «экстрэмізм».
«А мы ж сярод гэтага жылі, а мы ж гэтых людзей баяліся, а мы ж ім апладзіравалі», — такія думкі нараджала графіці ў берлінцаў.




WEDDINGWEISER.DE

**Графіці ў раёне Вэдзінг, дзе выраслі браты Баатэнгі**: старэйшы Джордж стаў рэперам, а Кевін-Прынс і Жэром — сусветна вядомымі футбалістамі.



PINTEREST.COM

**Мурал польскай мастачкі Наталлі Рак** каля Гёрліцэрпарку.

Другая хваля іміграцыі ў Германію прыпала на канец 1980-х — пачатак 1990-х: разваліўся сацыялістычны блок, пачаліся войны на Балканах і Блізкім Усходзе, людзі спрабавалі шукаць лепшай долі на чужыне. Сёння ФРГ актыўна прымае бежанцаў з Сірыі, Ірака і Афрыкі.

Мігранты ці іх нашчадкі складаюць 24% насельніцтва Германіі, у асноўным яны канцэнтруюцца ў вялікіх гарадах.

## Аэрапорт-мем

Адкрыты восенню 2020 года Берлін-Брандэнбург — рэдкі прыклад нямецкай тэхналагічнай ганьбы. Памылкі ў праектаванні, бюракратыя і карупцыя расцягнулі будаўніцтва на 14 гадоў.

Першапачаткова адкрыццё аэрапорта было запланавана на май 2012 года. *Duty-free* расстаўлялі тавары па паліцах, а ў рэстараны завозілі абсталяванне (пасля ў прэсе такую рэакцыю назавуць феноменам адмаўлення рэчаіснасці): тым часам будкантроль, які праходзіў у той жа час, выявіў больш за 120 тысяч дэфектаў. Адзінае, што спраўна працавала, — падземны чыгуначны вакзал, дзе пусты цягнік штодня ганяў паветра.

Нарэшце, ў мінулым годзе Берлін-Брандэнбург быў адкрыты, паклаўшы канец жартам кшталту «Тэрарыст, які павінен быў узарваць берлінскі аэрапорт, памёр ад старасці». Цяпер гэта адзіны аэравакзал нямецкай сталіцы.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY EFESENKO

Але, насуперак стэрэатыпам, большасць з іх — белыя мігранты. 3,3% насельніцтва — немцы-рэпатрыянты з Расіі, Румыніі, Казахстана. 2,5%, або 2,1 млн, — палякі. Выхадцаў з Турцыі, Сірыі, Усходу і Афрыкі — усяго 6% ад насельніцтва, або чацвёртая частка ад агульнай колькасці мігрантаў.

Улады спрабуюць вырашаць праблемы, звязаныя з перасяленцамі і сацыялізаваць іх, адбываецца джэнтрыфікацыя мігранцкіх раёнаў. Яны становяцца больш прэстыжнымі, а нацыянальны склад жыхароў мяняецца.

## Горад разнастайнасці

Ёсць гарады, дзе ўсё аднолькавае. А тут можна адшукаць веганскі кірмаш і блышыны рынак, наведаць футбольную гульню шостай лігі паміж камандай эмігрантаў і клубам, які быў заснаваны 130 гадоў таму, ці ў глыбіні квартала сярод панэлек знайсці старажытную царкву.

Некаторых беларусаў Берлін спачатку шакуе, бо ён далёкі ад стэрэатыпаў пра нямецкі парадак: графіці на кожным доме, кінутыя ля слупоў ровары, бяздомныя спяць пад мастамі. Берлін такі: у ім многае дазволена. ◆



WIKIMEDIA COMMONS

## Святлафорны чалавечак

Адным з сімвалаў ГДР быў Ампельман, святлафорны чалавечак у капелюшы. Пасля аб'яднання Германіі ён застаўся ва ўсходніх гарадах, а таксама займеў культавы статус. Існуюць сувенірныя крамы, прысвечаныя Ампельману.

**Ведаеце, чаму Бундэсканцылярыя абсаджаная дзікім вінаградам?** Таму што гэтая расліна і ўпрыгожвае, і зберагае энергію. Летам яе густая лістота абараняе будынак ад сонца і спёкі. Восенню лісце пякуча-прыгожае, з рубінава-малінавымі пераліvamі. А зімою абсыпаецца і не перашкаджае сонцу награваць будынак. Берлін — горад раскошнай, канцэптуальнай сучаснай архітэктуры, пры сутыкненні з якой перажываеш не толькі эстэтычнае, але і інтэлектуальнае ўзрушэнне. На фота: унутраны дворык Бундэсканцылярыі і пешаходная зона каля яе.




ФОТА ЯГОРА ХАВАНСКАГА

**Фанаты «Уніёна» ў дзеянні.** У Германіі гэта норма.

# Футбольная культура

У Бундэслізе гуляюць дзве сталічныя каманды: «Герта» і «Уніён». Яны не могуць пахваліцца тытуламі, але славяцца шыкоўнай фанацкай падтрымкай.

«Уніён» з прамысловага раёна Кёпенік (адсюль нефармальная назва каманды «жалезныя») у часы ГДР аб'яднаў на трыбунах рабацяг, нефармалаў і дысідэнтаў. У 1990-я фанаты «чырвона-белых» ладзілі маршы праз Брандэнбургскія вароты, звяртаючы ўвагу грамадскасці на фінансавыя праблемы клуба. У нулявыя яны зараблялі грошы клубу, здаючы кроў, а таксама бясплатна працавалі падчас рэканструкцыі стадыёна.

Трапіць на хатні матч «Уніёна» амаль немагчыма: колькасць сяброў фан-клуба значна перавышае колькасць месцаў на трыбунах. Астатнія збіраюцца ў афіцыйным пабе каля стадыёна, а таксама ў бары пад назвай «Паненка».

Праблема з вольнымі месцамі ёсць у «Герты», крыху больш папулярнай за «Уніён». Клуб гуляе на Алімпіяштадыёне (ням. *Olympiastadion*), які быў пабудаваны перад Алімпійскімі гульнямі 1936 года. Манументальнае збудаванне памятае Адольфа Гітлера і Джэсі Оўэнса, эпічны ўдар Зінэдзіна Зідана галавой у грудзі Марка Матэрацы ў фінале чэмпіянату свету ў 2006-м, а таксама сусветны рэкорд Усэйна Болта ў бегу на 100 метраў. Нягледзячы на ўсе намаганні фанатаў, цалкам трыбуны запаўняюцца хіба што на матчы супраць «Баварыі».



WIKIPEDIA COMMONS

**Алімпіяштадыён.**

Калі вам не пашанцуе трапіць на матч Бундэслігі, не варта адчайвацца. Дзясяткі сталічных клубаў гуляюць штотыдзень на розных прыступках нямецкай футбольнай піраміды і маюць салідную падтрымку. Тут кожны можа абраць нешта на свой густ: эмігранты, «осі» (выхадцы з ГДР), антыфашысты ці старамодныя берлінцы, якія не здраджваюць клубу з роднага раёна.



ФОТА ЯГОРА ХАВАНСКАГА

**Менавіта заўзятары «жалезных» распачалі традыцыю калядных спеваў на трыбунах**, якую падхапілі і іншыя клубы.




ФОТА ЯГОРА ХАВАНСКАГА

**Фанаты клуба «Тасманія-Берлін».** Клуб у 1960-х згуляў сезон у Бундэслізе і ўсталяваў мноства антырэкордаў. Цяпер гуляе ў пятай лізе.

## Берлін — радзіма шаўрмы

Дзякуючы замежнікам, у Берліне з’явіліся свае кулінарныя фішкі. Кулінарнай візітоўкай Берліна з’яўляюцца **карывурст** (ням. *Currywurst*) і **донер кебаб** (ням. *Döner kebab*).

У 1949-м годзе ўладальніца закусачнай у брытанскім акупацыйным сектары Герта Хойвер прыдумала арыгінальны соус да традыцыйных каўбасак: яна дадала ў кетчуп вустарскі соус і кары, якія з’явіліся ў Берліне з брытанскімі салдатамі.


DEPOSITPHOTOS.COM BY KATYJAY

Страва стала надзвычайна папулярнай далёка за межамі горада. У Берліне некаторы час існаваў музей карывурста, а на месцы той самай закусачнай удзячныя нашчадкі пасялілі мемарыяльную дошку.

Канкурэнцыю каўбасцы з соусам сёння складае донер кебаб. Вы не паверыце, але тое, што мы прывыклі называць шаўрмой, прыдумалі ў Берліне турэцкія гастарбайтары ў 1971 годзе.

Традыцыйную страву з абсмажанага мяса з гароднінай і соусам яны прыдумалі пакласці ў піту ці завярнуць у лаваш, каб яе можна было лёгка есці. Сёння ў Берліне больш шаўрмярняў, чым у Стамбуле.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY PAULISTANO


DEPOSITPHOTOS.COM, BY RAFALSTACHURA

## Спаржа

Кебабы і шаўрма — гэта крута для перакусу. Але класічная берлінская страва — гэта спаржа. А сезон спаржы кароткі: май і пачатак чэрвеня. Калі вясна цёплая, спаржа вырастае раней, калі позняя — пазней.

У спаржы ядуць расткі — яны далікатэсныя, пакуль не бачылі сонца. Як толькі выб’юцца з баразён на святло, робіцца валакністымі — не ўесці.

Немцы настолькі любяць спаржу, што для атрымання ранніх пабегаў тут робяць палі з падземным падагрэвам.

Яе ядуць як асобна, так і з яечняй, у супах, з пастай, у пірагах.

Гатаваць спаржу проста: яе варыць 2–3 хвіліны, да мяккасці.

**50 правераных рэцэптаў страў са спаржай ад BBC Good Food.**




WIKIMEDIA COMMONS

**Графіці Блю на Куўрыштрасэ** ў раёне Кройцберг.

# Табакеркі супраць цара і чорта




## Як модны аксесуар зрабіўся інструментам прапаганды

**Сёння табакеркі, адмысловыя скрыначкі для захоўвання нюхальнага тытуню («табакі»), цалкам выйшлі з практычнага ўжытку. Але ў XVII—XIX стагоддзях гэтая рэч выкарыстоўвалася масава і, акрамя непасрэднага прызначэння, часта служыла сродкам перадачы патрыятычных лозунгаў і вызвольных ідэй. Пра тое, які след пакінулі табакеркі ў гісторыі, літаратуры і мастацтве нашай краіны, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

### Не толькі курыць, але і нюхаць

Спажыванне нюхальнага тытуню (слова «табака» прынята ўжываць менавіта для яго) разам з яго курэннем, а часам і жаваннем пачало распаўсюджвацца ў Еўропе з канца XV стагоддзя пасля адкрыцця Амерыкі Хрыстафорам Калумбам. Нюханне табакі еўрапейцам упершыню было засведчана ў 1493 годзе, калі брат Рамон Панэ, удзельнік экспедыцый Калумба, жыў місіянерам сярод індзейцаў — карэнных жыхароў Гаіці.

Распаўсюджванне новай звычкі па Еўропе ішло марудна і сутыкалася з рэзкай крытыкай з боку Царквы і маралістаў. Аднак ужо з сярэдзіны XVII стагоддзя нюханне табакі стала ўспрымацца ў грамадстве як больш-менш прымальнае. Больш за тое, гэтая звычка пачала нават уваходзіць у моду. Пры гэтым, у адрозненне ад курэння, нюханне табакі стала шмат дзе лічыцца прыстойным нават для жанчын. Аматары табакі лічылі, што прачышчаць з дапамогай справакаванага табакай чхання дыхальныя шляхі карысна для здароўя. Хоць сучасная медыцына з бяспечнасцю такой «тэрапіі» наўрад ці пагодзіцца.

Пік моды на табаку прыйшоўся на другую палову XVIII стагоддзя. Далей яе папулярнасць паступова змяншалася, але цягам XIX стагоддзя заставалася яшчэ на даволі высокім узроўні. Прытым звычай менавіта нюхаць табаку затрымаўся найдаўжэй сярод прадстаўнікоў тых прафесій, якім курыць тытунь у той час з розных прычын было няёмка або небяспечна: дыпламатаў, адвакатаў, лекараў, мінёраў ці друкароў.

### Трымайце сваю табаку сухой

Недзе з другой паловы XVII стагоддзя пачынаецца гісторыя табакерак, патрэбных для таго, каб трымаць табаку сухой. З гэтага часу табакеркі робяцца хатняй рэччу масавага ўжытку. У залежнасці ад фантазіі і дастатку ўладальнікаў гэта маглі быць ці вельмі простыя, чыста ўтылітарныя скрынкі, ці сапраўдныя прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і, урэшце, раскошы.

Матэрыялы для табакеркі маглі быць самыя разнастайныя: дрэва, металы (у тым ліку золата і срэбра, часам з інкрустацыямі каштоўнымі камянямі), сланковая костка, парцаляна, рогі, панцыр чарапахі, перламутр, кераміка. Маглі быць невялікія табакеркі для асабістай кішэні і большыя, калектыўныя скрынкі, для супольнага настольнага выкарыстання. Англійскія манархі ў сваіх палацах мелі нават адмысловыя пакоі для захоўвання калекцыі разнастайных табакерак.

Кішэнныя табакеркі, як правіла, выраблялі для захоўвання невялікай колькасці табакі,



**Срэбраная табакерка паўстанца 1863 года** з выгравіраваным на ёй вокам Божага Провіду.

непасрэднага асабістага ўжывання на дзень-два. Формы гэтых скрынак не абмяжоўваліся звычайнымі прастакутнікамі. Круглая і авальная формы былі не менш папулярнымі, а некаторыя парцалянавыя табакеркі выраблялiся ў форме марскіх ракавін, хоць гэты стыль быў больш рэдкім. Трапляліся таксама шкляныя або керамічныя бутэлечкі. Самыя бедныя спажыўцы табакі задавальняліся табакеркамі з рогу (адпаведнай формы), дрэва, бляхі, скуры, бяросты і нават... бульбы! Наш славуты мастак Язэп Драздовіч, дарэчы, часам выразаў табакеркі з дрэва.

### «Айфон» XVIII стагоддзя

Як і любы модны аксесуар, табакеркі рабіліся прадметам, з дапамогай якога можна было паказаць індывідуальнасць і статуснасць іх гаспадара. Для гэтага многія з іх размалёўваліся ўручную па індывідуальных замовах. На вечках змяшчалі як мініяцюрныя рэальныя пейзажы, так і ідэалізаваныя букалічныя, а часам — камічныя і сатырычныя сцэнкі. Тут можна было сустрэць і батальныя ды побытавыя сцэны, замалёўкі з каланіяльнага жыцця, а таксама партрэты — у тым ліку саміх уладальнікаў (гэтак званыя «камея»).

Аднымі з самых раскошных былі французскія *tabatières*, якія выраблялiся з золата і ўпрыгожваліся дыяментамі, аметыстамі ды сапфірамі. Іх часта гравіравалі, эмаліравалі альбо аздаблялі чаканкай.

## Табакеркі паказвалі індывідуальнасць і статуснасць гаспадара

Доўгі час лісце тытуню церлі на табаку самі спажывальнікі на адмысловых тарках непасрэдна перад ужыткам або запаўненнем табакеркі. Таму часам можна сустрэць камплекты «табакерка + тарка», афармленыя ў адным стылі.

### Сусвет у кішэні

У творах польскамоўных літаратараў і мастакоў XIX стагоддзя табакеркі часта адыгрываюць важную сімвалічную ролю.

У першую чаргу ў творах класікаў «ліцвінскага» рамантызму, нашых землякоў, звязаных з Віленскім універсітэтам.

Першы такі твор — няскончаная паэма славутага «архіпрамяністага» філамата Тамаша Зана «Табакерка» (першапачатковая назва — «Смерць табакеркі», польск. «*Zgon tabakiery*»), напісаная ў 1818 годзе. Герой паэмы, стары барскі канфедэрат, выколвае іголкай на табакерцы сцэнкі з вобразамі народнай творчасці і побыту. І аказваецца, што малая табакерка можа змяшчаць у сабе цэлы сусвет: пахаванне легендарнага князя Свінтарога ў Вільні паводле паганскага абраду, сялянскае вяселле, сцэнку з русалкамі, што гайдаюць на голлі дрэў зачараванага імі хлопца, ледзь не поўны цыкл сельскагаспадарчых работ і цэлую баладу, заснаваную на народным паданні пра Бекешаву гару ў Вільні.

У нечым гэта паэма пераклікаецца з асноўнай ідэяй літаратурнай казкі Уладзіміра Адоеўскага «Гарадок у табакерцы» (1834), на якой выхоўвалася шмат пакаленняў рускамоўных дзяцей. Тады такі прыём быў у літаратуры зусім новым: нейкая дробная рэч праз успаміны і асацыятыўныя сувязі робіцца сімвалічным змесцівам гісторыі сям'і або цэлага народа, своеасаблівай «культурнай ДНК».

Табакеркі на такую ролю надаваліся ці не найлепш. Па-першае, яны былі прадметам даволі інтымным, асабістым. Іх насілі пры сабе, блізка да цела, а дзяліліся табакай пераважна з людзьмі, якім давяралі. Па-другое, табака фактурай ▸

### Табачнікі

Існавалі спецыялісты па вырабе табакі — табачнікі. Часта, акрамя чыстай табакі, рабіліся і сумесі з рознымі духмянымі дадаткамі. Часцей за ўсё гэтым промыслам у нас займаліся габрэі, таму з часам сярод іх стала распаўсюджаным адпаведнае прозвішча — Табачнік.




### Кашубскі ражок

Для кашубаў, малога народа ў польскім Памор'і, табакеркі — найчасцей зробленыя з валовага рогу (польск. *rożek kaszubski*) — адзін з найбольш тыповых турыстычных сувеніраў, своеасаблівы кашубскі нацыянальны сімвал.

нагадвала порах, а частаванне ёй прачытвалася як сяброўскі жэст, адрасаваны менавіта таварышу па зброі. Таму цалкам лагічна, што ў XIX стагоддзі, амаль на піку папулярнасці табакерак, яны нярэдка выкарыстоўваліся — свядома ці не — як «зброя» ў ідэалагічнай вайне на нашых землях.

**У XIX стагоддзі табакеркі нярэдка выкарыстоўваліся як зброя ў ідэалагічнай вайне на нашых землях**

### Патрыятычны «Інстаграм» паўстання

Калі 28 кастрычніка 1794 года расійскія войскі парадным шыхтом уступілі ў польскую сталіцу пасля т. зв. Пражскай разні (Прага — тагачаснае прадмесце Варшавы на правым беразе Віслы, а цяпер раён польскай сталіцы), гарадскія ўлады, каб залагодзіць Аляксандра Суворава, паднеслі яму хлеб-соль, ключы ад горада і ўпрыгожаную дыяментамі залатую табакерку з надпісам «Варшава — свайму збавіцелю».

Але ўсё ж часцей, чым трыумфальныя магільшчыкі Рэчы Паспалітай, ужывалі табакерку як сродак прапаганды якраз інсургенты.

У пецярбургскім Эрмітажы захоўваецца табакерка пачатку XIX стагоддзя з алегорыяй падзелаў Рэчы Паспалітай. На ёй — постаць сумнага шляхціча, які ў роспачы перажывае боль ад страты дзяржавы, з нямецкамоўным надпісам «*Des Polen Klage*» («Скарга, або Жалоба Польшчы»).

Асабліва многа такіх «рэвалюцыйных» табакерак вядома з часоў паўстання 1863–1864 гадоў. Са знакамі «Арла» і «Пагоні» (часам таксама і Арханёла Міхаіла — сімвала Русі), надпісамі «Божа, захавай Польшчу» і інш. Нярэдкім матывам былі і змешчаныя на табакерках партрэты нацыянальных герояў — таксама, дарэчы, як і на філіжанках для кавы (гл. артыкул у № 4/2018 пра першых нашых каваманаў).




**Табакерка 1863 года** з гербамі Польшчы, Літвы і Русі.

### Таемныя знакі ад класікаў

Асабліва важная сімвалічная роля адведзена табакеркам у паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». У першай кнізе твора Падкаморы, пастукаўшы ў залатую табакерку, прамаўляе цэлую тыраду, ганячы французскае вальнадумства ягонай маладосці. Яно, на ягоную думку, і прывяло да заняпаду Рэчы Паспалітай.




**Табакерка з калекцыі Дзяржаўнага Эрмітажа** ў Санкт-Пецярбурзе.

Табакерка Падкаморага таксама змяшчала ў сабе патрыятычную дэкларацыю — партрэт апошняга караля Станіслава-Аўгуста Панятоўскага:

На шчасце, Падкаморы
 чхнуў магутна двойчы.
«Віват!» — сказалі ўсе.
 Ён дзякаваў ад сэрца
І пальцамі пачаў звaніць
 па табакерцы,
Што з золата была,
 з брыльянтавай аправай,
З партрэтам унутры манарха
 Станіслава —
Ад караля падарак бацьку
 ўласнаручны.
Яе ён даставаў у кожны
 момант зручны
І звонам знак даваў,
 што хоча адазвацца.
*(Пераклад Пятра Бітэля)*

У чацвёртай кнізе паэмы табакерку ўжывае як патрыятычны сімвал ужо ксёндз Робак — галоўны, па сутнасці, герой паэмы. Калі ён частуе табакай

### Замест ордэнаў і медалёў

У XVIII–XIX стагоддзях, калі ордэнамі і медалямі ўзнагароджвалі рэдка і пераважна арыстакратаў, табакеркі часам выконвалі і ролю баявых узнагарод. Пасля бітваў камандзіры ўручалі салдатам, якія добра паказалі сябе на полі бою, багата аформленыя табакеркі.

з яе ваколічную шляхту ў карчме Янкеля, то высвятляецца, што табаку церлі самі айцы-паўліны ў Чанстахове, самай вядомай цытадэлі польскага патрыятызму. А далей у размове, якая паступова набывае ўсё больш антыцарскі і пранапалеонаўскі змест, Робак, ён жа Яцак Сапліца, прызнаецца:

> Ад гэтае табакі многія ўжо чхалі!
> Паверце, гэта табакерка генерала
> Дамброўскага разы чатыры
> частавала!

І з кожным наступным шчопцем табакі, якой частуецца з табакеркі чарговы суразмоўца, усёй грамадзе быццам паступова передаецца «вірус» паўстанцкага настрою. Калі ж змесціва табакеркі цалкам вычарпанае, на яе дне знаходзіцца батальная сцэна з Напалеонам Банапартам, якому ў паэме Міцкевіча адведзена месіянская роля.

Прозвішча аднаго з найбольш зацікаўленых слухачоў Робака ў гэтай сцэне — Скалуба. І такое

Пра значэнне вобразу табакеркі ў міцкевічаўскім «Пане Тадэвушу» падрабязней — у відэасюжэце Музея «Пана Тадэвуша» ў польскім Уроцлаве.






Залатая табакерка сярэдзіны XIX стагоддзя **з партрэтам Напалеона Банапарта.**

сама прозвішча, зусім невыпадкова, носіць адзін з персанажаў оперы Станіслава Манюшкі «Страшны двор», ключнік гэтага самага «зачараванага» дому. Скалуба ў сваёй славутай арыі палохае Мацея, чыю мужнасць выпрабоўваюць зласлівым розыгрышам, і прапаноўвае яму табаку як сродак ад баязлівасці. Кожны з куплетаў арыі сканчаецца заклікам: «Баішся? Не? Ужый табакі».

Безумоўна, такое спалучэнне, Скалуба і табака, — адсылка да палымянай патрыятычнай прамовы з «Пана Тадэвуша», заклік да паўстання супраць царызму. Так Манюшка дасціпна падхоплівае эстафету ў Міцкевіча і перадае яе наступным пакаленням. Гэты намёк быў відавочны для знаўцаў паэмы, але замаскіраваны культурным бар'ерам для неабазнаных у кантэксце царскіх цэнзараў. А наўпрост спаслацца на Адама Міцкевіча ў тыя часы ў Расійскай імперыі было немагчыма.

Алегарычную эстафету неўзабаве падхапіла і новае пакаленне культурных дзеячаў. Класік ужо новай беларускай літаратуры, Змітрок Бядуля, у 1940 годзе напісаў фантастычную і ў пэўнай ступені філасофскую аповесць-казку «Сярэбраная табакерка», якую некаторыя даследчыкі лічаць схаванай сатырай на рэпрэсіўны сталінскі рэжым. Галоўны герой, заяц пад мянушкай Дзіда-дзед, у неверагодна даўнія часы злавіў саму Смерць і схаваў яе ў табакерцы. Ад гэтага ўчынку моцна пацярпелі суддзі, адвакаты, пракуроры і следчыя.

«Яны скардзяцца, што, пакольki цяпер людзі будуць вечна ►




**Табакерка, уласнаручна вытачаная са слановай косткі Тадэвушам Касцюшкам у Швейцарыі**, захоўваецца ў музеі Войска Польскага ў Варшаве.

жыць, заблытаны ўвесь кодэкс законаў і выпаў зусім пункт аб кары смерцю. Крымінальных і іншых злаўчынкаў будзе менш, дык юрыстам астанецца адна толькі праца — пасвіць камароў на балоце». І ўсе, хто старанна сее смерць на зямлі, хто ад яе корміцца, ніяк не могуць змірыцца з тым, што хтосьці пазбавіў іх гэтай надзейнай крыніцы дабрабыту.

Менавіта табакерка як месца зняволення для рознай злыбяды — прыём, дарэчы, характэрны не толькі для беларускай літаратуры. У 1954 годзе вядомы расійскі аўтар Самуіл Маршак у дзіцячай п'есе «Гора баяцца — шчасця не бачыць» зрабіў гэты прадмет турмой для людскога Гора-Злашчасця, у якую яго змясціў знаходлівы салдат. Паводле гэтай п'есы ў 1973 годзе на кінастудыі «Беларусьфільм» нашым вядомым рэжысёрам Віктарам Туравым быў зняты двухсерыйны тэлевізійны фільм.



## Засталіся толькі ў казках...

У асноўным табакеркі, асабліва тыя, што з'яўляліся сапраўднымі мастацкімі творамі, былі, натуральна, заўсёды аксесуарам, распаўсюджаным сярод эліты грамадства. Але прынамсі ў самым простым выглядзе пранікалі яны і ў беларускае сялянскае асяроддзе, а таму пакінулі след і ў нашым фальклоры. Напрыклад, у XIX стагоддзі ў Слуцкім павеце была запісаная легенда, як бедны мужык Мікалай, які любіў нюхаць табаку, памяняў «лоб у лоб» (без даплаты) сваю старую табакерку з бяросты на зіхоткую, мабыць залатую, ад выпадкова сустрэтага незнаёмца. Але праз пэўны час знайшоў у кішэні толькі капыт — павучальны «падарунак» ад чорта.

Папулярнай беларускай казкай, якую часта ўключаюць у розныя анталогіі ды хрэстаматыі і нават увекавечылі на паштовай марцы, у апошнія некалькі дзесяцігоддзяў зрабілася «Ох і залатая табакерка». Паводле яе, сіраціне Янку, лесніковаму сыну, выпадкова дастаецца каштоўная табакерка з цудадзейным слугой, які жыве ў ёй і выконвае любыя, нават самыя немагчымыя загады. І ў выніку нават дапамагае ажаніцца з каралеўскай дачкой. Што, зрэшты, зусім не прыносіць сіраціне шчасця. ◆



BELNAVINY.BY

Ілюстрацыя мастака Вячаслава Валынца да казкі **«Ох і залатая табакерка».**



LEKTURY.KOCHAM.JP.PL

**Ксёндз Робак з табакеркай, поўнай інсургенцкай «заразы», агітуе шляхту.** З экранізацыі «Пана Тадэвуша» рэжысёра Анджэя Вайды.

**Казка «Ох і залатая табакерка»** ў выкананні акцёра і музыкі Аляксея Сапрыкіна.



# Калдуны

## Татарскія, беларуска-ліцвінскія і габрэйскія



AVITO.RU

**Сучасныя беларусы любяць варэнікі і пельмені гэтак жа, як і ўсе ўсходнія славяне. Але яшчэ зусім нядаўна на нашай зямлі быў свой уласны кулінарны сімвал з гэтага сямейства страў: калдуны. Зрэшты, у каго «ў нас»? Разбіраецца доктар гісторыі Алесь Белы.**

### Адно на паштоўцы, іншае ў галовах

На паштоўцы з серыі «Беларуская нацыянальная кухня», выдадзенай у Маскве у 1975 годзе накладам цэлы мільён (!) асобнікаў, размешчана фота «Булёну з калдунамі». Гэтая страва ў часы БССР трывала ўваходзіла ў канон беларускай савецкай кухні, фігуравала ва ўсіх даведніках і кулінарных кнігах. Яе можна было замовіць у статусных установах беларускай кухні ў цэнтры Мінска накшталт «Бульбяной» ці «Паляўнічага» (у іншых гарадах такіх практычна не было).

Такая сітуацыя была на тагачасным афіцыйным фасадзе беларускай культуры ў яе кулінарным вымярэнні. Але калі вы сёння спытаеце сярэднестатыстычнага беларуса, што такое калдуны, то амаль са стапрацэнтнай імавернасцю атрымаеце адказ, што гэта фаршыраваныя мясам дранікі, то-бок аладкі з цёртай бульбы. Спроба ж давесці суразмоўцу, што калдуны — найбліжэйшыя сваякі пельменяў, выкліча ці смех, ці рэзкае пярэчанне. Шмат разоў праверана асабіста. Што б людзі казалі ў 1975 годзе, меркаваць цяжка: на жаль, тады такія апытанні ніхто не праводзіў.

### Стварэнне канона

Калдуны а-ля пельмені патрапілі ў канон беларускай савецкай кухні ў 1955 годзе. Тады Саўміну СССР было даручана распрацаваць і афіцыйна зацвердзіць зборнік рэцэптур нацыянальных страў для ўсіх саюзных рэспублік. Да гэтага, уласна кажучы, аніякага ўсталяванага канона беларускай кухні ўвогуле не існавала. І калі ў большасці рэспублік тады ўжо прынамсі стыхійна склаўся кансэнсус, што лічыць «хітамі» нацыянальнай кухні, то ў Беларусі да таго часу пра такія рэчы мала хто сур'ёзна задумваўся.

Саўмін даручэнне выканаў у цэлым добрасумленна, у нейкім сэнсе нават «навырост». У савецкі канон трапіла, напрыклад, кісла-салодкае мяса, якое хутчэй трэба лічыць габрэйскай стравай, шырока распаўсюджанай у Беларусі пад назвай «эсік флэйш». Ці калдуны — сапраўды культавая страва ліцвінскай шляхты. Менавіта калдуны-«пельмені».

### Татарскія кундзюмы

Адкуль жа прыйшлі ў Беларусь і Літву калдуны? Адны кажуць — з Захаду. Нібыта на сярэднявечнай лаціне слова *calduna* азначала «яшчэ цёплыя вантробы забітых жывёл». Ёсць таксама версія, што ў старабеларускую мову ВКЛ гэтае слова трапіла ў XV стагоддзі ці то з нямецкай, ці то з чэшскай.

Праблема толькі ў тым, што самі калдуны — ну ніяк не заходняга паходжання. Беларуска-літоўскія татары (гл. пра іх артыкул Сяргея Богдана і Анжалікі Пабеданосцавай Кая ў № 5/2018 «Нашай гісторыі») цвёрда ўпэўненыя: калдуны ў край паміж Нёманам і Дзвіной прынеслі менавіта яны. Такога ж ►

▶ меркавання прытрымліваецца і большасць даследчыкаў.

Татары першапачаткова называлі іх «кундумы» ці «кундзюмы». Гатуюць іх, прытым даволі вялікіх памераў, у татарскіх сем'ях і дагэтуль на кожны «байрам» (свята). Раней гэтым нярэдка займалася цэлая сям'я ці прынамсі яе жаночая частка: хтосьці мясіў цеста і наразаў кружкамі, нехта накладаў начынку, а іншы зашчыпваў зубчыкамі краі. Калісьці лічылася, што пакуль дзяўчына не навучылася як след закручваць абсалютна аднолькавыя спіральныя зубчыкі на краях калдуноў, якія чымсьці нагадваюць арнаментальнае арабскае пісьмо, то ёй яшчэ зарана выходзіць замуж.

Цеста татары замешваюць на вадзе і (часам) на яйках, для начынкі выкарыстоўваюць сечаную бараніну, цяляціну або ялавічыну з дадаткам розных прыпраў (перадусім маярану), цыбулі, перцу і солі. Ядуць яны калдуны лыжкай, каб не разарваць цеста і не дазволіць выцечы далікатэснаму соку.

Прынамсі з сярэдзіны XIX стагоддзя і па сёння калдуны — неад'емная частка стэрэатыпнага літаратурнага вобразу беларуска-літоўскіх татараў. Сучасны татарскі паэт з Польшчы Сялім Хазбіевіч напісаў верш, прысвечаны калдунам, у якім ёсць такія радкі:

> Татарскія калдуны,
> Закручаныя зубчыкамі, якія
> падаюцца ў булёне,
> З якіх пачынаюцца час і могілкі,
> Да якіх вяртаешся пасля малітвы.

Адкуль калдуны-кундзюмы ўзяліся ў саміх татараў? Гісторыкі кухні ў цэлым згодныя з кітайцамі, што гонар вынаходніцтва прататыпу пельменяў, варэнікаў, мантаў, хінкалі і іншых роднасных страў належыць менавіта Паднябеснай. Легенда звязвае іх вынаходніцтва з іменем славутага лекара Чжан Чжунцзіна з горада Наньян у правінцыі Хэнань. Ён нібыта жыў больш за 1800 гадоў таму.

З Кітая гэтая легендарная страва распаўсюдзілася па ўсёй Еўразіі. Натуральна, што першымі яе запазычылі суседзі — карэйцы і японцы. Па Сібіры пельмені разнеслі качавыя цюркскія народы (галіной якіх з'яўляюцца і беларуска-літоўскія татары), а ад іх эстафету прынялі фінамоўныя народы Паволжа і Урала (комі, удмурты, марыйцы і іншыя). Ужо ад іх, у сваю чаргу, страву запазычылі рускія. Ну, а ў Італію, паводле падання, будучыя равіёлі завёз непасрэдна з Кітая Марка Пола.

### Калдуны шляхецкія

Ад татараў, хутчэй за ўсё, запазычыла некалі (магчыма, у XVII або XVIII стагоддзях) ідэю-канцэпцыю калдуноў літоўска-беларуская шляхта. І прыстасавала іх да сваёй кухні, стварыўшы мноства новых разнавіднасцяў. Часам той ці іншы рэцэпт складаў гонар шляхецкага роду.

**Мельхіёр Ванькові**ч (1892–1974) славуты польскі публіцыст, ураджэнец Калюжыцы ў цяперашнім Бярэзінскім раёне, так апісваў у сваёй аўтабіяграфічнай кнізе «Тут і там» *правільны* віленскі калдун: «Калдун, калі ён зроблены па ўсіх правілах, калі прыціснуць яго языком да паднябення, пускае сок. "Караняжы" (палякі з Польшчы) імкнуцца есці яго відэльцам, смех проста. А я не дам забраць лыжку, бо, напэўна ж, будзе і булён, яго трэба есці той самай лыжкай, абліплай тлушчам...» Менавіта Ваньковіч найбольш спрычыніўся да стварэння рамантычнага вобразу літоўскіх калдуноў.

Некаторыя з відаў стравы нават увекавечаныя пад прозвішчамі тых родаў, чые кухмістры іх вынайшлі і падарылі грамадству. Напрыклад, калдуны Мельхіёра Ваньковіча — з начынкай з сумесі ялавічнай паляндвіцы і барановага кумпяка. А калдуны графа Тышкевіча — з вяндліны, вараных яек і смажаных грыбоў ды цыбулі.

Калісьці сярод шляхты былі папулярныя спаборніцтвы — хто з'есць больш калдуноў.



AVATARS.MDS.YANDEX.NET

**Чжан Чжунцзін,** вынаходнік пельменяў і іншых роднасных ім страў.

Рэкардсмены, па чутках, пераваліваралі за сотню. А часам на сяброўскіх вечарынках адзін калдун на каструлю начынялі перцам! Над няўдачнікам, якому ён трапляўся, дружна рагатала ўся кампанія.

## Габрэйскія крэплах

У нашай шматнацыянальнай краіне было б дзіўна, калі б свой варыянт калдуноў не вынайшлі і габрэі. Але яны такі вынайшлі ці, відаць, адаптавалі пад свае кулінарныя прыхільнасці агульную для ўсіх тутэйшых народаў канцэпцыю.

Габрэйскі варыянт называецца крэплах. Гэта невялікія трохкутныя калдунчыкі, якія найчасцей таксама падаюць у булёне — толькі курыным. Як і татарскі аналаг, іх гатавалі толькі на найбольшыя святы. Асабліва на веснавое свята цудоўнага збаўлення Пурым. Быццам бы «прыхаваная» прырода крэплах (цеста хавае начынку) імітуе «ўтоеную» прыроду цуду Пурыма. (Дарэчы, як і ў беларускіх бульбяных клёцках, начынку часам асацыююць з «душой».) А трохкутная форма сімвалізуе трох патрыярхаў габрэйскага народа: Абрагама, Ісаака і Якава.

**Павел Шпілеўскі**
ў сваім апісанні Ніжняга рынку ў Мінску 1850-х сярод іншых мясцовых страў згадаў і калдуны. «Паблізу Замкавай вуліцы ёсць так званы Смачны куток (*Вкусный угол*), нешта накшталт *обжорного ряда*, дзе за пяць капеек срэбрам частуюць *крупнікам* (супам з круп) і кавалкам ялавічыны, а таксама *калдунамі* (пірменямі) і валовай пячонкай». Гандлярамі тут выступалі ў першую чаргу габрэі.



СЯДЗІБА «МАРЦІНОВА ГУСЬ», КАЛЕКЦЫЯ АЎТАРА.

**«Калдуны графа Тышкевіча».** Сямейная сцэнка сярэдзіны XIX стагоддзя вачыма сучаснага мастака Уладзіміра Кандрусевіча.

Крэплах з малочнай начынкай (тварагом або сырам) — традыцыйная страва на Шавуот (Пяцідзясятніцу). Увосень крэплах гатавалі на сёмы дзень Сукот (Кушчаў) і на пярэдадзень Ём-Кіпуру (Суднага дня). Таксама гатавалі крэплах і на Ханукуу, толькі не варылі, а смажылі ў алеі, на знак ханукальнага цуду з алеем.

У бедных сем'ях крэплах некалі начынялі звычайнай варанай бульбай (магчыма, з цыбуляй), а ў тых, што былі заможнейшыя, — фаршам са смажанай курынай пячонкі. Але агулам некалі традыцыя не раіла гатаваць крэплах часцей за тры разы на год. Бо кожнае прыгатаванне такой раскошнай стравы, як быццам у процівагу, у традыцыйным народным уяўленні было звязанае з біццём (у тым ліку «біццём» цеста) і плачам — сведчыць Алесь Астравух, аўтар фундаментальнага ідыш-беларускага слоўніка. На Пурым б'юць Амана, ка́та і ворага габрэйскага народа. На сёмы дзень Сукот б'юць адзін аднаго лазою (як у хрысціянаў на Вербніцу). А перад Ём-Кіпурам б'юць пеўня-ахвяру.

## Сакрэты гатавання

Хто сказаў, што ў наш век стандартызацыі і ўніфікацыі няма прасторы для творчасці? Ды адных толькі варыянтаў спалучэння цеста, фаршу, спосабу прыгатавання і соусу для калдуноў больш, чым каналаў у спадарожнікавай талерцы!

Літоўска-беларускія калдуны можна варыць, запякаць, смажыць на патэльні, блясе або ў фрыцюры. А беларускія татары некалі пяклі іх у лоі.

Вельмі многае залежыць ад цеста. Самае простае робяць ▸

з мукі, замешанай на цеплаватай вадзе з дадаткам солі. Але раней у кожнай гаспадыні быў свой сакрэт цеста: хто дадаваў яйкі, хто алей, хто соду. Знаўцы сцвярджаюць, што сапраўдныя «ліцвінскія» калдуны трэба замешваць не на вадзе, а на соку цыбулі.

Дасканалае цеста на калдуны павінна быць мяккім, эластычным, добра выцягвацца, каб яго кавалачкі можна было лёгка фармаваць і склейваць. Гатовае цеста варта загарнуць у ручнік і пакінуць на некаторы час у холадзе, каб «адпачыла». Кожны чарговы калдун трэба выкладаць на пасыпанай мукой паверхні, пакідаючы астатняе цеста накрытым ручнікам, каб не высыхала.

Фарш для калдуноў можна рабіць, тэарэтычна, з чаго заўгодна. Калісьці даўно вялікую папулярнасць мелі тварожныя фаршы, але былі і мясныя, і рыбныя, і нават фруктовыя — з сушаных вішань, сліў або чарніц. Так што калдуны могуць быць і асноўнай стравай, а могуць — і дэсертам. Фарш павінен быць не занадта цвёрдым, не занадта клейкім. Лепш за ўсё, калі ўдаецца сфармаваць з яго невялікія шарыкі. Фарш не павінен трапляць паміж злепленага бакамі цеста, каб потым калдуны не расклеіліся.

Варыць злепленыя (замарожаныя ў запас) калдуны лепш за ўсё ў плоскім шырокім рондалі, на малым агні, у вялікай колькасці добра пасоленай вады, каля 5 хвілін ад моманту ўсплывання на паверхню. Але некаторыя віды калдуноў лепш смажыць. Напрыклад, «палескія» (фарш з варанай рыбы і крутых яек) лепш за ўсё смажыць у фрыцюры.

Найбольш прыдатны соус да калдуноў дыктуецца фаршам. Да «віленскага» фаршу з шынкі і грыбоў (як, напрыклад, у калдунах графа Тышкевіча) лепш за ўсё ідзе топленае масла ці сала, а да «рускага» (з варанай бульбы і тварагу) — густая кіслая смятана. Да грубага фаршу — пасераваная цыбуля, а да дэсертных — узбітыя вяршкі з карыцай або фруктовы сіроп.

У мінулым нашы татары не ўжывалі ніякіх гарніраў або дапаўненняў да калдуноў. Хто хацеў, той прасіў, каб яму налілі ў асобны кубак густога булёну, у якім яны варыліся, і еў, запіваючы булёнам. Кажуць, што стандартнай порцыі ў пяць штук было дастаткова, каб наесціся

## «Татарскія калдуны вартыя бернардзінскага пуза»

Польскамоўны пісьменнік Ігнацы Ходзька (1794–1861) родам з нашай Вілейшчыны ў аповесці «Дзённікі квестара» так апісваў прыём татарынам, маёрам Амуратам Беляком, квестара (зборшчыка міласціны для бернардзінскага кляштара) Міхала Лаўрыновіча (дзеянне адбываецца ў канцы XVIII стагоддзя):

«— Бачу, што ты навічок у гэтым краі, бо я цябе не ведаю; а не заязджаеш да татараў, бо думаеш, што мусульманін зачыніць перад табою браму альбо скажа: “Прэч адсюль!” Але памыляешся. Твае папярэднікі не міналі нас, а мы таксама не мінаем вашага кляштара. На тым свеце паразважаем пра веру, а на гэтым давайма жыць у суседстве па-сяброўску. Дык заязджай у маю Вітольдаўку і ўбачыш, што татарскія калдуны вартыя бернардзінскага пуза.

Час абеду набліжаўся, падняўся апетыт, а я, як на ліха, люблю калдуны. Праўда, падумалася, што ў іх і маладая каніна ўжываецца; аднак не вельмі верачы ў гэта і не могучы адмовіцца ад шчырага запрашэння, заехаў у браму... Пану Амурату было больш за пяцьдзясят гадоў, ён лысы, але вусы вялікія і не па-прыдворнаму закручаныя ды гумаваныя, а пышныя, сівыя і абвіслыя, аж яму рот закрываюць. Твар прыстойны, хоць крыху і смуглы і шырокі, выдае ягонае паходжанне. На ім куртка і палатняныя шаравары, шыя і лоб адкрытыя, а ў руках паляўнічы арапнік.

— Гэй, Аешка! — загукаў ён, уваходзячы ў сенцы; выбегла ў тарлатанавай спадніцы маладая і прытым, як на татарку, ладная дзяўчына. Засмуцілася крыху, убачыўшы мяне.

— Гэта мая адзіная дачушка, — сказаў пан маёр. — Не палохайся, дачка! У нас, бачыш, госць, дык другую капу* калдуноў усып у рондаль. А мы тым часам вып’ем гарэлкі. Магамет забараніў нам піць віно, міласцівы ксёндз! Але пра гарэлку ў Алькаране — цыт! Таму мы з віном квіты, а гарэлку і люльку ўжываем сабе пакрысе. Проша сюды, у мой пакой…

— Пі, браце-квестар! Бо я праз сцяну чую, што кіпяць калдуны ў кіпені.

Папраўдзе, хутка ўвайшла панна Айша са сталовымі прыборамі, а за ёю пакаёўка несла велізарную місу калдуноў. Смачны пах разышоўся па хаце. Мы селі толькі ўдвух, бо паводле татарскага звычаю кабеты абедаюць асобна і служаць за сталом мужчынам, нібы панам сваім. Выдатныя *magni saporis*** калдуны! Наесціся і нахваліцца не мог, а гаспадар просьбамі і прыкладам падахвочваў. Калі міса апусцела, мы дзеля стрававання выпілі гарэлкі...»

* **Капа** — старабеларуская адзінка лічэння, 60 штук.

** **Magni saporis** (лац.) — дасканалага смаку.

ўволю. (Тым больш лічылася, што шосты і наступныя паспеюць ужо астыць, пакуль гурман з'есць першыя пяць.) Пасля вайны сярод татараў паступова распаўсюдзіўся цалкам еўрапейскі звычай падаваць з калдунамі салаты з гародніны.

### Прастора для рэстаратараў

Беларускія рэстаратары, а асабліва харчовая прамысловасць, пакуль слаба ацанілі невычэрпны крэатыўны патэнцыял гістарычных калдуноў. А шкада, бо попыт на іх мог бы быць. Прыгледзьцеся, як выбухова распаўсюдзіліся ў нас за некалькі гадоў грузінскія хінкальні. А гэта ж маглі быць і «калдунярні», калі б мы болей ведалі і цанілі ўласную гастранамічную спадчыну.

Але ўсё ж такі ў тых рэстаранах, якія арыентуюцца на кухню шляхецкую, кухню былой паўднёва-ўсходняй Літвы («ліцвінскую»), усё часцей пад калдунамі разумеюць менавіта тую ж страву, якую гатавалі беларускія татары, літоўская шляхта і складальнікі саўмінаўскага зборніка нацыянальных рэцэптур.

Праўда, у рэстаранна-турыстычным фармаце кухня беларуска-літоўскіх татараў да гэтага часу не прадстаўленая. Прынамсі, у Беларусі і Літве. А вось невялікае польскае мястэчка Крушыняны на самай мяжы з Беларуссю — мяжы зусім нядаўняй, не гістарычнай, — якраз славіцца тым, што тамтэйшая татарская грамада зрабіла кулінарыю сваім асноўным бізнэсам. Прыклад гаспадыні карчмы «Татарская юрта» Джанеты Багдановіч пераняла яшчэ некалькі мясцовых гаспадыняў, і цяпер сюды зачасцілі турысты, прываблены ўсходняй экзотыкай. Туды ў 2010 годзе прыязджаў нават брытанскі прынц Чарльз.

У Беларусі ёсць татарскія мястэчкі і буйнейшыя за Крушыняны — Смілавічы, а асабліва Іўе, дзе з 7 тысяч жыхароў амаль кожны сёмы — татарын. Але вось адкрыць нацыянальны татарскі рэстаран пакуль ніхто не дадумаўся: можа быць, людзі адчуваюць, што пры цяперашнім беларускім узроўні даходаў гэта не будзе карыстацца попытам. А між тым, акрамя калдуноў, татарская кухня славіцца яшчэ слаёным пірагом «перакачаўнік», піражкамі з ялавічынай і цыбуляй — «цыбульнікамі» — і многімі іншымі традыцыйнымі стравамі. Назвы ў іх у большасці выпадкаў беларускія, бо ўжо ў XVI стагоддзі нашы татары трывала перайшлі на беларускую мову і толькі ў апошнія дзесяцігоддзі — на рускую. ◆



ФОТА З АРХІВА ІБРАГІМА КАНАПАЦКАГА

**Прыгатаванне калдуноў** на свята ў татарскай сям'і Канапацкіх.

## Калдуны па-татарску

(4–5 порцый)

**Інгрэдыенты**

- 200 г бараніны (філе)
- 200 г ялавічыны (паляндвіца)
- 200 г лою (барановага тлушчу), у крайнім выпадку — ялавічнага тлушчу, ачышчанага ад плевак
- 3–4 зубкі часнаку
- 1 сталовая лыжка маярану або мацярдушкі (*oregano*)
- Соль, перац, каляндра — на смак
- ¼ лыжачкі цукру
- 2–3 сталовыя лыжкі густога булёну

**Цеста**

- 2 шклянкі мукі
- 2/3 шклянкі кіпячонай падсоленай вады
- Соль
- Можна дадаць 1–2 яйкі

**Начынка**

Прапусціць мяса і лой праз мясарубку (з дробным сітам). Лой для гэтага лепш папярэдне замарозіць у лядоўні. Дадаць цёрты часнок з соллю, спецыі, цукар і булён, як след перамяшаць.

Цеста на татарскія калдуны вельмі простае па складзе, але яго трэба вельмі доўга і рупліва замешваць, каб атрымалася эластычным і аднародным. Татарскія жанчыны робяць гэта надзвычай старанна, аж да гадзіны.
Гатовае цеста трэба тонка раскачаць, нарэзаць кружкамі (можна пры дапамозе вялікага кубка). Пакласці невялікую «галку» начынкі на кожны кружок з цеста, згарнуць калдуны, старанна зашчыпаць краі. Варыць у добра пасоленай вадзе на малым агні 5–6 хвілін пасля ўсплывання калдуноў на паверхню. Падаваць з булёнам, у якім варыліся, або зліць булён і падаваць са смятанай або топленым маслам.
Булён на татарскія калдуны звычайна варыцца на ялавічыне, прыпраўленай любістай (пра гэтую траву гл. артыкул у № 10/2020 «Нашай гісторыі»).



**Урачысты ўезд Януша Радзівіла праз Залатыя вароты ў Кіеў у 1651 годзе.** Малюнак Абрагама ван Вестэрфельта (копія апошняй чвэрці XVIII стагоддзя).
Узяцце Кіева было кульмінацыяй паходу войска ВКЛ на чале з Янушам Радзівілам супраць казакоў у 1651 годзе. Князь прыклаў багата намаганняў, каб «разрэкламаваць» свой вайсковы поспех і выкарыстаць яго ва ўласных палітычных мэтах.

BATOWSKI Z. ABRAHAM VAN WESTERVELT MALARZ HOLENDERSKI XVII WIEKU I JEGO PRACE W POLSCE. KRAKÓW, 1932.

# Фрагменты *літоўскай Атлантыды*

**Так як гісторыя адкрыцця старонак у браўзеры нашага камп'ютара здольная сказаць пра нашы сапраўдныя зацікаўленні больш, чым «аб'ектыўкі», так архіў замалёвак, зробленых рукой гетмана Януша Радзівіла, змяняе нашы ўяўленні пра гэтую асобу, пішуць кандыдат гістарычных навук Мікола Волкаў і Кірыл Карлюк.**

Януш Радзівіл — з тых постацяў, уяўленні пра якія ў нас сфарміравала мастацкая літаратура эпохі рамантызму. А канкрэтней — раманы Генрыха Сянкевіча. Для палякаў ён здраднік, бо разарваў — спрабаваў разарваць — унію ВКЛ з Польшчай і ўвайсці ў саюз са Швецыяй. Калі б яму ўдалося задуманае, Беларусь, імаверна, стала б іншай краінай.

Януш Радзівіл помніцца таксама як чалавек, які агнём і мячом падаўляў казацкія бунты. Гэта, у сваю чаргу, аўтаматычна рабіла яго негатыўным персанажам для савецкай гістарыяграфіі.

Няздольнасць Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVII стагоддзя вырашыць канфлікт з украінскімі казакамі і ўлагодзіць адносіны з суседнімі дзяржавамі прывяла яе ўрэшце да катастрафічных наступстваў. З 1648 года на Украіне ішло казацкае паўстанне на чале з Багданам Хмяльніцкім, якому палякі (украінскія землі з 1569 года былі часткай Кароны Польскай) не маглі даць рады нават пры дапамозе саюзнага войска ВКЛ. Урэшце на баку казакоў выступіла і Маскоўская дзяржава, якая ў 1654 годзе распачала вайну і за першыя два гады заняла амаль усю тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага. Праз год вайну

з Рэчу Паспалітай пачала і Швецыя, якая хутка авалодала значнай часткай Польшчы.

У такіх умовах гетман Януш Радзівіл ініцыяваў разрыў заключанай амаль за стагоддзе да таго, у 1569 годзе, Люблінскай уніі ВКЛ з Польшчай (гл. пра яе артыкул Уладзіміра Падалінскага ў № 6/2019 «Нашай гісторыі») і 20 кастрычніка 1655 года ў Кейданах на тэрыторыі цяперашняй Літвы на чале групы аднадумцаў падпісаў новую унію — ужо са Швецыяй. Рэалізаваць гэты маштабны праект, аднак, па розных прычынах не ўдалося, а ўначы з 30 на 31 снежня таго ж года князь памёр.

### Чорная легенда

Кейданская унія прыляпіла да Януша Радзівіла ў вачах палякаў імідж здрадніка, які хацеў адарваць ВКЛ ад Польшчы, а Генрык Сянкевіч сваім «Патопам» яго канчаткова замацаваў і папулярызаваў. Хоць апошнім часам польскія гісторыкі падкарэктавалі хрэстаматыйны погляд на Януша Радзівіла, бо прыйшлі да высновы, што стратэгія ягоных паводзін у час маскоўскай і шведскай навалы не была ўнікальнай. Бо тады не толькі ён, але і многія вышэйшыя ўраднікі, шляхта Рэчы Паспалітай масава пераходзілі на шведскі бок. Кіруючыся чыста прагматычнымі меркаваннямі.

У дзеяннях жа літоўскага гетмана выразна праглядаецца імкненне да адстойвання не толькі прыватных інтарэсаў, але і дзяржаўных уласна Вялікага Княства. Менавіта гэты момант быў вельмі істотны для літоўскіх гісторыкаў, якія яшчэ ў міжваенны час зрабілі з Януша Радзівіла нацыянальнага героя.

А вось савецкая гістарыяграфія, якая доўгі час дамінавала ў Беларусі, таксама малявала з Януша Радзівіла надзвычай адмоўную постаць, кіруючыся перадусім сацыяльнымі матывамі. Шанаваць «феадалаў» у БССР у прынцыпе было не прынята, а гетману ставілася ў віну яшчэ і падаўленне «казацка-сялянскага руху». Вялікім злачынствам Радзівіла лічыўся крывавы штурм і рабаванне занятага казакамі Пінска ў кастрычніку 1648 года, хоць гэтай аперацыяй кіраваў не ён сам, а стражнік Рыгор Мірскі.

### Забытая спадчына

Як бы там ні было, ставіцца да постацяў мінулага патрэбна без загадзя зададзеных ідэалагічных ▸


ДЗЯРЖАЎНЫ ЭРМІТАЖ

**Партрэт Януша Радзівіла.** Малюнак невядомага мастака, сярэдзіна XVII стагоддзя. Партрэт Януша Радзівіла паходзіць з 43 графічных малюнкаў прадстаўнікоў дому Радзівілаў, выкананых невядомым мастаком, верагодна, для планаванай серыі гравюр у круглых рамках. Гэта першая спроба стварэння графічнай галерэі роду, рэалізацыя якой адбылася з-за спусташальных войнаў на сто гадоў пазней.

### Януш Радзівіл

нарадзіўся 12 снежня 1612 года, і яму, як прадстаўніку біржанскай галіны славутага роду, была наканавана вайсковая служба. Ягоны бацька і яшчэ тры прамыя продкі да яго былі вялікімі гетманамі літоўскімі.

Кальвініст паводле веравызнання, Януш атрымаў добрую адукацыю ў Слуцкай гімназіі і за мяжой — ва ўніверсітэтах Лейпцыга, Альтдорфа і Лейдэна (Нямеччына і Нідэрланды). Па вяртанні на радзіму браў удзел у Смаленскай вайне (1632–1634) з Масквой на чале сваіх нанятых за мяжой палкоў. Валодаючы вялізнымі зямельнымі ўладаннямі і значным палітычным уплывам, ён здолеў у 1646 годзе атрымаць пасаду польнага гетмана літоўскага.

Ваенныя поспехі падчас казацкага паўстання 1648–1653 гадоў — ён перамог казацкія загоны ў дзвюх бітвах пад Лоевам, увайшоў на Украіну і заняў Кіеў — зрабілі Януша Радзівіла першым кандыдатам на пасаду вялікага гетмана. Нягледзячы на палітычнае супрацьстаянне Януша з каралём Янам ІІ Казімірам, апошні быў вымушаны прызнаць заслугі Радзівіла і надаў яму найвышэйшую вайсковую пасаду ў ВКЛ.

У пачатку вайны з Маскоўскай дзяржавай 1654–1667 гадоў камандаваў войскам ВКЛ, якое, хоць і атрымала некалькі невялікіх перамог, усё ж такі пад ціскам праціўніка мусіла адступаць далёка ўглыб дзяржавы. Улетку 1655 года была здадзена Вільня, пасля чаго Радзівіл адступіў у Кейданы, дзе заключыў унію са шведамі.

Але масавай падтрымкі з боку шляхты гэты ягоны крок не сустрэў, і ў выніку Януш Радзівіл мусіў адступаць далей на Падляшша, дзе ў ноч з 30 на 31 снежня 1655 года нечакана памёр у сваім замку Тыкоцін. Прычыны смерці гетмана дагэтуль да канца невядомыя: адныя лічаць, што яго атруцілі, іншыя — што скончыў жыццё самагубствам.




**Партрэт невядомага шляхціча.** Малюнак Януша Радзівіла, 1652 год.

рамак і ў кантэксце самой эпохі, у якой яны жылі, ды характэрных для яе каштоўнасцяў. А гісторыкам звычайна вельмі складана зразумець унутраны свет чалавека мінулага, характар і матывацыі яго ўчынкаў. У тым ліку часта і з-за абмежаванасці ды аднабаковасці крыніц. Аднак з Янушам Радзівілам гісторыя асаблівая.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску сярод дакументаў з нясвіжскага архіва Радзівілаў захаваўся надзвычай цікавы збор чарнавых малюнкаў і чарцяжоў сярэдзіны XVII стагоддзя. Адзін з пазнейшых уладальнікаў гэтага збору ёміста акрэсліў яго як «Абрысы розныя».

Вельмі падобныя да мінскага збору па характары выканання і почырку малюнкі трафейных казацкіх харугваў захоўваюцца і ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу. Доўгі час лічылася, што аўтарам гэтых накідаў быў стрыечны брат гетмана Януша — Багуслаў Радзівіл (гл. пра яго артыкул Кірыла Карлюка ў № 4/2018 «Нашай гісторыі»), а самі малюнкі з'яўляюцца праектамі.

Але вывучэнне выяў і надпісаў на чарнавіках, аналіз паперы,

Невялікі партрэт, зроблены на скорую руку на ўскрайку аркуша з малюнкам печы ў Варшаве. Выява выканана, калі Януш Радзівіл браў удзел у пасяджэннях вальнага сойма ў Варшаве. Сойм 1652 года ўвайшоў у гісторыю як першы сарваны праз выкарыстанне шляхецкіх прывілеяў. Пасол Упіцкага павета (на тэрыторыі цяперашняй Літвы) Уладзіслаў Віктарын Сіцінскі адмовіў сойму ў пралангацыі. Паводле адной з версій, ён пайшоў на гэта з-за прыватных інтарэсаў, паводле іншай — выканаў жаданне Януша Радзівіла, які меў востры канфлікт з каралём. Цікава, што пазней, у 1655 годзе, Сіцінскі быў сярод падпісантаў Кейданскай уніі. Яго муміфікаванае цела яшчэ ў XIX стагоддзі захоўвалася ва ўпіцкім касцёле, бо, маўляў, зямля не хацела яго прымаць. Вось такое негатыўнае ўяўленне склалася да няшчаснага пасла ў асяроддзі мясцовага люду. Зараз немагчыма вызначыць, хто прыцягнуў увагу гетмана ў Варшаве. Ці сапраўды прадстаўляе гэты малюнак менавіта Сіцінскага? Прынамсі партрэтнае падабенства можна адшукаць у вельмі схематычнай гравюры яго парэшткаў…

на якой яны былі зробленыя, а таксама шматлікіх гістарычных сведчанняў і згадак дазволіла вызначыць, што ўсе яны зробленыя рукой не Багуслава, а Януша Радзівіла і былі створаныя ў канцы 1640-х – першай палове 1650-х гадоў. І што асабліва важна — на іх пераважна адлюстраваныя ўжо наяўныя тады аб'екты, таму мы маем справу са свайго кшталту падарожнымі графічнымі нататкамі.

Аўтар малюнкаў не рабіў разгорнутых каментароў, часта не пазначаў месца, у якім знаходзіўся замаляваны аб'ект, і амаль ніколі не пісаў дату іх стварэння. Выглядае, што яны




**Муміфікаванае цела Уладзіслава Сіцінскага ва ўпіцкім касцёле.** Зыгмунт Глогер, 1903 год.

рабіліся перадусім для прыватнага карыстання і задавальнення ўласнай цікавасці. Гэта значыць, што мы маем справу са своеасаблівым люстэркам, праз якое магчыма пабачыць унутраны свет іх стваральніка і яго эпоху. Без дадатковай інфармацыі гэтыя малюнкі было няпроста зразумець трэцім асобам, што і стала прычынай цяжкасцяў з іх атрыбуцыяй у наш час.

### «Асабліва схільны да малявання…»

Адной з праблем было якраз атаясамленне малюнкаў з постаццю магната, дзяржаўнага дзеяча, палкаводца Януша Радзівіла. Нават сярод гісторыкаў нярэдка пашырана памылковае ўяўленне, нібыта занятак малявальшчыка не адпавядаў высокаму рангу князя. Хоць архіўныя крыніцы сведчаць, што на самай справе той любіў

гэтым займацца і неаднойчы выкарыстоўваў свае здольнасці для ўласных патрэб. Яшчэ ў дзяцінстве Януш цікавіўся выяўленчым мастацтвам і з усіх заняткаў быў «асабліва схільны да малявання». Яго бацька Крыштаф Радзівіл нават выказваў жаданне знайсці адпаведнага настаўніка (якім мог быць адзін з прыдворных мастакоў Радзівілаў), каб развіць здольнасці сына.


РАСІЙСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА

**Казацкая харугва са «штучкай».** Малюнак Януша Радзівіла, 1651 год. Адна з 27 харугваў, захопленых войскам ВКЛ у казакоў і замаляваных Радзівілам падчас кампаніі 1651 года. Сцягі разам з іншымі казацкімі трафеямі і палоннымі былі ўрачыста паднесеныя каралю на сойме ў Варшаве ў 1652 годзе. У 1655 годзе пасля захопу Варшавы шведскімі войскамі яны трапілі ў рукі шведаў і былі вывезеныя ў Стакгольм. З гэтых трафейных казацкіх харугваў у шведскім Музеі арміі да нашага часу захаваліся 12 і адзін бунчук. Цэнтральны дэкаратыўны элемент сцяга, на які звярнуў увагу і Радзівіл, — «штучка ад намёту». На жаль, невядома, дзе і калі казакі захапілі турэцкі шацёр, элемент якога быў улучаны ў харугву. Гэта магла быць нават знакамітая бітва пад Хоцінам 1621 года, у якой казакі бралі чынны ўдзел.

Сярод збору Любчанскай кунсткамеры ў 1633 годзе значылася «выява аблогі з адзнакамі ўласнай рукой» Януша Радзівіла, якую ён, напэўна, зрабіў падчас аблогі галандцамі Маастрыхта ў 1632 годзе. Князь тады якраз вучыўся ў Еўропе, а ў міжчасе выконваў функцыі каралеўскага пасла, наведваючы ваенны лагер штатгальтара Рэспублікі Злучаных Правінцый (так тады зваліся цяперашнія Нідэрланды) Фрэдэрыка Генрыха Аранскага і назіраючы за вайной галандцаў з іспанцамі.

Яшчэ адзін невялікі малюнак Януша Радзівіла дайшоў да нас у лісце да бацькі з Гамбурга 4 жніўня 1633 года: графічны накід харугвы для нанятых ім у Льежы «добрых валонаў» дзеля вайны з Маскоўскай дзяржавай.

Маляванне ўвогуле не было чымсьці асабліва ганебным ні для арыстакратаў, ні для манаршых асоб таго часу. Захаваліся некаторыя простыя графічныя накіды Янушавага бацькі Крыштафа Радзівіла: малюнак аблогі крэпасці Какенгаўзен, а таксама схемы гаспадарчых будынкаў.


ARMÉMUSEUM

**Казацкая харугва ў зборы Музея арміі ў Стакгольме.** Першая палова XVII стагоддзя.





НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Гербавы картуш з гарматы Жыгімонта II Аўгуста.** Малюнак Януша Радзівіла, сярэдзіна XVII стагоддзя.

**Гармата Жыгімонта II Аўгуста 1563 года.** Малюнак Філіпа Якаба Тэлота, пачатак XVIII стагоддзя.

Герб з гарматы Жыгімонта II Аўгуста 1563 года мае тыповую для артылерыі, што адлівалася ў віленскай людвісарні, кампазіцыю: у цэнтры — гербы «Пагоня» і «Калюмны», над імі — велікакняжацкая мітра, а навокал — тэкст з імем і тытулам манарха і датай вырабу. Прагрэс у вайсковай справе прывёў да таго, што ў сярэдзіне XVII стагоддзя такія гарматы былі ўжо архаічнымі. Напэўна, гармату вырашылі пусціць на пераліўку разам з некаторымі іншымі. Перспектыва яе страты магла натхніць гетмана зрабіць малюнак яе герба, які з'яўляўся найбольш важным элементам аздаблення.

Праўда, сын меў значна лепшыя здольнасці і больш спрактыкаваную ў гэтым руку.

Малявацъ у той час вучылі і спадчыннікаў трону. Захаваліся нататнікі з дзіцячымі практыкаваннямі ў маляванні маленькага французскага «караля-сонца» Людовіка XIV ▶

і будучага шведскага караля-заваёўніка Карла XII, у якіх тыя дэманстравалі даволі выразны талент да гэтай справы. Любіў маляваць у графіцы ды фарбамі кароль Жыгімонт III Ваза, дорачы пазней свае творы сваякам і самым набліжаным прыдворным.

Януш Радзівіл быў ці не найбуйнейшым пасля каралеўскага двара і Каталіцкага касцёла мецэнатам, замоўцам і калекцыянерам твораў мастацтва ў тагачаснай Рэчы Паспалітай (падрабязней пра найлепшы яго партрэт і ягоную гісторыю гл. артыкул Паўліны Скурко ў № 2/2019 «Нашай гісторыі»). Таму з тэхнікай і асаблівасцямі накідаў ён дакладна быў знаёмы вельмі добра.



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Галоўны фасад брамы Спаскага манастыра ў Слуцку.** Малюнак Януша Радзівіла, 1648–1649 год.
Януш Радзівіл добра ведаў старажытны горад на Случы з маленства. Ён належаў яго стрыечнаму брату Багуславу. У 1625—1628 гадах Януш навучаўся ў мясцовай кальвінісцкай гімназіі і практычна ўвесь час жыў у Слуцку. Многія лацінамоўныя лісты таго часу ён падпісваў: *«Slucciae ex castris musarum»* («са Слуцка, сядзібы муз»). Нядаўна збудаваная драўляная брама Спаскага манастыра, відаць, уразіла князя сваёй незвычайнай архітэктурай, бо ён замаляваў усе чатыры фасады, зрабіў план другога паверха і прамаляваў асобныя дэталі. Брама адначасова з'яўлялася званіцай, на ёй жа стаяла супрацьпажарная варта горада.

## Чарцяжы і планы

Сярод малюнкаў гетмана дамінуе архітэктурная тэматыка. Пераважаюць чарцяжы фасадаў і планы будынкаў, маюцца віды і планы гарадоў, а таксама спісы будынкаў у некалькіх паселішчах. Асобна вылучаюцца накіды вайсковай і рэлігійнай тэматыкі: планы ваенных лагераў, спісы і малюнкі вайсковага рыштунку і царкоўных рэчаў.

Робячы замалёўкі, Януш Радзівіл імкнуўся да фіксацыі параметраў аб'ектаў, таму ў многіх выпадках маюцца дакладныя архітэктурныя абмеры. Напрыклад, брама Спаскага манастыра ў Слуцку была замаляваная з усіх чатырох бакоў, да таго ж быў зроблены план другога паверха. Пры гэтым магнат значна апярэдзіў свой час, бо падобныя абмеры архітэктурных помнікаў на нашых землях сталі шырока выконваць толькі ў XIX стагоддзі.

Фактычна праз малюнкі мы можам зазірнуць у свет драўлянай архітэктуры земляў Беларусі і Украіны таго часу. І ў многіх выпадках гэта ці не адзіная для нас магчымасць. Бо літаральна праз некалькі гадоў

## Абаронца праваслаўя ў ВКЛ

На падставе малюнкаў Радзівіла можна адзначыць вялікую цікавасць аўтара да праваслаўнай культуры. Аб гэтым сведчаць шматлікія выявы праваслаўных храмаў, манастырскіх брам, спісы прадметаў царкоўнага начыння і інш. Каталіцкіх аб'ектаў усяго некалькі, а пратэстанцкіх няма зусім. Гэты момант вельмі істотны, паколькі ідэалагічныя вобразы падаўлення казацкага паўстання зрабілі Януша Радзівіла ледзь не галоўным ворагам русінаў — продкаў сучасных беларусаў і ўкраінцаў. Так, напрыклад, шырока распаўсюджана меркаванне, што ў жніўні 1651 года войскам ВКЛ быў спалены і разрабаваны Кіеў, прычым нібыта мела месца апаганьванне праваслаўных храмаў. Аднак выкананыя ўласнаручна Янушам Радзівілам малюнкі кіеўскіх святыняў сведчаць пра цікавасць і пашану да іх з боку гетмана. А маштабнае рабаванне горада трэба прызнаць міфам, які быў створаны яшчэ сучаснікамі з мэтай дыскрэдытацыі гетмана і яго арміі.

Больш за тое, у гэты час ва ўмовах каталіцкага ўціску галоўным абаронцам Праваслаўнай царквы ў ВКЛ выступаў якраз пратэстант Януш Радзівіл, другім шлюбам жанаты з праваслаўнай малдаўскай князёўнай Марыяй Лупу (пра партрэт, на якім адначасова выяўленыя дзве ягоныя жонкі, нябожчыца і жывая, чытайце артыкул Надзеі Вусавай у № 7/2019 «Нашай гісторыі»). Яны нярэдка былі фундатарамі праваслаўных цэркваў і манастыроў у сваіх уладаннях. У 1653 годзе Януш Радзівіл нават дамогся вяртання віленскаму праваслаўнаму брацтву трох цэркваў у сталічнай Вільні.



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Іканастас Уваскрасенскай царквы ў Барысаве.** Малюнак Януша Радзівіла, 1653 год. Некалькі малюнкаў Януш Радзівіл прысвяціў Барысаву. Яго асаблівую ўвагу прыцягнуў іканастас Уваскрасенскай царквы: сярод малюнкаў мінскага збору маюцца два чарнавікі і адзін чыставік з яго выявай. На некаторых пазначаныя памеры, зробленыя літарныя пазначэнні і подпісы. Януш Радзівіл меў вялікую асабістую цікавасць да праваслаўнай культуры, пра што сведчаць яго шматлікія малюнкі. Акрамя таго, Радзівіл ведаў старабеларускую мову, цікавіўся даўнімі кнігамі на кірыліцы, а ў сваім зборы жывапісу меў праваслаўныя абразы.

гэты свет амаль незваротна знік у полымі вайны 1654–1667 гадоў.

## Галандскі мастак на службе літоўскага гетмана

У час войнаў з казакамі пры Янушу Радзівіле знаходзіўся прафесійны галандскі мастак Абрагам ван Вестэрфельт. Той быў наняты гетманам для стварэння серыі малюнкаў, копіі якіх захаваліся да нашага часу. Малюнкі павінны былі праслаўляць перамогі арміі ВКЛ і яе палкаводца. Ёсць падставы меркаваць, што мастак і ягоны патрон супрацоўнічалі ў справе малявання і некаторыя віды з калекцыі малюнкаў Януша Радзівіла маглі быць выкананыя менавіта галандцам.

Яны не былі роўнымі ў жывапісе, але гетман мог прымаць рашэнні адносна сюжэтаў твораў галандца, кампазіцыі. Урэшце, Януш Радзівіл мог наўпрост замаўляць у мастака панарамы і накіды для іх, а пасля сам іх падпісваў. Так, у калекцыі малюнкаў захаваліся спісы будынкаў у Галоўчыне, Копысі, Магілёве, Мінску і Шклове, якія маглі складацца паралельна са стварэннем такіх панарам. Іншымі словамі, Вестэрфельт і Радзівіл фактычна маглі стаяць поруч: першы рабіў накід панарамы, а другі — спіс будынкаў, якія дамінавалі ў сілуэце горада. Пазней малюнкі галандца і занатоўкі яго патрона меркавалася звесці, але першыя, на жаль, да нас так і не дайшлі.

## Унікальны збор малюнкаў

Калекцыя чарнавых малюнкаў Януша Радзівіла — унікальны збор, якому няма блізкіх аналагаў ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне.

Азнаёміцца з ім можна ў кнізе «Абрысы розныя. Малюнкі і чарцяжы гетмана Януша Радзівіла», якая зусім нядаўна пабачыла свет у межах даследчыцкага праекта Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. ◆




ФОТА ВАЛЯНЦІНЫ АНДРЭЕВАЙ

# Усяслаў Чарадзей, *які выстаяў*

**Рэдкі выпадак: хоць Полацкі летапіс не захаваўся і ўсё, што мы ведаем пра гэтага князя, належыць пяру яго праціўнікаў, веліч яго постаці неаспрэчная. Пра Усяслава Брачыславіча піша кандыдат гістарычных навук Генадзь Семянчук.**

«У год 6609-ы. Памёр Усяслаў, полацкі князь, у месяцы красавіку на 14-ы дзень, у 9 гадзін дня, у сераду». Амаль тысячу год таму, у 1101 годзе, кіеўскі аўтар «Аповесці мінулых гадоў» вельмі дакладна зафіксаваў смерць унікальнай асобы сярэднявечнай гісторыі Усходняй Еўропы — полацкага князя Усяслава Брачыславіча. За ўвесь час ад смерці ў 1054 годзе кіеўскага князя Яраслава Уладзіміравіча, празванага Мудрым, да мангольскай навалы ў 30–40-я гады XIII стагоддзя ён быў адзіным князем, які займаў, хай сабе і непрацяглы час, кіеўскі пасад, не будучы нашчадкам Яраслава.

Але да такой падрабязнай пазнакі не толькі дакладнай даты, але нават і гадзіны смерці, што фактычна была прызнаннем важнасці асобы князя не толькі для Полацка, кіеўскія летапісцы прыйшлі не адразу. Спачатку яны ахвотна перадавалі чуткі пра нараджэнне Усяслава нібыта ад чарадзейства і праз гэта ягоную прыродную драпежнасць.

Прычынай таму былі складаныя адносіны Усяслава з Кіевам.

## Княства ад вытокаў да вусця Дзвіны

Усяслаў Брачыславіч «сеў на стол» свайго бацькі Брачыслава Ізяславіча ў 1044 годзе, маючы 15–16 гадоў. Цягам першых 16 год ягонага кіравання кіеўскія крыніцы нічога не паведамляюць пра Полаччыну і дзейнасць маладога князя. Найпраўдападобней, гэта тлумачыцца тым, што дзейнасць Усяслава тады не выходзіла за межы Полацкай зямлі, а Яраслаў і ягоныя дзеці былі занятыя сваімі ўласнымі справамі.

Археалагічныя даследаванні апошніх 35 гадоў пераканаўча сведчаць, што менавіта пры Усяславе ў сярэдзіне XI стагоддзя заканчваецца працэс пераносу адміністрацыйнага цэнтра Полацка з гарадзішча Рагвалода на Верхні замак. Тут у 1050-х малады князь пабудаваў велічны Сафійскі сабор (трэці ва Усходняй Еўропе пасля кіеўскага і наўгародскага), які зрабіўся не толькі духоўным сімвалам, але таксама цэнтрам засяроджання палітычнай і адміністрацыйнай улады Полацка.

Таксама Усяслаў Брачыславіч актыўна займаўся ўмацаваннем знешніх межаў Полацкага княства і пашырэннем яго тэрыторыі. Полацкая зямля на гэты час ахоплівала плошчу каля 100 тысяч км$^2$, як сучасныя Паўднёвая Карэя ці Ісландыя альбо як паў-Беларусі. Яно межавала на поўдні з Тураўскім княствам, якое знаходзілася пад уплывам Кіева, на поўначы і паўночным усходзе — з Наўгародскай зямлёй, на ўсходзе — з навастворанымСмаленскім княствам, на захадзе і паўночным захадзе — з балцкімі


WIKIMEDIA COMMONS

**Захоп Яраславічамі менчукоў у палон.** Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу (спіс XV стагоддзя).

## «Уздумаў Усяслаў варажыць...»

Найбольш яскрава закінуты кіеўскімі летапісцамі міф пра Усяслава Полацкага як чарадзея і пярэваратня быў адлюстраваны ў літаратурным помніку XII стагоддзя — у «Слове аб палку Ігаравым» (перадаецца ў вершаваным перакладзе Янкі Купалы 1921 года):

У сёмы Траянавы век
Уздумаў Ўсяслаў варажыць
Аб мілай дзяўчыне сабе,
Што з славай яго заручыць.

Пусціўшыся ў хітрыкі, ён
На борздага ўсеўся каня
І скочыў, памчаўся чым свет
Да Кіева-грода, да дня.

І кіеўскі дзідаю там
Пасад дакрануў залаты;
Ад іх скочыў зверам лютым
З Белгорада ў поўнач; тады

Ахутаўся сіняю мглой,
А раннем, узняўшысь да зор,
Навограду браму лязом
Сякераю насцеж адпёр.

Разбіў Яраслававу там
Прыдбаную славу мячом
І скочыў праз поле і лог
К Нямізе з Дудутак ваўком...

...Усяслаў-князь людзям суд судзіў,
Гарадамі князёў надзяляў,
А сам поначы, свету на здзіў,
Ваўкалакам ці воўкам гуляў,

Ён бо з Кіева да петухоў
Горад Тмутаракань дасцігаў
І вялікаму Хорсу без слоў
Воўкам шлях борзда перабягаў.

Таму ў Полацку рана званы
Пазванілі ў Сафеі святой
Да завутрані,— ён жа праз сны
Ужо ў Кіеве звон чуе той.

Хоць і вешчая, кажуць, душа
Ў дзёрзкім целе ягоным была,
Але часта бяды без нажа
Нацярпеўся, што доля дала.

Яму першаму вешчы Баян
І прыпеўку дасціпна зложыў:
«Хітры, быстры, ні птах той быстран
Суду Божага не пеаражыў!»




**Бітва на Нямізе.** Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу.

плямёнамі. Упарадкоўваліся старыя гарады і памежныя крэпасці (Ізяслаўль, Віцебск, Друцк, Дрысвяты, Браслаў), а таксама будаваліся новыя: Менск на Нямізе, Лагойск, Лоск, Герцыке і Кукенойс.

Найбольш паспяхова дзяржаўная ўлада князя Усяслава Брачыславіча пашыралася на тэрыторыі, населеныя балцкімі і прыбалтыйска-фінскімі плямёнамі, уздоўж галоўнай жыццёвай артэрыі Полацка — Дзвіны. Полацкія князі імкнуліся кантраляваць раку ад вытокаў да вусця. Пры бацьку Усяслава, Брачыславе, з далучэннем у 1021 годзе Віцебска і Усвятаў улада Полацка пашырылася на Верхняе Падзвінне.

А Усяслаў паставіў сабе за першую палітычную мэту авалоданне Ніжнім Падзвіннем і паспяхова яе выканаў. Лівы, якія жылі на Балтыйскім узбярэжжы, і суседнія з імі народы, земгалы і куршы, падначаліліся Полацкаму княству як даннікі і ваенныя саюзнікі. А найбліжэйшыя суседзі Полацка, латгалы і селы, не згадваюцца ў «Аповесці мінулых гадоў» як даннікі Полацка толькі таму, што іх тэрыторыі ў другой палове XI стагоддзя непасрэдна ўвайшлі ў склад Полацкага княства. Менавіта тут з'явіліся полацкія гарады-фарпосты Герцыке і Кукенойс.

### Заклятыя саюзнікі

У 1060 годзе сыны Яраслава Мудрага, Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, разам з Усяславам удала схадзілі ў стэп на вайну з качавым пляменем торкаў. Полацкі князь за саюзніцкую падтрымку атрымаў тэрыторыі на Дняпры ў раёне Оршы і Копысі. Падобным чынам, дарэчы, яшчэ ў 1021 годзе Яраслаў аддаў Брачыславу Віцебск і Усвяты.

Але саюзніцкія адносіны Полацка і Кіева цягнуліся толькі да сярэдзіны 1060-х, калі Усяслаў Брачыславіч быў вымушаны іх парушыць і ўступіць у дваццацігадовую канфрантацыю з сынамі і ўнукамі Яраслава. Летапісы не гавораць наўпрост пра прычыны разладу, але, супаставіўшы факты, пра іх можна здагадацца.

Справа ў тым, што ў 1054 годзе памёр кіеўскі князь Яраслаў, пасля чаго вядучай палітычнай сілай на Русі стаў саюз трох ягоных старэйшых сыноў — Ізяслава, Святаслава і Усевалада. Галоўнай мэтай палітыкі гэтага трыумвірату было ўмацаванне і пашырэнне кіеўскай улады на землях ▶

Усходняй Еўропы. Натуральна, што ў такой палітычнай сітуацыі раней альбо пазней Яраславічы мусілі звярнуць сваю ўвагу на Полацкае княства.

Ужо пасля сумеснага паходу старэйшых Яраславічаў з Усяславам на торкаў кіеўскі князь Ізяслаў разам з наўгародцамі выправіўся на сасолаў — народ, які жыў у паўднёва-заходняй частцы цяперашняй Эстоніі, — і абклаў іх данінай. Сасолы былі найбліжэйшымі суседзямі ліваў, даннікаў Полацка. Пашырэнне кіеўска-наўгародскай улады на гэты прыбалтыйска-фінскі народ было ўспрынята ў Полацку як пагроза яго кантролю над дзвінскай гандлёвай камунікацыяй і падпарадкаванымі яму тэрыторыямі ліваў, куронаў, земгалаў.

У той жа час Яраславічы ўзмацнілі свае пазіцыі на шляху «з варагаў у грэкі», усталяваўшы кандамініум у Смаленскай зямлі. А гэта стварала небяспеку ўжо ўсходнім межам Полацкага княства. Так што, несумненна, менавіта жаданне перашкодзіць памкненням Кіева падпарадкаваць усё навокал, уключна з Полацкам, і стала галоўнай прычынай канфрантацыі Усяслава з кланам Яраславічаў.

## Не з Яраславічаў, але з Рурыкавічаў

Нягледзячы на тое, што Усяслаў Чарадзей быў адзіным вялікім кіеўскім князем за два стагоддзі, які не належаў да нашчадкаў Яраслава Мудрага, з Яраславічамі ён быў у дастаткова блізкім сваяцтве. Дзед Усяслава Ізяслаў даводзіўся Яраславу Мудраму родным братам, бо абодва яны дакладна былі сынамі вядомага кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча, хрысціцеля Русі. Летапісы сцвярджаюць, што і маці ў іх таксама была адна — славутая полацкая князёўна Рагнеда, хоць бывае, што некаторыя даследчыкі ў дачыненні Яраслава і ставяць гэта пад сумнеў.
У кожным разе, калі нават браць толькі мужчынскую лінію, бацька Усяслава Брачыслаў Ізяславіч прыходзіўся Ізяславу, Святаславу і Усеваладу Яраславічам стрыечным братам, а Усяслаў быў для іх, адпаведна, стрыечным пляменнікам. Хоць паводле ўзросту дзядзькі і пляменнік мала розніліся паміж сабой, бо ўсе згаданыя князі, якія былі ключавымі фігурамі палітычнага жыцця на рускіх землях у другой палове XI стагоддзя, нарадзіліся ў прамежку з 1024 па 1030 год.
І ўсе яны належалі да розных адгалінаванняў адной княскай дынастыі — Рурыкавічаў, якая тады панавала на ўсёй Русі.

### «Всеслав рать почал»

Спачатку больш актыўным у супрацьстаянні Усяслаў Брачыславіч — Яраславічы быў полацкі князь. У другой палове 1060-х ён напаў спачатку на Пскоў, пасля на Ноўгарад. У апошнім была абрабавана нават галоўная святыня — Сафійскі сабор, што сведчыць пра сур'ёзнасць намераў Усяслава ў гэтым канфлікце. Хутчэй за ўсё, ён хацеў нейтралізаваць Ноўгарад, каб узмацніць свой кантроль над балтыйскім узбярэжжам.

Адказ Яраславічаў быў хуткім і жорсткім. Браты, аб'яднаўшы свае войскі, рушылі ў кірунку паўднёва-заходніх межаў Полацкай зямлі — да Менска. Спачатку яны перарэзалі мянян, як называлі тады жыхароў сённяшняй сталіцы, а пасля сутыкнуліся ў баі непасрэдна з Усяславам.

Бітва на Нямізе вясной 1067 года скончылася перамогай паўднёварускіх князёў, аднак Усяслаў заставаўся моцны


**Сафійскі сабор**
ў сучасным Полацку.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY MVW@TUT.BY

і небяспечны. Таму праз чатыры месяцы, 10 ліпеня 1067 года, Яраславічы запрасілі полацкага князя на перамовы, быццам бы заключыць пераміры'е, пры гэтым цалавалі крыж, што не зачэпяць яго. Але як толькі ладдзя з Усяславам і яго двума сынамі прыбыла ў Смаленск, Ізяслаў Яраславіч паланіў княскую сям'ю і даставіў у Кіеў, дзе ўсіх трох пасадзілі ў зямлянку-поруб.

Невядома, колькі б праседзеў Усяслаў у такой турме пры іншай хадзе падзей, але ў наступным 1068 годзе на рускую зямлю



**Усяслаў перанёс адміністрацыйны цэнтр Полацка з гарадзішча Рагвалода на Верхні замак. Тут у 1050-х малады князь пабудаваў велічны Сафійскі сабор**

напалі качэўнікі-полаўцы і разбілі аб'яднанае войска братоў Яраславічаў. Кіяне запатрабавалі ад князёў аб'явіць усеагульны збор зброі і коней, каб выступіць супраць ворага. Тыя не паслухаліся, і кіеўскія людзі (хутчэй за ўсё, з намовы купцоў з полацкага двара ў Кіеве) вызвалілі з поруба полацкага князя, абвясціўшы яго сваім уладаром. Ізяслаў уцёк з Кіева па дапамогу ў Польшчу, а Усяслаў Брачыславіч пасля таго сем месяцаў (ад 15 верасня 1068-га да канца красавіка 1069-га, калі верыць летапісу) займаў кіеўскі пасад — найбольш прэстыжны ва ўсёй тагачаснай Русі.

### У Кіеве — на карысць Полацку

Гэтыя сем месяцаў князь скарыстаў, каб максімальна перашкодзіць Яраславічам пабудаваць цэнтралізаваную імперыю ва Усходняй Еўропе. Праўдападобна, што Усяслаў здолеў зацікавіць Святаслава і Усевалада Яраславічаў новымі тэрыторыямі ўзамен на лаяльнасць. За сабою Усяслаў пакінуў Кіеў і, натуральна, родны Полацк, а да гэтага дадаў яшчэ Смаленск. Чарнігаўскаму князю Святаславу адышоў Ноўгарад, бо мы бачым на тамтэйшым пасадзе ягонага сына Глеба, а пераяслаўскаму князю Усеваладу дасталася Валынь, дзе мы сустракаем ягонага сына Уладзіміра, будучага Манамаха.

Але пасля перамогі над Яраславічамі ў пачатку верасня 1068 года полаўцы праз два месяцы зноў напалі на русічаў — гэтым разам на Чарнігаўскае княства. Праўда, гэтым разам няўдала. Летапіс інфармуе, што ▸

▶ супраць нападнікаў выступіў Святаслаў Яраславіч Чарнігаўскі з 3 000 ваяроў. 1 лістапада рускія войскі перамаглі полаўцаў і нават захапілі ў палон іх правадыра.

Імя кіеўскага князя Усяслава Брачыславіча аўтарам летапісу, складзенага ў пачатку XII стагоддзя на палітычную замову кіеўскай княскай дынастыі, не згадвалася. Але варта задумацца, ці настолькі моцны і ўплывовы быў Святаслаў, а патэнцыял Чарнігаўскага княства такі магутны, каб у трохі большы за месяц ад мінулай супольнай паразы тэрмін у яго атрымалася самастойна сабраць даволі значнае войска і атрымаць над качэўнікамі такую ўпэўненую перамогу?

Хутчэй за ўсё, на чале арганізацыі абароны паўднёвых межаў Русі стаяў усё ж кіеўскі князь Усяслаў Брачыславіч, чаго і хацелі ад яго кіяне, калі вызвалілі з поруба. Да кіеўскага апалчэння далучыліся дружыны Святаслава і Усевалада Яраславічаў, а таксама ўласная Усяслава. А на чале новага войска стаў старэйшы з Яраславічаў — Святаслаў, бо ён быў найбольш дасведчаны ў вайсковай справе, а да таго ж непасрэдна зацікаўлены ў абароне свайго Чарнігаўскага княства ад полаўцаў. Сам жа кіеўскі князь застаўся ў сталіцы ўпарадкоўваць сваю ўладу і вырашаць бягучыя справы.

Калі ж на Кіеў рушыў разам з войскам польскага князя Баляслава Смелага Ізяслаў Яраславіч, Усяслаў не стаў змагацца за велікакняскі пасад, а ўцёк у родны Полацк. Кіеўскі сталец ён займаў сілай абставін, не меў намеру сядзець на ім доўга, а таму было б марнаваннем сілаў за яго ваяваць. Тым больш што ўсё, што ён мог зрабіць для свайго княства, князь ужо зрабіў: пасварыў братоў і тым самым аслабіў іх.

### Кіеў не адступае

Ізяслаў, аднак, выгнаннем Усяслава не палічыў канфлікт вычарпаным. Ён пайшоў з польскім войскам следам за полацкім князем ды выгнаў таго ў 1069 годзе з Полацка. На непрацяглы час на Полаччыне ўсталявалася ўлада сыноў Ізяслава Яраславіча і польскай князёўны Гертруды — цёткі Баляслава II Смелага. Але з Ізяславам мы не бачым ягоных родных братоў Святаслава і Усевалада. Хутчэй за ўсё, яны абралі тактыку чакання: дадзеных ім Усяславам земляў яны старэйшаму брату не вярталі і сваіх войскаў у дапамогу не пасылалі.

Полацкі князь жа ў той час не меў дастаткова сілаў, каб пазмагацца за родны горад, таму быў вымушаны падацца на эміграцыю, да балцкіх народаў. Недзе там, адносна недалёка ад радзімы, ён назапашваў вайсковыя сілы, каб вярнуцца ў родны Полацк у 1071 годзе.

Першым захадам Усяслава пасля вяртання была спроба вярнуць паўднёвыя тэрыторыі свайго княства з цэнтрам у Менску, аднавіць і ўзмацніць полацка-кіеўскую мяжу. Але пасля няўдалага паходу 1071 года ён ад адкрытага ваеннага змагання перайшоў да дыпламатычных сродкаў і прапанаваў кіеўскаму князю мір. А тут якраз у 1073 годзе браты выгналі Ізяслава з Кіева, і вялікім князем зрабіўся больш лаяльны да Чарадзея Святаслаў Яраславіч Чарнігаўскі.

Праўда, праз тры гады Святаслаў памёр. Яго месца заняў апошні Яраславіч — Усевалад (княжыў у 1077–1093 гадах). Менавіта Усевалад і ягоны сын Уладзімір Манамах ініцыявалі новае абвастрэнне адносін з Полацкам. Падпарадкаваць апошні Кіеву, за кошт яго пашырыць свае тэрыторыі, а калі не, дык сплюндраваць і аслабіць Полацкую зямлю і яе князя — вось мэты іх палітыкі.

Кідаецца ў вочы, што вайсковыя паходы паўднёварускіх князёў на Полацкую зямлю вылучаліся на фоне звычайных тагачасных вайсковых кампаній асаблівай лютасцю. Улетку 1077 года паход на Полацк здзейснілі Усевалад з Уладзімірам Манамахам; зімой 1077–1078 года — Манамах з наўгародскім князем Святаполкам Ізяславічам. Гэтым разам Яраславічы ўпершыню выкарысталі ў міжусобнай





**Усяслаў высылае Святаслава на полаўцаў.** Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу.


WIKIMEDIA COMMONS

**Усяслаў на кіеўскім троне.** Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу.

барацьбе агульнаславянскіх ворагаў — полаўцаў. У 1078 годзе Усяслаў напаў на Смаленск, а Кіеў у адказ панішчыў тэрыторыі Полаччыны ад Лукомля да Лагойска і ад Лагойска да Друцка. Нарэшце, 1085 год — поўнае знішчэнне Уладзімірам Манамахам Менска, у якім не ацалела «ні чэлядзь, ні скаціна».

**Як ні стараліся кіеўскія князі, падпарадкаваць Полацкае княства яны не змаглі**

А што Усяслаў? Па магчымасці ён бараніў сваю зямлю, часам атакаваў суседнія варожыя тэрыторыі, як у 1078 годзе Смаленск ці трэці раз Ноўгарад. Але больш увагі полацкі князь у апошнія дзесяцігоддзі свайго кіравання надаваў унутранаму ўпарадкаванню сваёй дзяржавы: адбудове знішчаных гарадоў, умацаванню ўлады над падпарадкаванымі суседнімі балцкімі і фінскімі народамі ды ўмацаванню вонкавых межаў сваёй краіны. А таму, нягледзячы на вялікія намаганні Усевалада Яраславіча, падпарадкаванне Полацкага княства Кіеву тады так і не адбылося.

Дадатковая пра Усяслава Чарадзея глядзіце ў праграме з серыі «Гісторыя пад знакам Пагоні» тэлеканала «Белсат»



### Пасля Усяслава

Смерць Усяслава Брачыславіча ў 1101 годзе прынесла палёгку варожым Полацку сілам — нашчадкам Яраслава, якія панавалі ў суседніх з ім княствах. Полацкая зямля, падзеленая паміж сынамі Усяслава на ўдзелы, уяўляла ўжо меншую пагрозу для Кіева і Ноўгарада. А канчаткова полацкая пагроза знікла пасля захопу Уладзімірам Манамахам Глеба Усяславіча Менскага і ягонай смерці ў 1119 годзе ў Кіеве ды пасля высылкі часткі полацкіх князёў у 1129 годзе ў Візантыю князем Мсціславам Уладзіміравічам.

Але ліквідаваўшы Полацк як канкурэнта на палітычнай мапе Усходняй Еўропы, нашчадкі

Славутаму полацкаму князю прысвечана шмат твораў беларускага мастацтва, сярод якіх і такі незвычайны, як створаная ў 2016 годзе кампазітарам, сцэнарыстам і прадзюсарам Раманам Арловым фольк-рок-опера «Чарадзей».



Яраслава не змаглі сцерці вобраз Усяслава Брачыславіча з памяці кіян і наўгародцаў. Яшчэ ў 1147 годзе падчас бунту ў Кіеве супраць Усевалада Алегавіча Чарнігаўскага кіяне нагадвалі князю, што аднойчы яны ўжо самі паставілі сабе кіраўніка і могуць паўтарыць.

Цікава, што супярэчлівасць ацэнак учынкаў і дзейнасці полацкага князя Усяслава сярод сучаснікаў, зафіксаваная ў крыніцах, захавалася і нават замацавалася ў сучаснай гістарыяграфіі. З пункту гледжання існавання адзінай «Старажытнай Русі» альбо «ўсходнеславянскага братэрства», Усяслаў — сепаратыст, які імкнуўся зламаць усталяваную сацыяльна-палітычную і гаспадарчую сістэму гэтай дзяржавы і пашырыць свае тэрыторыі цаной захопу новых земляў у суседзяў. Аднак з пазіцый палачан Усяслаў Брачыславіч быў гарантам іх самастойнасці.

Пры ім Полацкая зямля канчатковаператварылася ў самастойную раннесярэднявечную дзяржаву, якая характарызавалася наяўнасцю ўсіх неабходных атрыбутаў і палітычных інструментаў: стабільнай тэрыторыі, найвышэйшай улады ў асобе князя, уласнай дынастычнай лініі, апаратаў прымусу і ідэалогіі, рэлігійнай арганізацыі і ўзброеных сіл. Гэта ўсё дазваляла полацкаму князю праводзіць незалежную ад якога-небудзь цэнтра замежную і ўнутраную палітыку. ◆

# З-пад Шчорсаў — у Сібір

**Пра тое, як беларусы з Наваградчыны будавалі сваё жыццё за тысячы кіламетраў ад родных мясцін, піша старшая навуковая супрацоўніца Наваградскага гісторыка-краязнаўчага музея Галіна Кавальчук.**

### Плясосы, Панямонь і Слабада

Пра гісторыю перасялення з Наваградчыны ў Сібір сям'і Лецкаў супрацоўнікі нашага музея пачулі ад Юрыя Комлева, які жыве ў Алтайскім краі. Ягоныя прадзед, дзед і бабуля нарадзіліся і выраслі недалёка ад Шчорсаў пад Навагрудкам: прадзед Цімох Лецка — у вёсцы Плясосы, дзед Лука Лецка — у вёсцы Слабада, а бабуля Ганна — у Панямоні.

Пра паходжанне сваіх продкаў па лініі маці Юрый даведаўся, даследуючы генеалогію роду Лецкаў. Вывучаючы метрычныя кнігі і архіўныя дакументы, старыя польскія і савецкія карты, ён высветліў, што жыхары невялікай вёсачкі Плясосы насілі, як і ягоныя продкі, прозвішча Лецка. А непадалёк знаходзіліся аж два засценкі з назвамі Лецка і Лецкі. Часта сустракаецца такое прозвішча і ў навакольных вёсках Лозкі, Балотца, Клінцы, Слабада.

У архіўных дакументах вёскі Плясосы і Панямонь упершыню згадваюцца ў 1799 годзе, а Слабада — у 1845-м. На 1845 год у Плясосах было 6 двароў і 71 прыгонны селянін, у Панямоні — 34 двары і 262 прыгонныя, у Слабадзе — 29 двароў і 228 душ прыгонных сялян.

Сёння вёска Панямонь уваходзіць у склад Шчорсаўскага сельсавета Навагрудскага раёна, а вёскі Плясосы і Слабада, як і засценкі Лецка ды Лецкі, зніклі яшчэ ў першай палове XX стагоддзя. Сёння нават старажылы не ведаюць дакладнага месца іх знаходжання.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў усе гэтыя вёскі былі ўласнасцю знакамітага магнацкага роду Храптовічаў. Гаспадарка, арганізаваная Храптовічамі, была адной з самых перадавых у Вялікім Княстве Літоўскім. У маёнтку займаліся не толькі вырошчваннем сельскагаспадарчых культур ды жывёлагадоўляй, але рабілі таксама фурманкі, выпякалі хлеб, варылі піва, займаліся сыраварствам, разводзілі рыбу.

Пры гэтым Храптовічы ўвесь час клапаціліся пра ўзровень жыцця сваіх сялян, а таксама пра асвету іх дзяцей. Таму часта сяляне з гаспадарак суседніх памешчыкаў уцякалі ў Шчорсы. Гісторык Аляксандр Ельскі ў «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін», што выдаваўся напрыканцы XIX стагоддзя, пісаў, што сяляне Храптовічаў адрозніваюцца ад іншых разумовым развіццём, бо пра іх дабрабыт клапоцяцца некалькі пакаленняў гэтага роду.


JOZEF BORETTI

**Сяляне са Шчорсаў.** 1894 год.

### «Не пакінулі б мы край наш родны, каб было дзеля нас у ім хлеба…»

Тым не менш не ўсё было так добра, бо ў Наваградскім павеце адчуваўся востры недахоп зямлі. Малазямелле, недахоп працы, а таксама нізкая яе аплата сталі прычынай росту перасяленняў адсюль у розныя канцы Расійскай імперыі: на свабодныя землі Сібіры і Далёкага Усходу, на заводы і чыгунку Пецярбурга, Масквы, Рыгі, Вільні, Кіева і іншых гарадоў. Напрыклад, толькі ў красавіку 1887 года больш за 60 сем'яў з Нягневіцкай, Пачапаўскай, Райчанскай і Шчорсаўскай валасцей выказалі жаданне перасяліцца на Урал. Рэальнай альтэрнатывай перасяленню ўглыб Расійскай імперыі для жыхароў Наваградчыны ў гэты час была хіба толькі эміграцыя ў Амерыку.

Праўда, нам вядомая і гісторыя перасялення сялян з Наваградчыны на Піншчыну, у вёску Калоднае цяперашняга Столінскага раёна. Восенню 1888 года туды пераехалі 345 чалавек,

а вясной 1889-га яшчэ 336 чалавек са Шчорсаў, Мілушава, Лаўрышава і іншых месцаў (гл. пра Калоднае, гэты кавалак Панямоння на Пінскім Палессі, артыкул мясцовай ураджэнкі Ірыны Рубан у № 2/2020 «Нашай гісторыі»). Таксама вядомы гісторык Мікола Улашчык згадваў у сваёй манаграфіі пра родную вёску Віцкаўшчына на Міншчыне (цяпер Дзяржынскі раён), што і тут частка мясцовага насельніцтва складалася з перасяленцаў з Наваградчыны — вёсак Цырын, Некрашэвічы і Жухавічы цяперашняга Карэліцкага раёна.

Але гэта былі зусім нешматлікія выпадкі, калі наваградскія сяляне перасяляліся ў месцы, размешчаныя адносна недалёка ад сваіх радавых сядзібаў. Што давала ім магчымасць у выпадку няўдачы на новым месцы без асаблівых цяжкасцяў вярнуцца назад. Зусім іншая справа — перабрацца ў Сібір, на адлегласць у тысячы кіламетраў ад родных вёсак, на неабжытыя землі з суровым кліматам. Для тых, хто паспяхова адолеў такі доўгі шлях, вярнуцца назад ужо амаль не было шанцаў.


З АРХІВА ЮРЫЯ КОМЛЕВА

**Сям'я Лецкаў.** 1930-я гады.

## Вятрамі рэвалюцыі

Гісторыя перасялення ў Сібір сям'і Лецкаў, з аднаго боку, з'яўляецца тыповай для многіх беларусаў-перасяленцаў, а з другога — і адметнай. Лука і Ганна Лецкі (дзявочае прозвішча Ганны — Ляпешка) нарадзіліся і выраслі ў суседніх вёсках, але пазнаёміліся толькі ў Сібіры, куды трапілі рознымі шляхамі.

Лука Лецка нарадзіўся ў 1879 годзе ў вёсцы Слабада. У маладым узросце ён ажаніўся з мясцовай дзяўчынай, ад якой у яго было двое дзяцей: сын Аляксандр і дачка Наталля. Сам Лука ведаў цяслярскую справу, быў лесарубам, апрацоўваў зямлю. Жылося цяжка. Каб пракарміць сям'ю, не хапала сродкаў, бо лепшыя землі былі ў памешчыкаў. А таму сяляне сталі шукаць сабе працу ў горадзе.

Вось і Лука Лецка яшчэ перад Першай сусветнай вайной падаўся ў Пецярбург. Тут ён працаваў рабочым на заводзе. Потым хацеў вярнуцца дадому, але Наваградчына была акупаваная немцамі, таму ён мусіў выправіцца назад. У 1917 годзе ў Петраградзе Луку закруціў вір рэвалюцыі, ён яшчэ не раз спрабаваў вярнуцца ў родную вёску, але кожны раз без поспеху. Так ён застаўся без сям'і, адзін у вялікім горадзе, сярод незнаёмых людзей, без падтрымкі.

І тады Лука раптам успомніў, што недзе ў Сібіры жыве ягоны стрыечны брат Сідар ▶

▶ Лецка. Трапіў ён туды, збегшы з катаргі, якую адбываў за падпал памешчыцкай сядзібы ў сваёй роднай вёсцы на Наваградчыне. Пазней да яго з Беларусі пераехала сям'я, а потым і шмат былых аднавяскоўцаў. Да Сідара і накіраваўся Лука Лецка.

### Тразвонава і Цюменцава

Сідар Лецка жыў у глухой вёсачцы з гучнай назвай Тразвонава (руск. *Трезвоново*). У пачатку мінулага стагоддзя Тразвонава было вёскай Кулундзінскай воласці Томскай губерні. Цяпер гэтая вёска называецца Гразнова ў гонар мясцовага ўраджэнца, Героя Савецкага Саюза Аляксандра Гразнова і ўваходзіць у склад Цюменцаўскага раёна Алтайскага края.

Лука Лецка дабраўся да Тразвонава ў 1918 годзе. У яго на руках быў дакумент, выдадзены 16 мая 1918 года Кашынскім саветам па аказанні дапамогі бежанцам у пошуках месца жыхарства. Кашын — гэта невялікі горад у Цвярской губерні. Калі, чаму і як Лука ў ім апынуўся, сказаць цяжка.

У той час у Тразвонаве і ў суседняй вёсцы Цюменцава ўжо былі цэлыя калоніі перасяленцаў з Наваградчыны. Тут жылі сем'і Краскоўскіх, Дубовікаў, Гарбатоўскіх, Палякаў, Лекантаў, Жукоў, Комараў, Базароў, Мальцаў. Яны жылі побач і дапамагалі адзін аднаму. У Цюменцаве нават адна з вуліц называлася Мінскай.

### Дзве сям'і

У 1920 годзе Лука Лецка, канчаткова страціўшы надзею на злучэнне са сваёй сям'ёй, ажаніўся з удавой Ганнай Поляк, той самай Ганнай Ляпешка, якая была родам з Панямоні.




**Сучасная вуліца былога Тразвонава.**

Яна разам са сваім першым мужам і сынам выехала ў Сібір у 1911 годзе, падчас правядзення сталыпінскай аграрнай рэформы. У Першую сусветную вайну яе муж загінуў, і Ганна засталася з сынам на руках.

Пажаніўшыся, Лука і Ганна пачалі паступова абжывацца. У іх нарадзілася яшчэ трое дзяцей. У 1930-я гады, у часы калектывізацыі, мусілі разам з усімі аднавяскоўцамі ўступіць у калгас, працавалі там.

## Прозвішчы перасяленцаў перарабілі на рускі манер

Лука ўсынавіў сына Ганны і даў яму сваё прозвішча. А неўзабаве даведаўся пра тое, што ягоны сын ад першага шлюбу, Аляксандр, які жыў на Наваградчыне, эміграваў у Паўднёвую Амерыку. У 1937 годзе ў Тразвонава, на імя Лукі Лецкі, прыйшоў ліст ад Аляксандра, ён спрабаваў знайсці свайго бацьку. Пачалі перапісвацца. Пазней стала вядома, што Аляксандр з польскім пашпартам перабраўся праз Францыю ў Аргенціну і там пражыў доўгае жыццё.

Бацьку ж Аляксандра кантакты з ім ледзь не вылезлі бокам. У 1939 годзе Лука Лецка быў арыштаваны як вораг народа, і фармальнай падставай для таго сталі акурат два лісты, якія ён атрымаў ад сына. На шчасце, у Лукі захавалася тое самае вышэйзгаданае пасведчанне Кашынскага савета, якое следчыя палічылі важным аргументам у судовай справе. Урэшце Луку адпусцілі, і родныя лічаць, што менавіта гэты дакумент выратаваў яму жыццё. Гэтае пасведчанне доўгі час захоўвала дачка Лукі, Вольга Комлева, а зараз яно перайшло ў спадчыну ягонаму ўнуку Юрыю.

### Засталіся толькі прозвішчы

Лука і Ганна Лецкі так і пражылі ў Сібіры ўсё сваё астатняе жыццё. Ці сумавалі яны па родных мясцінах, дзе нарадзіліся і выраслі? Відаць, так. Прынамсі, яны перапісваліся са сваімі роднымі: Лука з дачкой Наталляй, якая жыла ў вёсцы Балотца, Ганна з сёстрамі Фядорай Калядой, якая жыла ў Шчорсах, і Надзеяй Паўловіч з Панямоні. Але




**Ганна Лецка.** 1940-я гады.



З АРХІВА ЮРЫЯ КОМЛЕВА

**Пасведчанне на імя Лукі Лецкі.**

сустрэцца ўжывую ім так больш і не давялося. Вельмі ўжо шмат кіламетраў ляжала паміж імі.

З часоў перасялення навагрудскіх беларусаў у Сібір прайшло ўжо больш за сто гадоў. Даўно няма сярод жывых Лукі Лецкі і ягонай жонкі, памерлі нават іх дзеці. За гэты час нашчадкі Лецкаў перамяшаліся з яраслаўскімі і разанскімі перасяленцамі. Асіміляваліся, засвоілі мясцовую гаворку, традыцыі. Для іх дзяцей і ўнукаў Сібір ужо сапраўдная радзіма.

Але ў тых мясцінах Алтайскага края, дзе некалі аселі перасяленцы з Наваградчыны, яшчэ сёння гучаць беларускія прозвішчы: Краскоўскі, Каляда, Дубовік, Гарбатоўскі, Лецка. Хоць шмат беларускіх прозвішчаў цяпер перароблена на рускі лад. Палякі сталі Паляковымі, Леканты — Лекантавымі, Жукі — Жукавымі, Комары — Камаровымі, Базары — Базаравымі, Мальцы — Мальцавымі. І цяпер ужо з ходу і не зразумееш, што некалі ў іх былі беларускія карані. Тым больш што нават тыя, хто захаваў прозвішчы продкаў, па самасвядомасці ўжо рускія. ◆

Пра гісторыю ўдзелу беларусаў у каланізацыі Сібіры чытайце ў артыкуле Андрэя Вашкевіча «Як ліцвіны заваёўвалі царам Сібір» у № 11/2019 «Нашай гісторыі».

**У наш час з'явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць разняволіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**



## «Белоруссия» з галівудскага фільма

Гісторык **Андрэй Радаман** напісаў у сябе ў Фэйсбуку:

«Не раз праглядаў фільм "Любоўная гісторыя" (*"Love Affair"*) 1994 года, у якім апошні раз у сваім жыцці на вялікім экране з'явілася амерыканская актрыса Кэтрын Хёпберн. А на тое, як называецца карабель, на якім галоўныя героі прыплылі на выспу Раіятэа (Ульятэа) у Французскай Палінезіі, звярнуў увагу толькі сёння ноччу. Асаблівасці ўспрыняцця ў пэўным кантэксце і часе».

І сапраўды цікава: карабель той, аказваецца, называўся «Белоруссия». І на стужачках матроскіх бесказырак гэтае слова напісана на чыстай рускай мове. Прытым гэта не выдуманы, а рэальны карабель. Сам аўтар допісу, крыху пагугліўшы, неўзабаве ў каментарах прывёў пра яго цікавыя звесткі.

Аказваецца, карабель пад такой назвай быў адным з найбольш папулярных і прэстыжных савецкіх круізных лайнераў. Ён быў пабудаваны на фінскай суднаверфі *«Wärtsilä»* ў горадзе Турку ў 1975 годзе і для таго часу быў вельмі сучасным ды даваў пасажырам максімальна магчымыя выгоды. Спачатку «Белоруссия» была грузапасажырскім лайнерам, а з 1985-га перааробленая ў чыста пасажырскі. І была яна такая не адна — адначасова па марах і акіянах хадзілі яе блізняты пад назвамі «Грузія», «Азербайджан», «Карэлія» і «Казахстан».

Прыпісаны карабель быў да Чарнаморскага марскога параходства, а фрахтавалі яго не толькі савецкія, але і замежныя кампаніі: нямецкая *Delphin Seereisen*, французская *Transtour Company*, аўстралійская *CTC Cruises*... І дзе толькі гэты лайнер не пабываў — ягоная геаграфія прасціралася ад архіпелага Шпіцберген на поўначы да паўднёвай часткі Ціхага акіяна.

Пасля распаду СССР «Белоруссия» перайшла ва ўласнасць незалежнай Украіны, а пасля рамонту ў 1993 годзе, які суправаджаўся фінансавымі скандаламі, атрымала новую назву: «Казахстан II». А пасля судна пайшло па руках, яго ўладальнікі, па якіх можна вывучаць сусветную геаграфію, мяняліся як пальчаткі. У 1996-м карабель быў зарэгістраваны на Мальце і перайменаваны ў *«Delphin»*, а ў 2007-м рэгістрацыя была яшчэ раз зменаная — гэтым разам на багамскую. Належыць *«Delphin»* цяпер кампаніі з Маўрыкія *Vishal Cruises Pvt Ltd.*, а плавае недзе каля берагоў Паўднёвай Амерыкі.

## Тураў быў у Юравічах?

Экскурсавод **Цімох Акудовіч** у сваім тэлеграм-канале «Беларускі Бабілон»



нагадвае пра адну з загадак нашай старажытнай гісторыі:

«Быў на старадаўняй Русі такі горад Тураў. Ён узгадваецца ўпершыню ў 980 годзе. Па легендзе, яго заснаваў брат Рагвалода князь Тур, якому не хапіла месца ў Полацку, і ён, блукаючы па беларускіх рэках, дайшоў да Прыпяці.

У Тураве княжыў знакаміты Святаполк Акаянны, тут сядзеў у стаўпе і пісаў свае пропаведзі Кірыла Тураўскі. Агулам горад у XII стагоддзі быў адным з найбуйнейшых на Русі хрысціянскіх цэнтраў. Але пасля нашэсця хана Батыя ў 1241 годзе пачаў згасаць.

Ёсць у Беларусі горад Тураў. Ну, як горад: насельніцтва нават да 3 000 не дацягвае. Але ў цэнтры горада стаіць невялікае гарадзішча, дзе археолаг Пятро Лысенка адкапаў у 1960-х гадах падмурак вялікай праваслаўнай царквы XII стагоддзя. Чым пацвердзіў магутнасць старадаўняга Турава.

І ёсць у Беларусі вёска Юравічы. Стаіць на той жа Прыпяці, што і Тураў, але ў Калінкавіцкім раёне Гомельскай вобласці. Вядомыя Юравічы сваім езуіцкім манастыром і самай старой у Беларусі стаянкай першабытнага чалавека.

Але археолаг Алег Іоў звярнуў увагу на тое, што апроч вышэй азначаных аб'ектаў ёсць у Юравічах яшчэ і гарадзішча. Прычым па памеры яно адно з самых вялікіх у Беларусі — каля 8 га. І вельмі багатае на знаходкі.

Вось жа, Іоў высунуў версію, што старадаўні Тураў знаходзіўся менавіта ў Юравічах. Бо знаходкі тут якраз прыпадаюць на Х – пачатак ХІ стагоддзя, час княжання таго самага Святаполка Акаяннага. А ў цяперашнім Тураве такіх старых артэфактаў не было знойдзена.

Вось такое пытанне. У адным месцы назва і вялізная царква, а ў другім маштабнае гарадзішча, артэфакты і дацироўка. І дзе быў горад, мы не ведаем. А Тураў — гэта ж не дробязь. Напраўду адзін з найважнейшых гарадоў Русі.

Па выніку маем яшчэ адну загадку нашай гісторыі. Хаця гэтая, здаецца, усё ж будзе разгаданая».

## Дакладная запіска аб чэргах у горадзе Мінску ў 1939 годзе

Гісторык **Зміцер Дрозд** піша ў сябе ў Фэйсбуку: «Усе гады існавання СССР сапраўдным сімвалам савецкага жыцця былі чэргі. Людзям не хапала ўсяго: адзення, абутку, газы, прадуктаў, нават самых неабходных: хлеба, цукру, масла... Вось адна са звычайных карцінак з вуліц яшчэ даваеннага Мінска»:

«Праведзенай праверкай 22 і 23 красавіка ў прамтаварных магазінах адзначана ўтварэнне чэргаў з вечара і ночы:

Крама № 17 па вуліцы Ленінскай — чарга стала ўтварацца з 12 гадзін ночы. У гадзіну ночы было 50 чалавек, якія расцягнуліся па Ленінскай вуліцы і частцы Савецкай вуліцы. Магазін прадаваў гатовую вопратку і інш. швейныя вырабы. Выкінута было тавараў да 50.000 руб. Чарга складалася пераважна з прыезджых.

Крама № 10 — па Набярэжнай вуліцы — чарга ўтварылася з 8 гадзін вечара прыезджымі грамадзянамі. У гадзіну ночы чарга дасягала 100 чал., а да раніцы ўжо 1200 чал. У продажы была бавоўна, якой пастуліла ў продаж на 15.000 р.

ГУМ — праверкай у 7 гадзін раніцы выяўлена, што чарга складалася з 1000 чалавек, пераважна з гарадскіх жыхароў. Чарга расцягнулася па Камсамольскай да вуліцы Інтэрнацыянальнай. У продажы быў трыкатаж і абутак на 80.000.

Крама Бавоўназбыту — на пасёлку «Камінтэрн» — чарга стаіць круглыя суткі і складаецца выключна з прыезджых. Ноччу асобы, якія стаялі ў чэргах, ляжалі і спалі, каля 200 чал. Да адкрыцця крамы ўжо было больш за 1000 чалавек. Прадавалася бавоўна.

Пры праверцы Чэрвеньскага рынку ноччу пакупнікі ўсю ноч хадзілі па Свярдлоўскай вуліцы, чакаючы адкрыцця базару. Да адкрыцця базару народу сабралася да 2000 чалавек і ўтварылі вялікі натоўп па ўсёй Базарнай плошчы. У краму ГУМ тавар да адкрыцця завезены не быў і паступіць толькі да 12 гадзін. Чарга чакае паступлення тавару.

Адзначаны рост чэргаў ля прадуктовых крам. У апошні час масла паступае ў продаж з вялікімі перабоямі. 23 красавіка з раніцы паступіла масла ў продаж, і чэргі ля крамаў, дзе выкладалася масла, дасягнулі ад 300–500 чалавек.

Значна павялічыўся прыезд у Мінск на закупы грамадзян з Гомельскай, Магілёўскай, Арлоўскай, Палтаўскай, Харкаўскай і Чарнігаўскай абласцей.

22 красавіка на начны цягнік на Крамянчуг сабралася пасажыраў звыш 1000 чалавек, цягнік узяў толькі 750 чал., астатнія засталіся, не атрымаўшы квіткоў. Такое ж становішча было і ноччу 23 красавіка, калі засталося ад цягніка, не атрымаўшы білетаў, каля 300 чалавек.

З боку органаў міліцыі прыняты меры навядзення парадку ў чэргах высылкай дадатковых нарадаў.

Начальнік міліцыі БССР
маёр міліцыі Краснашэеў.
23.04.1939 года. Мінск, БССР». ◆



Сайт **«Медыя-Палессе»** расказаў пра знойдзеныя фота і негатывы Мікалая Стасюка. Ён быў электрыкам Пінскай рачной флатыліі ў 1920–1930-я і захапляўся фатаграфіяй (на фота ён сядзіць справа). Яго фотаапарат і калекцыю кадраў знайшоў на гарышчы дома сын, які вярнуўся ў Пінск жыць. Цяпер калекцыю аддалі на захоўванне краязнаўцу Аляксандру Навараю.
**На фота: пяць пінскіх дэндзі стаяць каля брамы нямецкіх вайсковых могілак.**


























## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт», Kniaz.by
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.